27 лютага 2015 | № 8 (425)

Новы час

novychas.info

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Дзядзька Рыгор. Дзённік выбраных сустрэч стар. 30







# Ці пасябруе Еўропа з Лукашэнкам?

## Міратворчыя ініцыятывы Лукашэнкі даюць плён



Сяргей ПУЛЬША

Цягам тыдня ў Беларусі высаджваецца дэсант еўрапейскіх палітыкаў. Да нас прыехалі спецдакладчык Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы Андрэа Рыгоні, намеснік старшыні Еўрапейскай народнай партыі ў Еўрапарламенце Сандра Калніэце і намеснік генсека Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў Хельга Шмід. Па некаторых звестках, увесь гэты дэсант прыехаў у краіну па запрашэнні афіцыйнага Мінска.

Першай ластаўкай быў візіт 19–20 лютага ў Мінск міністра замежных спраў Латвіі — краіны, якая зараз старшынюе ў ЕС, — Эдгарса Рынкевічса. Агенцтва Reuters па выніках візіту адзначыла, што гэта «чарговы крок у працэсе, што развіваецца і здольны абярнуцца паслабленнем заходніх санкцый, і нават запрашэннем Лукашэнкі на саміт Усходняга партнёрства ў маі». Reuters у рэдакцыйным артыкуле цытуе Аляксандра Рыгоравіча, які заявіў: «Калі Латвія дапаможа нам больш зблізіцца з ЕС у перыяд свайго старшынства і не толькі, мы вам будзем вельмі ўдзячныя». І адзначае, што гэтыя словы «не засталіся незаўважанымі».

Мала хто сумняваецца ў тым, што гэты дэсант еўрачыноўнікаў у чарговы раз будзе прамацваць глебу для змякчэння ці зняцця некаторых санкцый у дачыненні да афіцыйнага Мінска. Тое, што еўрачыноўнікі наведваюць Мінск па запрашэнні афіцыйнай беларускай улады, прадстаўнікі апазіцыі, напрыклад, лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, лічыць «новым выклікам грамадзянскай супольнасці і прыхільнікам пераменаў». Прынамсі, так ён расцаніў візіт еўратройкі на сваёй старонцы ў Facebook. Праўда, у візітоўцаў запланаваныя сустрэчы і з прадстаўнікамі апазіцыі. І, паводле таго ж Лябедзькі, апазіцыя прапануе Еўропе не рабіць рэзкіх крокаў, прынамсі, да прэзідэнцкіх выбараў, якія пройдуць увосень.

Шчыра кажучы размовы пра зняцце санкцый пад уплывам міратворчай дзейнасці Аляксандра Лукашэнкі падаюцца абсалютна недарэчнымі. Канешне, вельмі добра, што беларускі правадыр прыкладае намаганні па ўрэгуляванні канфлікту на Данбасе. Але санкцыі ў адносінах да афіцыйнага Мінска ўводзіліся зусім па іншых прычынах. Напрыклад, Беларусь была пазбаўленая статусу спецыяльна запрошанага ў ПАСЕ з-за таго, што ў выніку рэферэндуму 1996 года быў разагнаны Вярхоўны Савет, і з таго часу ніводныя парламенцкія выбары ў краіне не былі прызнаныя свабоднымі, сумленнымі і дэмакратычнымі. Усе астатнія санкцыі, уключаючы «спісы неўязных у Еўропу», былі накладзеныя з-за парушэнняў выбарчых правоў, правоў на свабоду сходаў, асацыяцыяў і СМІ. У той жа час да краіны было высунутае і адносна новае патрабаванне па адмене альбо мараторыю на смяротнае пакаранне. Таксама санкцыі ўводзіліся ў сувязі з палітычна матываваным пераследам, палітвязнямі, парушэннем правоў прафсаюзаў, і гэтак далей.

У ніводнай з гэтых сфераў, з якіх узніклі санкцыі да Беларусі, як кажуць у той жа Еўропе, «прагрэсу няма». Дык чаму ж павінна абмяркоўвацца пытанне пра іх адмену альбо зняцце? Вось, напрыклад, Міжнародная арганізацыя працы з-за парушэння правоў прафсаюзаў выключыла Беларусь з сістэмы гандлёвых прэферэнцый. І вяртанне ў гэтую сістэму не разглядаецца да таго часу, пакуль з правамі прафсаюзаў не будзе ўсё нармальна.





### Справа ідзе да адмены санкцый

Палітычны аглядальнік Раман Якаўлеўскі расцэньвае візіт, як ён выказаўся, «святой троіцы» «прыкметай працэсу, які называюць пацяпленнем адносінаў з Еўропай». «Пытанне ў іншым: гэтая нармалізацыя адносінаў з Еўропай ідзе на фоне пагаршэння адносінаў еўрапейскіх структураў з Расіяй. Еўрапарламент заўсёды займаў жорсткую пазіцыю ў адносінах да Расіі, а ў Савеце Еўропы Расія на год прыпыніла сваё сяброўства», — адзначае Якаўлеўскі.

Можа, на гэтым фоне пагаршэння адносінаў Еўропы і Расіі, Еўропа ў чарговы раз спрабуе нейкім чынам «аслабіць расійскі ўплыў на Беларусь», альбо «адцягнуць сінявокую ад Расіі»? Менавіта такім чынам у мінулым тлумачылі розныя кшталту захады і спробы змякчэння санкцый у адносінах да афіцыйнага Мінска.

Якаўлеўскі так не лічыць. «Адцягнуць Беларусь ад Расіі немагчыма. Спробы гуляць у такія гульні ёсць, але яны не тое што выглядаюць несур'ёзна. Лукашэнка нікуды Беларусь ад Расіі не адвядзе. Можа быць, пра гэта нехта і марыць у Брусэлі альбо Страсбургу, але з рэальнасцю гэта не мае анічога агульнага», — кажа эксперт.

Ці будуць канкрэтныя вынікі ад візіту еўрапейскай тройкі ў Беларусь? Такія вынікі, па словах Якаўлеўскага, «неадназначныя», і, як ён выказаўся: «Ускрыццё пакажа». «Але спробы прыпудрыць правячы рэжым у Беларусі ідуць, і адназначна я б не казаў пра захаванне альбо адмену санкцыяў. Да адмены справа ідзе. Пасля рукапацісканія Лукашэнкі і Меркель знаходжанне яго пад санкцыямі неяк дзіўнавата. Прычым, гэтае пацісканне адбылося ў яго дома, а не ў яе», — заўважае Якаўлеўскі.

Адзінае, пра што можна казаць з упэўненасцю, — адліга не будзе імгненнай. Той жа Рыгоні, напрыклад, прадставіць паліткамітэту ПАСЕ папярэднюю справаздачу пра свой візіт у Беларусь 18 сакавіка. Калі ён агучыць поўны даклад — невядома. А ўжо калі ПАСЕ прыме па ім рашэнне — дык гэта ўвогуле яшчэ «за гарамі».

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БРЭСТ. Журналістку аштрафавалі завочна



**Суд Ленінскага раёна Брэста пайшоў на грубае парушэнне беларускага заканадаўства, у тым ліку працэсуальнага кодэксу, а таксама Канстытуцыі і Міжнародных нормаў. Пра гэта паведаміла незалежная журналістка Аліна Літвінчук.**

Згодна з пастановай суда, 8 студзеня Аліна Літвінчук, не маючы акрэдытацыі, узяла інтэрв'ю ў старшыні Брэсцкага абласнога аддзялення Беларускага фонду міра Лідзіі Раманюк, чым парушыла Закон Аб сродках масавай інфармацыі.

Грамадзянка нібыта здзейсніла незаконны выраб інфармацыйных матэрыялаў. Сведка Лідзія Раманюк у судзе пацвердзіла факт дачы інтэрв'ю для Беларускага Радыё Рацыя, што адлюстравана ў пастанове суда.

Суд прызнаў Аліну Літвінчук вінаватай у адміністрацыйным парушэнні і прызначыў штраф у памеры 40 базавых велічыняў, альбо 7 мільёнаў 200 тысяч беларускіх рублёў.

— Мяне ніхто не выклікаў у міліцыю афіцыйна. Я не ставіла свой подпіс пад тым, што я азнаёмленая з матэрыяламі справы. Пра тое, што адбыўся суд, я дазналася па факце. Тут парушэнне Канстытуцыі Рэспублікі, якая гарантуе нам права на законны збор і распаўсюд інфармацыі. Гэта і парушэнне і міжнародных нормаў — Пакт пра грамадзянскіх і палітычны правах, які падпісала Беларусь.

Са слоў Аліны Літвінчук, незаконны прысуд вынес суддзя Семенчук, а на суд і ў міліцыю яе ніхто ў пісьмовай форме не запрасіў. Суд не ўведаміў, што супраць яе заведзеная адміністрацыйная справа. Аліна Літвінчук атрымала ліст пастановы суда ў паштовую скрыню. Цяпер яна рыхтуе зварот да старшыні суда Ленінскага раёна ў сувязі з супрацьпраўнымі дзеяннямі ў адносінах да яе, а таксама скаргу ў абласны суд.

**racyja.com**

### ГОМЕЛЬ. Кастусь Жукоўскі трымае сухую галадоўку



**Гомельскі грамадзянскі актывіст Кастусь Жукоўскі, які адбывае 10-сутачны арышт у ІЧУ нібыта за дробнае хуліганства (брудную лаянку) працягвае сухую галадоўку. Сёння яго наведае адвакат.**

Нагадаем, 20 лютага актывіст панёс скаргу ў аблвыканкам, там узнік канфлікт з міліцыянерам-ахоўнікам на вахце, у выніку Кастуся Жукоўскага абвінавацілі ў бруднай лаянцы. Суд пакараў яго арыштам тэрмінам на 10 сутак.

Як паведаміў праваабаронца Леанід Судаленка, з ІЧУ затрыманы накіраваў шэраг скаргаў — ва УУС Гомельскага аблвыканкама, абласны суд і калегію суддзяў.

У скарзе ва УУС, якому падпарадкоўваецца ІЧУ, Кастусь Жукоўскі звяртае ўвагу, што ў судовай пастанове, вынесенай ад імя Рэспублікі Беларусь, напісана «адміністрацыйнае спагнанне ў выглядзе арышту вылічаць з 20 лютага 2014 года». «Адміністрацыя ізалятара часовага ўтрымання УУС Гомельскага аблвыканкама прыняла мяне для адбыцця адміністрацыйнага арышту, палічыўшы гэта памылкай друку. Заяўляю, што адміністрацыя ІЧУ абавязана была вярнуць мяне разам з судовай пастановай у суд для выпраўлення памылкі друку, у той час, як я да сённяшняга дня па ўказанай пастанове адбываю адміністрацыйнае спагнанне», — звяртае ўвагу затрыманы.

Ён просіць кіраўніцтва УУС правесці праверку, па выніку якой даць прававую ацэнку дзеянням адміністрацыі ІЧУ ў частцы прыняцця яго для адбыцця адміністрацыйнага арышту на падставе судовай пастановы, па якой скончыўся тэрмін для адбыцця адміністрацыйнага арышту.

Таксама Кастусь Жукоўскі накіраваў касацыйную скаргу ў Гомельскі абласны суд. Ён піша, што пастанову суду аб прыцягненні яго да адміністрацыйнай адказнасці лічыць незаконнай. Па-першае, суд разгледзеў адміністрацыйную справу ў закрытым пасяджэнні, адмовіў затрыманаму правесці судовы разгляд з удзелам публікі, журналістаў і іншых зацікаўленых бакоў. Другое: правёўшы закрытае судовае паседжанне, суд пазбавіў грамадскага актывіста права на падрыхтоўку сваёй абароны і на абарону з дапамогай свабодна абранага абаронцы (адваката). Трэцяе: пры разглядзе адміністрацыйнай справы суд адмовіў у заяўленым хадайніцтве аб вядзенні адміністрацыйнага працэсу на адной з дзяржаўных моваў РБ, а менавіта — на беларускай, што з'яўляецца прамым парушэннем ПВК (Працэсуальна-выканаўчага кодэксу).

Таксама ў касацыйнай скарзе заяўнік указвае на тое, што суд так спяшаўся прызнаць яго вінаватым у правапарушэнні, што ў судовай пастанове напісаў «адміністрацыйнае спагнанне ў выглядзе арышту вылічаць з 20.02.2014», што наўпрост сведчыць аб незаконнасці вынесенай судом пастановы.

Ён просіць адмяніць пастанову суду Цэнтральнага раёну.

Калегію суддзяў Кастусь Жукоўскі просіць праверыць кваліфікацыю суддзі суду Цэнтральнага раёна Гомеля Осіпавай.

**spring96.org**

# Справы супраць Адміністрацыі прэзідэнта не будзе

Марат ГАРАВЫ

**Суддзя суда Ленінскага раёна Мінска Ірэна Бролішс адмовілася ўзбуджаць грамадзянскую справу на Адміністрацыю прэзідэнта.**

Нагадаем, што 3 лютага дзевяць актывістаў грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры накіравалі ў суд Ленінскага раёна Мінска скаргу на неправамерныя дзеянні (бяздзеянне) дзяржаўнага органа, што ўшчамляе правы грамадзянаў.

Сярод падпісантаў скаргі — жыхары Бабруйска, Крупак, Мінска і Мінскага раёну, а таксама без вызначанага месца жыхарства.

У скарзе, між іншым, адзначалася, што 12 лістапада 2014 года 29 грамадзянаў, у тым ліку і заяўнікі скаргі ў суд, накіравалі дзясятую заяву на прыём да кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, але ў чарговы раз атрымалі адпіску. На сваю ж скаргу на гэтыя дзеянні кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, адрасаваную кіраўніку дзяржавы, грамадзяне ўвогуле не атрымалі аніякага адказу. Дарэчы, гэта быў саракавы зварот актывістаў грамадзянскай ініцыятывы да прэзідэнта Беларусі за апошнія восем гадоў.

Вось чаму грамадзяне вырашылі звярнуцца ў суд, бо наяўнасць праблемы адпісак — адказаў, якія абыходзяць сутнасць пастаўленых у зваротах пытанняў, — не дазваляе людзям вырашаць іх канкрэтныя справы.

Заяўнікі прасілі суд прызнаць неправамернымі дзеянні (бяздзеянне) кіраўніцтва Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якое адмаўляе ім у прыёме і не вырашае праблему адпісак.

Разам з тым, грамадзяне прасілі суд абавязаць кіраўніцтва Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у бліжэйшы час прыняць падпісантаў скаргі альбо іх прадстаўнікоў на асабістым прыёме.

Сваю адмову ва ўзбуджэнні грамадзянскай справы суддзя Ірэна Бролішс матывавала тым, што скарга грамадзянаў непадведамасная суду.

У каментары НЧ юрыстка Тамара Сяргей адзначыла, што згодна арт.37 Грамадзянска-працэсуальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь, скаргі на дзеянні дзяржаўных органаў, адным з якіх з'яўляецца Адміністрацыя прэзідэнта, падведамасныя суду. І адказ суддзі Ірэны Бролішс у чарговы раз засведчыў залежнасць айчыннай судовай сістэмы ад выканаўчай улады краіны, — сказала юрыстка.

На яе меркаванне, вельмі прыкра, што суддзямі ў Беларусі становяцца людзі, якія або не маюць належнай прафесійнай падрыхтоўкі, або адпаведных маральных якасцяў. «Дзяржава стварае канфліктныя сітуацыі, і пры гэтым не дазваляе грамадзянам вырашаць у прававым полі паўстаўшыя супярэчнасці. А калі чалавек не мае магчымасці абараніць свае правы нават у судзе, дык ён вымушаны шукаць іншыя сродкі», — лічыць Тамара Сяргей.

Рашэнне яшчэ не ўступіла ў законную сілу, і таму заяўнікі будуць абскарджваць яго ў Мінскім гарадскім судзе.

# Самы малады рыцар

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Калі праходзіць узнагароджанне такой прэміяй, менш за ўсё хочацца жартаваць, але на гэты раз было вельмі цяжка ўстрымацца ад адпаведных эмоцый. І пэўная рацыя існавала.**

Прэмію імя Юрыя Захаранкі «З адкрытым забралам» штогод уручаюць альбо 23 лютага альбо ў дні вельмі блізкія да гэтай даты. Сёлета лаўрэатам прэміі стаў чалавек, які інфармацыйна супрацьстаіць адной з самых моцных у свеце армій, бо нарысы Зміцера Галко пра камандзіроўкі на ўкраінскую вайну даволі красамоўна сведчаць пра яго асабістыя сімпатыі.

І ўвогуле, паводле майго прынцыповага пераканання, гэтыя дні лагічна больш не ўспрымаць як нешта «колеру хакі». Няхай у будучым у яго будзе іншы колер — КОЛЕР МУЖНАСЦІ.

Шчыра хачу падтрымаць меркаванне рэдактара нашай газеты — артыкулы Зміцера Галко не носяць агітацыйна-прапагандысцкі характар, а з'яўляюцца «допісамі развагі».

Дарэчы, прэмію галоўны рэдактар НЧ Аляксей Кароль атрымаў за Зміцера, бо ён зноў паехаў ва Украіну, у сваю чацвёртую камандзіроўку.

Як і мінулыя камандзіроўкі, гэтая зноў праходзіць з ініцыятывы самога Зміцера, то бок адбываецца без якога-небудзь «рэдакцыйнага прымусу», за што, на мой погляд, чалавека ўжо можна называць Рыцарам. Таму асабіста я цалкам падтрымліваю выбар грамадскага руху імя Юрыя Захаранкі «Абаронцы Айчыны», які прэзентаваў вядомы юрыст і былы «афганец» Алег Волчак. Заслужана!

А да сказанага вышэй дадам яшчэ дзве рэчы. Першая — адпаведны дыплом зроблены таксама былым «афганцам» мастаком Алесем Пушкіным. А другая будзе ў выглядзе ўзнёслай фразы: «Такі малады, а ўжо РЫЦАР!»

# Выпускны вечар ды-джэяў адраджэння

Арцём ЛЯВА

**На сядзібе Партыі БНФ 24 лютага адбыліся ўрачыстае ўганараванне лепшых навучэнцаў апошняга выпуску курсаў ды-джэяў адраджэння, невялічкі музычны канцэрт і нефармальныя пасядзелкі з гарбатай і торцікамі.**

Вядучым вечарыны быў сустаршыня аргкамітэта БХД Павал Севярынец. Ён і ўзнагародзіў лепшых навучэнцаў 10-га выпуску адмысловых курсаў, якія, па словах вядоўцы, пакліканыя адраджаць Беларусь праз беларускую форму і хрысціянскі змест.

Цягам апошніх чатырох месяцаў ды-джэі адраджэння праводзілі канцэрты, вікторыны, вечарыны, шоў беларушчыны, рэалізоўвалі праекты, накіраваныя на беларусізацыю і евангелізацыю.

Прэзентацыі пра сваю дзейнасць прадставілі ды-джэі Вольга Кавалькова, Павал Пракаповіч, Андрусь Кавецкі, Катаржына Парычаўская, Алесь Мазанік і Павал Дзюсекаў.

Эфектыўнасць працы ды-джэяў адраджэння вымяралася рэйтынгамі і баламі. Як адзначыў Павал Севярынец, падчас хвалі беларусізацыі 2014 года ды-джэі адраджэння набралі рэкордную колькасць балаў за сваю грамадскую працу ў параўнанні з іншымі выпускамі курсаў ды-джэяў, пачынаючы з 1999 года.

Першае месца атрымаў Павал Дзюсекаў, дарэчы, пра яго экскурсія па Мінску мы пісалі на старонках НЧ. Другое месца дасталася Алесю Мазаніку. Трэцяе месца заваявала Катаржына Парычаўская.

Гурт хрысціянскай музыкі «Ляўданс» і бард Зміцер Захарэвіч працягнулі музычную частку праграмы. Напрыканцы быў арганізаваны салодкі стол з хатнім пірагом, гарбатай і тортамі.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Сінявокая сметніца

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Усё б у нас было прыўкрасна, калі б не знешнія сілы. Канешне, жывем мы не ў закаркаванай бляшанцы, але як было б цудоўна, калі б нам не перашкаджалі ўсе: з Захаду, з Усходу, і гэтак далей. Псуюць нам нервы, толькі і паспявай адмахвацца.**

Напрыклад, злыя капіталісты ў чарговы раз пазайздросцілі нашай сацыяльна-арыентаванай эканамічнай мадэлі. На тыдні міжнароднае рэйтынгавае агенцтва Moody's Investors Service паставіла на перагляд рэйтынг эмітэнта B3 і еўрабондаў Беларусі з мэтай паніжэння.

Як паведамляе Moody's, ключавымі фактарамі для такіх дзеянняў сталі павелічэнне нагрузкі на плацяжы па вонкавых абавязках на фоне страты больш за 30% золатавалютных рэзерваў з-за ціску на курс нацыянальнай валюты са снежня мінулага года, а таксама рызыка падзення эканомікі і магчымыя адмовы Расіі ад фінансавай падтрымкі Беларусі, бо сама Расія сутыкнулася з пагаршэннем эканамічнай сітуацыі.

Вынік перагляду рэйтынгу будзе залежаць ад змены аб'ёму ЗВР Нацбанка ў бліжэйшыя 6 месяцаў — год, адзначаецца ў прэс-рэлізе агенцтва.

Разам з тым, рэйтынгі Беларусі пакуль застаюцца нязменнымі: па аблігацыях у замежнай валюце B3/NP, па валютных дэпазітах — Caa1/NP, нацвалюце — B1.

Усе гэтыя «Бэ-тры» і «Саа-адзін» звычайнаму грамадзяніну ні пра што не кажуць. Таму варта патлумачыць. Рэйтынг «B» азначае, што нашы валютныя аблігацыі разглядаюцца як «спекулятыўныя» і маюць высокую рызыку невяртання. А лічбачка «3» азначае, што яны знаходзяцца ў самым канцы спіса «B». Рэйтынг «B1» нацыянальнай валюты — вы зразумелі, «спекулятыўная валюта», у любы момант можа абрынуцца, але знаходзіцца ўверсе спіса «B». «Саа1» азначае, што валютныя дэпазіты лічацца абавязацельствамі вельмі нізкай якасці і схільныя да вельмі высокай крэдытнай рызыкі.

Літары «NP» напрыканцы рэйтынгу азначаюць Not Prime («непершакласны»). Гэта азначае, што эмітэнты з такім рэйтынгам з вялікай цяжкасцю могуць расплаціцца па ўзятых на сябе кароткатэрміновых крэдытах.

Варта зазначыць: усё тое, што знаходзіцца ніжэй за катэгорыю «B», лічыцца «смеццевым» узроўнем. То бок, укласці грошы ў такія каштоўныя паперы ці ў такую валюту — усё роўна, што выкінуць грошы ў сметніцу. Зразумела, ніякі інвестар у цвярозым розуме і яснай памяці не стане звязвацца з такімі «абавязацельствамі». Што аўтаматычна вядзе да страты інвестыцыйнай прывабнасці.

Відавочна, што пагаршэнне рэйтынгаў Moody's пераводзіць Беларусь на ўзровень міжнароднага фінансавага «смецця», і пра інвестыцыі ў краіну ў такіх умовах можна забыцца. Таму не дзіва, што такое рашэнне агенцтва выклікала рэзкую незадаволенасць айчыннага Мінфіна. «Дадзенае рашэнне, на наш погляд, прынята без усебаковага аналізу сітуацыі ў эканоміцы Рэспублікі Беларусь», — заявіў наш Мінфін.

Зрэшты, рэакцыю Мінфіна можна зразумець. Рашэнне Moody's адбілася на каціроўках беларускіх еўрабондаў. Бонды дэбютнага выпуску з пагашэннем у жніўні 2015-га пасля паведамлення агенцтва патаннелі на Франкфурцкай біржы на 0,77%. Бонды другога выпуску з пагашэннем у 2018-м годзе не каціруюцца на біржы з 20-х дзён студзеня.

Але лепш бы Мінфін займаўся фінансавай палітыкай і прымаў нейкія захады па павышэнні, напрыклад, ЗВР, а не раз'юшваўся з нагоды паведамлення Moody's. Таму што і там ведаюць, і мы ўсе ведаем, што нам у гэтым годзе трэба сплаціць $4 млрд. па знешніх пазыках, а ўсе ЗВР складаюць толькі $5 млрд.

І ведаюць у агенцтве нават больш, чым мы. Таму што ўжо пасля рашэння агенцтва, якое ўказала адной з прычынаў «магчымую адмову Расіі ад падтрымкі Беларусі», прыйшла навіна пра тое, што сінявокая не атрымае апошні транш крэдыту Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС. Па словах новага кіраўніка Еўразійскага банка развіцця Дзмітрыя Панкіна, Беларусь можа ініцыяваць чарговы разгляд пытання аб шостым траншы, але апошні транш стабкрэдыту не быў пералічаны ў засекі Беларусі, паколькі краіна не выканала 10 з 14 паказчыкаў стабілізацыйнай праграмы, у тым ліку 5 кантрольных паказчыкаў.

«Умовы, як вы памятаеце, выканаHя не былі, і да гэтага часу сітуацыя ніякім чынам не змянілася», — адзначыў у сваю чаргу дырэктар беларускага прадстаўніцтва ЕАБР Віктар Гуляеў. Ён таксама зазначыў, што ў цяперашні час Беларусь не можа разлічваць на фінансаванне іншых праектаў за кошт крэдытаў АКФ, паколькі ўжо выбрала свой ліміт, які складаў $2,8 млрд.

Так што разлічваць краіна можа толькі на наўпроставыя крэдыты з Расіі. Але і з імі цяжкавата. Прынамсі, адным з вынікаў візіту Аляксандра Рыгоравіча ў Сочы была навіна пра тое, што ён папрасіў у Пуціна крэдыт у $2,5 млрд. Папрасіць — папрасіў, але ці дадуць яго, пра гэта нічога сказана не было.

Канешне, па меркаванні спецыялістаў, нават для «крызіснай» Расіі гэтая сума невялікая, маглі б і даць. Але сімптаматычна тое, што «старэйшы брат» не дае грошай нават на самае святое. А менавіта, грошай няма на беларускую АЭС у Астраўцы.

Палата прадстаўнікоў на пасяджэнні 25 лютага ратыфікавала пратакол, які ўносіць змены ў міжурадавае беларуска-расійскае пагадненне аб супрацоўніцтве ў будаўніцтве АЭС. Дакумент змяняе тэрміны ўвядзення ў эксплуатацыю энергаблокаў АЭС. Раней бакі бралі на сябе абавязкі па ўводу ў эксплуатацыю першага энергаблока ў 2017-м годзе, другога — у 2018-м. Дадатак змяняе тэрміны адпаведна, на 2018 і 2020 гады.

**Калі верыць БелТА, нашыя навукоўцы прапануюць спецыяльна разводзіць мармуровых прусакоў, якія «могуць есці адходы арганічнага паходжання, такім чынам вырашаючы вострую праблему ўтылізацыі прамысловых адкідаў»**

Улічваючы тое, што фінансуе будаўніцтва Расія, гэта азначае адно — грошы скончыліся. Наш атамны рэактар ператвараецца ў савецкую доўгабудоўлю.

Ну, нічога. Затое мы ведаем, хто нам ніколі не здрадзіць і шмат карысці прынясе. Дзяржаўнае інфармацыйнае агенцтва БелТА паведаміла, што ўсе нашыя праблемы вырашаць... прусакі!

Калі верыць БелТА, нашыя навукоўцы прапануюць спецыяльна разводзіць мармуровых прусакоў, якія «могуць есці адходы арганічнага паходжання, такім чынам вырашаючы вострую праблему ўтылізацыі прамысловых адкідаў. Вынікам такой перапрацоўкі з'яўляецца высокаэфектыўнае ўгнаенне біягумус. Самі ж жывёлы могуць стаць кармавым бялком для рыбных гаспадарак, птушкафермаў і жывёлагадоўчых комплексаў», — піша БелТА. Справа толькі за малым: «стварыць біятэхналагічны цэнтр і адпрацаваць стэрылізацыю казурак».

Падаецца, да 1 красавіка — Дня дурняў — яшчэ далёка...

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Уладзіслаў Баўмгертнер



**Былы знакаміты сядзелец «Амерыканкі», былы сябра савету дырэктараў «Уралкалія» атрымаў «адпушчэнне грахоў».**

Генеральная пракуратура Расіі спыніла супраць яго крымінальную справу.

Нагадаем, што Уладзіслаў Баўмгертнер быў арыштаваны ў Мінску ў жніўні 2013 года па абвінавачванні ў злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі. 22 лістапада таго ж года ён быў экстрадаваны ў Расію і змешчаны ў СІЗА, у снежні пераведзены пад хатні арышт, а ў кастрычніку 2014 года вызвалены пад заклад у 15 мільёнаў расійскіх рублёў. У канцы мінулага года савет дырэктараў «Уралкалія» вызваліў Баўмгертнера ад абавязкаў гендырэктара, а ў 2014 годзе ён пакінуў і сам савет.

Аляксандр Лукашэнка заяўляў, што шкода, нанесеная фізічнымі асобамі — былымі супрацоўнікамі «Уралкалія», склала каля 100 мільёнаў долараў. Гэтую суму, па словах генпракурора Беларусі Аляксандра Канюка, можна спагнаць праз грамадзянскі іск да Баўмгертнера.

Але як бы такі іск не атрымала Беларусь. Як піша расійскі «Коммерсантъ», экс-кіраўніка «Уралкалія» не толькі вызвалілі, зараз за ім прызнана права на рэабілітацыю: перад ім павінны выбачыцца за неабгрунтаваны крымінальны праслед, акрамя таго, ён сам можа праз суд дамагацца кампенсацыі маральнай і матэрыяльнай шкоды.

## Уладзімір Макей



**Міністр замежных спраў Беларусі, акрылены дыпламатычнымі поспехамі, спрабуе выжаць з сітуацыі максімум.**

Зараз Уладзімір Макей просіць не толькі «роўнага», але адмысловага стаўлення да Беларусі ў рамках Усходняга партнёрства.

Днямі наш кіраўнік МЗС РБ парэкамендаваў ЕС шукаць «дыферэнцыраваныя падыходы» да кожнага сябра праекту «Усходняе партнёрства». Пра тое, што краіны УП са свайго боку таксама павінны шукаць шляхі супрацоўніцтва з ЕС, Макей чамусьці не сказаў: верагодна, праект патрэбен толькі Еўрасаюзу.

«Трэба дыферэнцыравана падыходзіць да краін. Хтосьці хоча заўтра ўступіць у Еўрасаюз, хтосьці хоча гэтага ў перспектыве, а хтосьці проста хоча нармалізаваць адносіны з ім. ЕС варта шукаць узаемапрымальныя фарматы супрацоўніцтва з краінамі Усходняга партнёрства», — пералічыў міністр еўрападыходы сінявокай.

«Узаемадзеянне Беларусі з іншымі краінамі, інтэграцыйнымі блокамі або ў міжнародных арганізацыях не павінна супярэчыць нацыянальным інтарэсам краіны. У нас ёсць свая Канстытуцыя, дзейнічае сваё заканадаўства, ёсць абавязацельствы ў рамках міжнародных арганізацый, і мы будзем жыць па гэтых правілах», — горда падкрэсліў Макей.

## Андрэй Мезін



**Былы галкіпер зборнай Беларусі па хакеі прыняў рашэнне завяршыць кар'еру.**

«У прынцыпе, завяршыць я мог ужо даўно — пасля майго ад'езду са зборнай. Пасля «Дынама» было складана знайсці новае месца працы. Тым не менш, я яшчэ два сезоны правёў на сур'ёзным узроўні — адыграў у «Трактары» і «Авангардзе». У Чалябінску і зусім атрымалася стаць віцэ-чэмпіёнам КХЛ. У Омску перайграў варатароў-легіянераў. Лічу, цалкам нядрэнна», — зазначыў Мезін.

За зборную Беларусі Мезін пачаў выступаць з 1996 года. Правёў у складзе нацыянальнай каманды 135 матчаў, прапусціў 337 шайбаў. Галкіпер з'яўляецца ўдзельнікам трох Алімпійскіх гульняў і 13 чэмпіянатаў свету ў складзе зборнай Беларусі. Андрэй Мезін — другі пасля Уладзіслава Траццяка па колькасці ўдзелаў у чэмпіянатах свету.

«Час заканчваць і сыходзіць у трэнеры. Зараз трошкі перадыхну — і зноў за працу. Хакей — гэта маё жыццё. 35 гадоў аддаў гэтаму віду спорту. Але ў апошні час я больш думаю пра гульню ў гольф, чым у хакей. А гэта гаворыць пра тое, што час заканчваць», — заўважыў галкіпер.



Зміцер ГАЛКО

**Калі б вы гэтымі днямі вырашылі наведаць Украіну, чаго б вы баяліся? Не ў сэнсе асабістай бяспекі, а як чалавек, які спачувальна сачыў за развіццём падзей цягам апошняга года.**





# Украінцы ўмеюць абвяргаць найгоршыя чаканні

Магчыма, вы баяліся б убачыць стомленых, расчараваных і напалоханых людзей. Якія пільна ўглядаюцца ў змену лічбаў на табло з курсамі валют і занятыя выратаваннем сваіх зберажэнняў. Ухіляюцца ад размоў пра палітыку або глуха бурчаць, выказваючы глыбокую незадаволенасць. І прагнуць толькі аднаго, любым коштам — стабільнасці. Вельмі сумнае відовішча, ці не так? Яно б азначала, што грамадству сапраўды патрэбныя пуга і пернік. Усе ахвяры адразу сталі б выглядаць дарэмнымі, а імкненне здабыць свабоду і захаваць годнасць — згубным.

## Калі ўкраінцы не адстаяць сваю краіну...

Прызнаюся, менавіта гэта я і баяўся ўбачыць — украінцы, апусціўшы рукі, зробяцца адмоўным прыкладам для беларусаў. Па дарозе на секунду падалося, што гэтага баяцца ўсе побач, калі гамяльчанка на суседнім сядзенні прамовіла: «Калі ўкраінцы не адстаяць сваю краіну, дык...» Яна зрабіла тэатральную паўзу, падчас якой я дадумаў канцоўку — «нам усім тады гамон». Але сапраўдны працяг прымусіў мяне занурыцца ў невясёлыя роздумы. Гамяльчанка скончыла сваю фразу: «...тады яе захопяць амерыканцы і ўсялякія бандыты».

Сказала ўрачыста і пераможна, з усведамленнем сваёй перавагі — сама яна ніколі б да такога краіну не давяла. Бо нават і не падумала б кусаць руку, якая хоць і трымае ў стойле, але ж і корміць. І ёй «усе гэтыя еўропы без патрэбы». Нават, уявіце сабе, «за мільярд грошай». Апошняе гамяльчанка сказала так, нібыта ёй літаральна колькі хвілінаў таму той «мільярд грошай» прапаноўвалі за прыняцце «еўропаў» у сваё сэрца. Яна ж адхіляла іх такім жэстам, як на вядомым савецкім плакаце, дзе просты савецкі звышчалавек з выглядам сапраўднага арыйца з нардычным характарам рашуча адмаўляецца ад чаркі з гарэлкай.

Потым жанчына доўга распавядала, што ўкраінцы «ўжо наеліся той свабоды», усвядомілі, якое глупства нарабілі, калі пайшлі супраць законнай улады і гістарычна абумоўленых сувязяў з Расіяй. Цяпер жаляцца і валасы на сабе ірвуць. Ужо зусім хутка, паглядзіце, адправяць «Патрашэнку» на сметнік гісторыі, Данбас пераможа і павядзе Украіну назад, туды, дзе ёй наканавана быць, — ва ўлонне «рускага свету». Ніхто не хоча ваяваць «за амерыканцаў». Яна дакладна ведае, вунь, да яе пляменнік з Чарнігава прыязджаў і са слязьмі прасіў, каб схавала ад мабілізацыі. А хтосьці іншы апошнія дзесяць тысяч долараў аддаў, абы адкупіцца ад войска. Адным словам, «хутка ўсёй гэтай вашай Амерыцы кірдык», як той казаў.

## Гарбата, канапкі і ядзерныя боегалоўкі

Не ведаю, што там будзе з Амерыкай, а вось украінцы за зроблены год таму выбар яшчэ пазмагаюцца. Яны ўжо неаднойчы даказвалі, што ўмеюць абвяргаць найгоршыя чаканні. У мяне склалася ўражанне, што дакажуць і цяпер. Склалася яно з асабістых назіранняў, якія могуць падацца дробнымі, але ў мяне яны ўсялілі аптымізм. Я падзяліўся імі, а вы ўжо глядзіце, ці дастаткова іх для адчування, што ёсць яшчэ порах у парахаўніцах.



Фота Косімы Аттанасія

Курсы «Виживи в умовах військової агресії»

За апошні год курс грыўні адносна долара знізіўся ледзь не ў чатыры разы. Толькі за той тыдзень, які я тут цяпер знаходжуся, лічбы на табло ў абменных пунктах мяняліся некалькі разоў. Пры гэтым вакол абменных пунктаў не відаць звыклай для Беларусі карціны — купаў назіральнікаў, якія сочаць за зменлівымі лічбамі, нібы за напружанай драмай, вохкаючы і ахкаючы. Не вельмі шматлюдныя і акцыі пратэсту каля Нацбанку з патрабаваннем адстаўкі Гонтаравай — яны збіраюць максімум пад сотню-другую чалавек. Тады як мерапрыемствы, прысвечаныя гадавіне Майдану, шчыра кажучы, нечакана для мяне сабралі дзясяткі тысяч чалавек.

І галоўнае — вайна, яна тут не ўспрымаецца як нешта аддаленае, не тваё асабістае. Як успрымалася, скажам, у Расіі чачэнская вайна, прыкметаў якой можна было не заўважыць у вялікіх гарадах. Размовы пра яе чуваць паўсюль, пра сітуацыю на фронце размаўляюць значна часцей, чым пра валютныя курсы. Па тэлевізарах і радыё ў грамадскіх месцах часцей круцяць не музычна-забаўляльныя праграмы, якія раздражнялі мяне падчас Майдану, а грамадска-палітычныя. Усё стракацець патрыятычнай сімволікай, паўсюль збіраецца дапамога для фронту. Калі мы са знаёмымі хлопцамі, апранутымі ва ўніформу, ехалі па сваіх справах, да нас падыходзілі людзі на вуліцы, дзякавалі, пыталіся, ці не на фронт мы накіроўваемся, прапаноўвалі ежу і грошы.

У кастрычніку мінулага года я расказваў пра Данецкі зенітна-ракетны полк, укамплектаваны ў асноўным выхадцамі з Данбасу, які стаіць на абароне сваёй — украінскай — зямлі. Полк святкаваў сваё 53-годдзе, але настрой быў не зусім святочны — у іх было адчуванне пакінутасці. Цяпер жа ў іх ёсць свой асабісты анёл-ахоўнік — крохкая дзяўчына Сафія Бяляева, падобная да моцна зменшанай копіі Надзеі Саўчанкі. Яна кіяўлянка, спецыяліст па фондавым рынку. Фондавы рынак цяпер памерам з вераб'ёву душу, Сафіі хутка давядзецца шукаць іншую працу, але дзяўчына, як і раней, працягвае нястомна дапамагаць фронту,ператвараўшы сваю кватэру ў валанцёрскі пункт. У прыватнасці, забяспечвае байцоў Данецкага зенітна-ракетнага палку прысмакамі, амуніцыяй і нават тэхнічным абсталяваннем. Разам з сынам і знаёмым італьянскім журналістам мы дапамаглі ёй загрузіць пад завязку дзве машыны для фронту. Змакрэлі і троху прытаміліся. Сафія ж звычайна тое робіць сама, ледзь не ў адзіночку. Прадстаўляючы мяне сваім знаёмым, яна кажа: «Вось чалавек, які падарыў мне цэлы полк». Іншыя знаёмыя кіяўлянкі, Вольга Галчанка і Аляксандра Алёшына, амаль спраўдзілі жартаўлівую прымаўку пра валанцёраў часоў Майдану: «Калі папрасіць іх прынесці ядзерныя боегалоўкі, яны табе прынясуць ядзерныя боегалоўкі, гарбату і канапкі». Цяпер дзяўчыны прыганяюць на фронт вайсковыя джыпы, машыны хуткай дапамогі, і ўжо абмяркоўваюць магчымасць паставак супрацьтанкавай зброі.

## Адарве ногі, а на табе берцы за 1,5 тысячы

Фёдар, хлопец з хіпстарскім чубком, з Маладагвардзейску, што пад Краснадонам, каля самай мяжы з Расіяй, якога я сустрэў у кіеўскім хостэле, аказаўся не «ватнікам» і нават не пафігістам, як можна было б чакаць. Ён упершыню прыехаў у сталіцу — дзеля таго, каб патрапіць у добраахвотніцкі батальён. Чакаў, пакуль яму споўніцца 21 год, бо цяпер у добраахвотнікі бяруць з гэтага ўзросту. У чаканні сумоўя Фёдар знаёміўся з архітэктурнымі выдатнасцямі і закупаўся рыштункам. «Дарагавата, вядома. Шкада ж будзе, калі ногі адарве, а на табе берцы за паўтары тысячы грыўняў», — жартуе ён. Бачна было, як хлопец расхваляваўся, пачуўшы «сам не знаю, де погину» — радок з песні «Пливе кача». У яго было нямала часу, каб перадумаць, але ён рашэння не змяніў. «Праз наш горад пастаянна калоны расійскай вайсковай тэхнікі заходзілі, я ж іх на свае вочы бачыў, а на расійскіх каналах слухаў пра недатычнасць Расіі да вайны на Данбасе. Вось гэтая хлусня мяне больш за ўсё абурыла і падштурхнула да таго, каб на фронт пайсці. Цяпер буду адным з бандэраўцаў, якімі пужаюць рускіх дзяцей», — кажа Фёдар на чысцюткай рускай мове, усміхаючыся.

## Зямля Кіева будзе гарэць у іх пад нагамі

У верасні мінулага года, у артыкуле «Вайна на Данбасе. Нежалезныя людзі», я згадваў двух сваіх знаёмых з Луганшчыны, Арцёма і Сашу. Тады яны толькі прыехалі з зоны баявых дзеянняў, дзе служылі ў адным з добраахвотніцкіх батальёнаў, і былі моцна прыгаломшаныя вайной. На фронт вяртацца не збіраліся, падумвалі нават з'ехаць з краіны, настолькі былі абураныя ў той час няздатнасцю ўкраінскай дзяржавы абараніць сябе. Арцём не вытрымаў, вярнуўся ўсё-ткі да пабрацімаў, цяпер вавюе пад Марыупалем. А Саша разам з таварышамі ўдзельнічае ў арганізацыі курсаў «Виживи в умовах військової агресії» ў Кіеве. Той, хто вырас яшчэ ў СССР, мусіць памятаць вайсковую гульню «Зарніца». Гэтыя курсы ўяўляюць сабой нешта падобнае, толькі адаптаванае пад рэаліі расійска-ўкраінскай вайны. Скажам, на адным з заняткаў узброеная група накрывала сход прарасійскіх актывістаў. Спецгрупа ўрывалася ў памяшканне, страляла, клала прысутных на падлогу, ставіла да сценаў, жорстка абшуквала. Мы з сынам таксама паўдзельнічалі, каб адчуць на сваёй скуры, як яно. Калі табе рукой, пакладзенай на аснову носа, задзіраюць назад галаву, а каленам упіраюцца ў хвасцец, рэзкімі ўдарамі рассоўваючы твае ногі і рукі максімальна шырока, і ставяць да патыліцы пісталет, — ты пачынаеш шкадаваць, што падаўся ў сепаратысты. Куды больш прыемна быць у ролі снайперскай падтрымкі блокпоста баевікоў «КНР», на якім правяраюць безабаронных кіяўлянаў, расстрэльваючы падазроных, бо гульня не прадугледжвала напад на блокпост украінскіх вайскоўцаў.

Мы далучыліся да сёмага выпуску. Да нас ужо дзясяткі кіяўлянаў, у асноўным адукаваных і забяспечаных, добраахвотна і за ўласныя грошы праходзілі гэты курс маладога байца. Яны не збіраюцца з'язджаць з Кіева, хаця і дапускаюць, што «гібрыдныя» расійскія войскі могуць аказацца і тут.

«Няхай Пуціна не абнадзейвае наша здача Дэбальцава і вымушанае адступленне. Я аб'ектыўна ацэньваю магчымасці ўкраінскага войска, мы значна слабейшыя. У выпадку поўнамаштабнага ўварвання можам адступіць і далей, аж да сталіцы. Але ён мусіць ведаць, што яго тут не чакаюць з хлебам-соллю. І выкарыстоўваюць час для падрыхтоўкі супраціву яго нам засланцам. Зямля Кіева будзе гарэць у іх пад нагамі», — кажа ваенны інструктар, кіраўнік курсаў.

# Ці выйграе насельніцтва ад рэформы ЖКГ?



**З 1 сакавіка ў Першамайскім і Партызанскім раёнах Мінска пачнецца эксперымент па рэфармаванні сістэмы ЖКГ. Калі ён пройдзе ўдала, новыя падыходы запрацуюць па ўсёй сталіцы і ў іншых гарадах. Што выйграюць ад рэформы звычайныя грамадзяне, журналістам патлумачылі міністр ЖКГ, памочнік прэзідэнта і чыноўнікі Мінгарвыканкама.**

## Што зменіцца?

Зменіцца многае. ГА «Мінская гарадская жыллёвая гаспадарка» (МГЖГ) ператворыцца ў ДУ «Мінская жыллёвая камунальная гаспадарка». Замест адлічэнняў ад даччыных прадпрыемстваў яно пяройдзе на фінансаванне з бюджэту.

Запрацуе адзіная дыспетчарская служба з кароткім нумарам 115, куды можна будзе тэлефанаваць наконт усіх побытавых аварыяў. 1 сакавіка дыспетчары яшчэ не будуць прымаць тэлефанаванні, але, як абяцаюць чыноўнікі, служба пачне дзейнічаць вельмі хутка.

Усе 43 разлікова-касавых цэнтры, якія цяпер працуюць у Мінску, аб'яднаюцца ў Адзіны разлікова-даведачны цэнтр. У РДЦ можна будзе вырашыць не толькі пытанні па аплаце ЖКП, але і атрымаць разнастайныя даведкі. Спецыялісты разлікова-касавых цэнтраў змогуць абслугоўваць таварыствы ўласнікаў і ЖБВК.

З'явіцца адзіны аператар, які зоймецца вывазам і абясшкоджваннем смецця. Насельніцтва будзе наўпрост аплачваць яго паслугі, а аператар зможа вырашаць: альбо везці ТБО на палігон, альбо атрымліваць ад яго другасныя матэрыяльныя рэсурсы і атрымліваць дадатковы прыбытак.

Першым палігонамі для жыллёва-камунальнага эксперыменту з 1 сакавіка стануць Першамайскі і Партызанскі раёны Мінска. Раённыя ЖРЭА будуць пераназваныя ў КУП «Жыллёва-камунальная гаспадарка […]» і пяройдуць на гаспадарчы разлік. Працсей кажучы, на сістэму «колькі зарабілі — столькі атрымалі». КУП не будуць мець прамога дачынення да паслуг для насельніцтва. У іх падпарадкаванні застанецца камунальная ўласнасць і няпрофільныя актывы.

ЖЭСы ў двух раёнах сталіцы ўзбуйняць і ператвораць у жыллёва-эксплуатацыйныя ўчасткі (ЖЭУ). У кожны з іх увойдзе 2–3 ЖЭСы. Функцыі работнікаў будуць выразна падзелены. Тэхабслугоўваннем дамоў зоймуцца хаус-майстры. Для бягучага рамонту, уборкі тэрыторыі і платных паслуг насельніцтву будуць сфарміраваны асобныя брыгады, якія працуюць здзельна.

## Навошта гэта трэба?

У выніку рэформы ўлады хочуць паменшыць фінансавую нагрузку на прадпрыемствы ЖКГ, зацікавіць іх у выніку працы, выразна размежаваць функцыі радавога персаналу і — гэта самае галоўнае — знізіць сабекошт тэхабслугоўвання жылфонду. Для Мінску ён складае 2820 рублёў за квадратны метр. Насельніцтва плаціць па тарыфе 947 рублёў за «квадрат».

— За гады існавання ЖРЭА раёнаў абрасці неліквідамі, няпрофільнымі актывамі: ваеннымі мястэчкамі, кароўнікамі, свінарнікамі. Усе выдаткі клаліся на кошт тэхабслугоўвання квадратнага метра, з-за чаго ён быў неабгрунтавана завышаны, — патлумачыў генеральны дырэктар ГА «Мінская гарадская жыллёвая гаспадарка» Віталь Смірноў.

Каб пазбавіцца ад «шумавіння», давялося не толькі аддзяліць няпрофільныя актывы сістэмы ЖКГ ад паслуг насельніцтву, але і прааналізаваць структуру сабекошту тэхабслугоўвання.

— Гэта комплексная паслуга, якая ўключае ў сябе тэхабслугоўванне канструктыўных элементаў (сцены, дах) і інжынерных сетак (унутраныя стаякі, цеплавой вузел), асвятленне пад'езда, уборку месцаў агульнага карыстання і ўборку прыдамавой тэрыторыі. Гэта асноўныя складнікі, якія ўплываюць на сабекошт, — расказаў міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Аляксандр Цераахаў.

Міністэрства ЖКГ палічыла, якія выдаткі прыпадаюць на кожны з гэтых складнікаў.

— У структуры сабекошту тэхабслугоўвання па Мінску 700–1200 рублёў за квадратны метр адводзіцца менавіта на тэхабслугоўванне, 50–70 рублёў за «квадрат» — на асвятленне, 400 рублёў за «квадрат» — на ўборку месцаў агульнага карыстання, — агучыў лічбы начальнік упраўлення жыллёвага гаспадаркі Андрэй Рамашка.

Уласна, тэхабслугоўванне жылфонду фармуе толькі каля траціны выдаткаў, таму было вырашана вылучыць выдаткі на асвятленне і ўборку са структуры сабекошту і фінансаваць іх наўпрост з бюджэту. Тарыф на тэхабслугоўванне ўсё роўна субсідуе дзяржава.

— З 1 сакавіка тарыфы для насельніцтва не зменяцца, — папярэдзіў Аляксандр Церахаў. — Мы правядзем эксперымент, палічым і, калі нашы разлікі апраўдаюцца, выйдзем з прапановай дыверсіфікаваць тарыфы ў залежнасці ад серыі дома. Мінімальны тарыф будзе каля 700 рублёў, максімальны — каля 1100 рублёў.

947 рублёў — гэта сярэдні тарыф, які склаўся па ўсім жылфондзе Мінска. Але разлікі паказваюць, што ён адрозніваецца ў залежнасці ад серыі жылога дома, яго інжынернага «начыння» і іншых фактараў.

— Калі гэта элітны дом, у якім адна кватэра на паверх, сістэма відэаназірання, датчыкі, чаму жыхар сёння плаціць па такім жа тарыфе, як мы з вамі? Чаму мы субсідуем яго празмернасці? — звярнуўся да публікі міністр.

Калі ў канцы года эксперымент у Першамайскім і Партызанскім раёнах пакажа добрыя вынікі, яго падоўжаць бестэрмінова. Больш за тое, гэты вопыт можна будзе распаўсюдзіць на ўсю сталіцу і іншыя гарады. Да яго ўжо праявілі цікавасць Гродна і Гомель, паведаміў Аляксандр Церахаў.

— Калі людзі кажуць пра высокія тарыфы ЖКГ, органы мясцовага самакіравання адказваюць, што насельніцтва пакрывае ўсяго 30% выдаткаў, а бюджэт плаціць 70%. Дык вось у гэтых 70% больш за палову таго, што не павінна класціся на квадратны метр (я кажу толькі пра тэхабслугоўванне). Квінтэсенцыя — ачысціць сабекошт ад «шумавіння». Чалавек у выніку рэформы зразумее, што плаціць, умоўна, 90% ад сабекошту, а не 30%, як яму кажуць, — заўважыў памочнік прэзідэнта, галоўны інспектар па горадзе Мінску Аляксандр Якабсон.

**TUT.BY**
**Пераклад НЧ**

# Вучымся эканоміць святло і ваду

Амаль штомесяц падвышаюцца кошты на жыллёва-камунальныя паслугі. Немалую частку ў камунальных плацяжах займаюць вада і электрычнасць. Ці можна на гэтым зэканоміць?

Спадзяемся, адказ на гэта пытанне вы знойдзеце ў нашай інфаграфіцы. Магчыма, хтосьці ўжо менавіта так і эканоміць, а камусьці гэта дазволіць не толькі зберагчы колькі грошай, але і паклапаціцца пра экалогію.



27 лютага 2015 | № 8 (425) Новы час

# «Пакуль на цела не сыпнулі жвірам»

Сяргей ЧЫГРЫН

**Ігар Пракаповіч — настаўнік геаграфіі Пастаўскай раённай гімназіі — аўтар некалькі дзясяткаў гісторыка-краязнаўчых кніг. Гэты ўлюбёны ў родны край і людзей чалавек пагадзіўся адказаць на некалькі маіх пытанняў для «Новага часу».**

***— Вас называюць карыфеем пастаўскага краязнаўства. Як і з чаго пачалася ваша любоў менавіта да беларускага краязнаўства?***

— Усё пачалося ў далёкім 1985 годзе, калі я, выпускнік геаграфічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта, быў накіраваны на працу ў невялікую васьмігодку ў вёску Апідамы, што на мяжы з Літвой. Стаў ладзіць вандроўкі з вучнямі, і быў уражаны, што амаль у кожным навакольным паселішчы былі нейкія цікавосткі: стараверскія храмы, каплічкі, помнікі, легенды, паданні, гісторыі, пра якія нідзе ніякай інфармацыі знайсці не ўдавалася. Пачаў занатоўваць, фатаграфаваць, запісваць на магнітафонную стужку. Спачатку хаатычна, ад вандроўкі да вандроўкі. Пазней работа набыла сістэмны характар. На гэта паўплываў і ўдзел у 1990-я гады ў абласных краязнаўчых спаборніцтвах «Мой родны кут», якія арганізаваў метадыст аддзела краязнаўства цэнтра пазашкольнай работы Віцебскага ўпраўлення адукацыі Алег Васільевіч Куржалаў. Ён зрабіў вялікі ўплыў і на мяне, і на многіх краязнаўцаў Віцебшчыны, быў нашым «хросным бацькам» у краязнаўстве. Менавіта дзякуючы яму, нам удалося наведаць архівы і музеі Віцебска, Мінска, Вільні, Пецярбурга, здзейсніць цікавую паездку ў Польшчу (Беласток, Варшава, Кракаў, Люблін). Гэта быў вялікі досвед. І я зразумеў, што не трэба марнаваць час на гаварыльню, а трэба дзейнічаць. Сваімі справамі і пазіцыяй даваць прыклад іншым: размаўляць на роднай мове, шанаваць родную гісторыю, культуру, геаграфію, у межах абставін змяняць жыццё да лепшага.

У сярэдзіне 1990-х гадоў я паступіў у аспірантуру Нацыянальнага інстытута адукацыі, дзе на аснове агульнай тэорыі сістэм распрацаваў сістэму школьнага краязнаўства, галоўныя палажэнні якой апісаны ў манаграфіі «И край родной откроет тайны: система школьного краеведения» — адзінай маёй рускамоўнай кніжкі. Рукапіс быў напісаны па-беларуску, але па прапанове выдавецтва, якое планавала выйсці з ёй на прасторы Расіі і Украіны, пераклаў яго на рускую мову.

Працуючы ў школе і ў гімназіі, стараюся далучыць да краязнаўства вучняў: разам з імі выдаў сем невялічкіх кніжачак пра вёскі Пастаўшчыны, вуліцы Пастаў, дзіцячыя гады пісьменніка Уладзіміра Дубоўкі і іншыя.



**Даведка**

Ігар Пракаповіч — пераможца рэспубліканскага конкурсу Таварыства беларускай школы «Беларускі настаўнік года 2009», Віцебскага абласнога конкурсу «Настаўнік года» 1995 года, лаўрэат звання «Чалавек года Віцебшчыны 2009». Кіраўнік навуковага краязнаўчага таварыства «Ювента», старшыня раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны, сябар вучонага савета Беларускага геаграфічнага таварыства.

***— Вы ж яшчэ і паэт, эксперыментуеце ў паэзіі, займаецеся прозай, драматургіяй, перакладамі....***

— Шкадую, што апошнім часам вершаў пішу мала. Але паэзія не пакідае: нядаўна напісаў цыкл «Геаграфічныя лімэрыкі», некалькі песень. І мне падабаецца, што чароўная панна Паэзія сяды-тады наведвае мой дом.

Вялікіх празаічных твораў не пішу, хоць цікавыя задумы даўно ходзяць за мной ценем. Параўнальна нядаўна выйшла мая невялічкая кніжачка «Вышкі», якая складаецца з маленькіх нестандартных празаічных твораў. Знаёмыя і сябры — адны ўхвалілі, а іншыя не выказалі здзіўлення і радасці.

Акрамя некалькі школьных п'ес у 1990-я гады напісаў п'есу-казку «Мова», у якой адзін з галоўных персанажаў Вялікі Разумнік змагаецца з Мовай. Заканчэнне дзеі песімістычнае. Сябры настойліва раяць гэту п'есу дапрацаваць і напісаць аптымістычную канцоўку. Яны лічаць, што сюжэт твора заказдзіраваў беларускую прастору, і таму рэальная сітуацыя з мовай не вырашаецца да лепшага. Мо і праўда трэба змяніць?

Перакладаў у мяне нямнога. Пераважна, гэта вершы людзей, з якімі я асабіста знаёмы, або тых аўтараў, якія чымсьці мяне ўразілі. Назаву некалькі прозвішчаў: Інара Роя, Фёдар Панцялееў, Гётэ, Шэрад Сантас.

***— Што ўяўляе сёння настаўнік у райцэнтры, у глыбінцы?***

— Немагчыма адназначна і ў нейкіх пэўных фарбах намаляваць настаўніка з раённага цэнтра, які значна аддалены ад сталіцы ці цэнтра абласнога. Развіццё інтэрнэту і камунікацый прывяло да таго, што прафесійны ўзровень настаўнікаў «вясковых» ні ў чым не саступае «гарадскім», а тое нават пераўзыходзіць іх. Пра гэта сведчаць вынікі цэнтралізаванага тэсціравання. І ў настаўніцкім асяродку, напрыклад, Пастаўшчыны ёсць шмат высокакласных спецыялістаў, якія рыхтуюць прызёраў абласных і рэспубліканскіх алімпіяд і конкурсаў. А жыццё ў глыбінцы больш спакойнае, больш шчырае, больш, можна сказаць, сямейнае. І мне здаецца, людзі пачалі разумець гэта. Я не люблю вялікіх гарадоў і лічу, што мястэчкі кшталту Паставаў ці Мядзела — гэта ідэальнае месца для жыцця.



Краязнаўцы Віцебшчыны (злева направа) Вітольд Ермалёнак, Мікалай Півавар, Віктар Грыбко, Васіль Бандарэвіч, Ігар Пракаповіч

Праца з дзяцьмі з'яўляецца эліксірам маладосці, бо на многае ў свеце глядзіш іх вачыма. І калі цябе, чалавека, якому ўжо за пяцьдзясят, школьнікі ўспрымаюць як свайго, то гэта нараджае новыя ідэі, новыя пачуцці, новыя планы.

***— Вы знаходзіце час выкладаць у школе, кіраваць раённым ТБМ, школьнымі краязнаўчымі гурткамі, хадзіць у вандроўкі, пісаць кнігі, друкавацца ў СМІ...***

— Калісьці ў маладосці я напісаў верш, у якім былі такія радкі: «І неабходна многае паспець, пакуль на цела не сыпнулі жвірам...» Думаю нешта паспеў у тым ліку і дзякуючы больш-менш рацыянальнай арганізацыі дзейнасці. На кожны месяц, тыдзень і дзень складаю планы. З гадоў 18 вяду дзённікі, у якіх запісваю тое, што ў гэты дзень я рабіў на планеце Зямля. Матэрыял для самааналізу і руху далей.

***— Чаго не хапае творчаму чалавеку сёння?***

— Ідэальнае месца для творчага чалавека — гэта востраў на возеры, дзе нікога няма. У глыбінцы, асабліва на Пастаўшчыне, знайсці творчую выспу значна прасцей, чым у сталіцы. І сам творчы працэс — самадастатковы. Іншая справа — піяр, раскрутка, прыхільнікі. Некаторым важны не столькі працэс творчасць, колькі святло юпітэраў і аб'ектывы кіна- і фотакамер. Але яшчэ Антон Чэхаў пісаў пра тое, што пустая бочка гучыць мацней, чым поўная. Асабіста для мяне для творчасці не хапае беларускамоўнай прасторы ў родным горадзе, раёне. Гэтая сухая афіцыйна-канцылярская мова, якую толькі вельмі ўмоўна можна назваць рускай, раздражняе прамовамі на афіцыйных мерапрыемствах, шыльдамі арганізацый і крам, інфармацыйнымі стэндамі розных устаноў. Хаця і гэта — крыніца для творчасці і дзейнасці, каб бараніць сваё, роднае, беларускае.

— Нядаўна з'явілася ваша новая кніга «Чароўны край — Пастаўшчына» — падручнік для школ раёна, па якім вывучаюць курс «Паставазнаўства». Падобнымі выданнямі могуць пахваліцца сёння толькі некалькі раённых цэнтраў Беларусі.

— Гэта кніга — частка задуманага калісьці даўно вучэбна-метадычнага комплексу па краязнаўстве Пастаўскага раёна. Ініцыятарам выдання з'яўляецца начальнік аддзела адукацыі Пастаўскага райвыканкама Аляксандр Яўгенавіч Кашырын, дарэчы, ураджэнец Смаленшчыны. Работа над першым выданнем, якое пабачыла свет у 2009 годзе ў выдавецтве «Кнігазбор», доўжылася каля дзевяці месяцаў. На жаль, з-за недахопу фінансаў, кніжка выйшла зусім невялікім накладам з чорна-белымі ілюстрацыямі і мяккай вокладкай. Паўтара гады таму Аляксандр Кашырын прапанаваў дапрацаваць і перавыдаць кнігу. Ён арганізаваў народны збор сродкаў, што дазволіла выдаць у пачатку гэтага года ў выдавецтве «Ковчег» выдатна афармленую поўнакаляровую кнігу. Акрамя гэтага пры дапамозе ТБМ мной падрыхтаваны і выдадзены сшытак з заданнямі і практыкаваннямі «Ці ведаеце вы Пастаўскі край?», а таксама DVD-дыск з аўтарскімі мультымедыйнымі прэзентацыямі па 34 параграфах кнігі і фотаздымкамі пастаўскіх фатографаў. Амаль увесь наклад, а гэта 400 асобнікаў, разышоўся па школах і бібліятэках, што дае магчымасць вучням і жыхарам раёна вывучаць родны край у розных формах.

І «Чароўны край — Пастаўшчына», і сшытак з заданнямі і практыкаваннямі «Ці ведаеце вы Пастаўскі край?» надрукаваныя выключна па-беларуску. Лічу, што падобныя выданні могуць мець усе райцэнтры Беларусі, дзе жывуць краязнаўцы, літаратары, гісторыкі, якія маглі б напісаць і выдаць. Але ім патрэбна дапамога.

***— Што яшчэ хочацца напісаць, арганізаваць, стварыць у Паставах ці ў Беларусі наогул?***

— Кажуць, калі хочаш рассмяшыць Бога, то раскажы пра свае планы. Але... З краязнаўцамі і сябрамі з ТБМ зараз рыхтуем да выдання шэраг невялічкіх кніжачак пра вёскі Пастаўшчыны, асабліва пра тыя, якія ўжо зніклі, або паступова драбнеюць. Зусім нядаўна пабачылі свет «Рымкі: вёска на краі вечнасці» (аўтары М. Арэх, І. Пракаповіч), «Дунілавічы ад ВКЛ да БССР» (аўтар Ф. Хоміч), «Спорскі край: вёска Вялікія Споры і ваколіцы» (аўтар І. Пракаповіч). Рыхтуюцца да выдання кнігі пра вёскі Хрыстова, Ясюкі, Мышкі, Пятровічы, Полава, Стары Двор. У выдавецтве «Мастацкая літаратура» чакае выхаду ў свет кніга «Залатая выспа», якую склалі легенды, паданні, цікавыя гісторыі, запісаныя ў вандроўках па родным краі. У выдавецтве «Ковчег» рыхтуецца да выдання несур'ёзная кніжачка «Булён: вершыкі і гісторыйкі для вясёлых людзей». Падрыхтаваны да выдання рукапісы «Падарожжы па зямлі Пастаўскай», «Смак былых мястэчак», «Рубаі і лімэрыкі», а таксама дыск песень на мае словы ў выкананні Л. Логінавай і А. Іваніна. Каб усё гэта выдаць, трэба мець сродкі, а іх пакуль што няма. Расказаўшы пра планы, усё ж, думаю, не рассмяшыў Бога, бо ён даў мне магчымасць усё гэта напісаць. Спадзяюся, дасць магчымасць і выдаць.

TV

## 2 САКАВІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.40** Дэтэктыўная меладрама «Зоя» (Расія).
**11.00** 90 секунд.
**11.45** Камедыя «За запалкамі» (СССР).
**13.00** 90 секунд.
**13.45** Меладрама «Адзін на ўсіх». 1-2 серыі.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.55** Меладрама «Адзін на ўсіх». 3-4 серыі.
**16.00** 90 секунд.
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.20** Арэна.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Дэтэктыўная меладрама «Зоя» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Форум.
**22.40** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.35** Тэлефільм АТН.
**00.10** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**00.45** Дзень спорту.
**00.55** Меладрама «Мама нехаця».

### ОНТ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здорава».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Справа прынцыпу».
**22.15** «Целаахоўнік». Мастацкі фільм.
**00.05** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.50** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.25** «Такі лёс».
**15.10** «Рыцары ў спадніцах». Відэафільм.
**15.40** «Ежа багоў».
**16.50** «Вовачка 2». Камедыйны серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Ваенная таямніца».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Тыдзень спорту».
**23.30** Фільм «Я так даўно цябе кахаю» (Германія - Францыя, 2007 г.).
**01.25** «Дакументальны спецпраект».

### Беларусь 2

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2».
**10.05** Тэлебарометр.
**10.35** «Зразумець і абясшкодзіць». Аўтарскі праект.
**11.10** Камедыйны серыял «Ландыш серабрысты» (Расія).
**12.50** Сямейная камедыя «Дзяжурны тата».
**14.25** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**16.50** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2».
**17.55** Камедыйны серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**18.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**19.55** Рэаліці-шоу «Хачу ў тэлевізар».
**20.25** Моладзевы серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне».
**23.20** Камедыйная фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны» (Новая Зеландыя).
**00.15** Драма «Блэйз» (ЗША).

### Беларусь 3

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Галасы з мінулага». 215 год з дня нараджэння рускага паэта Яўгена Баратынскага.
**08.15** «Дыя@блог P.S.».
**08.45** «Агідныя, брудныя, злосныя». Камедыйная драма (Італія, 1976 г.).
**10.35** «Культпрасвет».
**11.10** «Размаўляем па-беларуску».
**11.15** «Цімур і яго каманда». Дзіцячы прыгодніцкі фільм. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1976 г.).
**13.25** Калейдаскоп.
**13.35** «Галасы з мінулага». 215 год з дня нараджэння рускага паэта Яўгена Баратынскага.
**13.40** «Бераг». Меладрама. 1-я і 2-я серыі (СССР-ФРГ, 1983 г.).
**15.55** «Камертон». Кампазітар Эдуард Ханок.
**16.20** «Размаўляем па-беларуску».
**16.25** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**16.55** «Дыя@блог P.S.».
**17.25** «Размаўляем па-беларуску».
**17.30** «Скарамуш». Вестэрн (Францыя, Італія, Іспанія, 1963 г.).
**19.05** Калейдаскоп.
**19.15** «Галасы з мінулага». 215 год з дня нараджэння рускага паэта Яўгена Баратынскага.
**19.20** «Дама з сабачкам». Драма (СССР, 1960 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.00** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**21.55** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.20** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**22.50** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Аляксандр Базылеў.
**23.30** Калейдаскоп.
**23.40** «Галасы з мінулага». 215 год з дня нараджэння рускага паэта Яўгена Баратынскага.

### Беларусь 5

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Гандбол. SEHA-ліга. БГК ім. Мяшкова (Беларусь) - «Металург» (Македонія).
**09.30** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» - «Енісей».
**11.10** Баскетбол. НБА. «Лэйкерз» - «Аклахома Сіці».
**13.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Ліверпуль» - «Манчэстэр Сіці».
**14.55** Фрыстайл. Этап Кубка свету. Раўбічы. Фінал.
**16.05** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1/16 фіналу. Агляд тура.
**17.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Арсенал» - «Эвертан».
**19.00** Авертайм. КХЛ.
**19.25** Хакей. КХЛ. Чвэрцьфінал Заходняй канферэнцыі. Трэці матч. Прамая трансляцыя.
**21.50** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Чвэрцьфінал. Трэці матч.
**23.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**00.35** Еўрапейскі покерны тур.
**01.30** PRO спорт. Навіны.

### Белсат

**07.00** ПраСвет.
**07.35** Людскія справы.
**08.05** Два на два (тэледыскусія).
**08.35** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.05** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**09.50** «Справы Бяляцкага», рэпартаж: ч. 3, 4.
**10.30** Мова нанова: «Мода».
**10.50** Эксперт (сатырычная праграма).
**11.20** Кінаклуб: «Анегін».
**11.30** «Анегін», маст. фільм.
**13.20** ПраСвет.
**13.55** «Чачэнія: адваротны бок фасаду», дак. фільм.
**14.25** Два на два (тэледыскусія).
**15.00** «Рэвалюцыя... Крымская пастка», рэпартаж.
**15.30** «Справы Бяляцкага», рэпартаж, ч. 3, 4.
**16.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавачая праграма): Павел Ян Сапега.
**16.25** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**17.10** «Час гонару», тэлесерыял.
**17.55** Мова нанова: «Мода».
**18.10** Беларусы ў Польшчы.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Людскія справы.
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Студыя «Белсат»: Дэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Асабісты капітал.
**22.10** Зоры не спяць (культурніцкая праграма).
**22.40** Кінаклуб: «Анегін».
**22.55** «Анегін», маст. фільм.
**00.45** Студыя «Белсат».

## 3 САКАВІКА, АЎТОРАК

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.15** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.05** Тэлефільм АТН.
**11.00** 90 секунд.
**11.05** Дэтэктыўная меладрама «Зоя» (Расія).
**12.00** Навіны.
**12.10** Дакументальны серыял «Сямейныя меладрамы-3» (Украіна).
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Ваенна-прыгодніцкі баявік «Начныя ластаўкі» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан».
**16.00** 90 секунд.
**16.35** Дакументальны серыял «Сямейныя меладрамы-3» (Украіна).
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Дэтэктыўная меладрама «Зоя» (Расія). Заключная серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Спецыяльны рэпартаж.
**22.05** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**22.55** Тэлефільм АТН.
**23.30** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**23.50** Сфера інтарэсаў.
**00.05** Навіны.
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан».

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Аднакласнікі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Спадары-таварышы». Тэлесерыял.
**23.00** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**23.50** «Вячэрні Ургант».
**00.25** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Фільм «Махляры» (Германія - ЗША).
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Цэнтральны рэгіён».
**14.20** «Наша справа».
**14.30** «Мінск і мінчане».
**15.00** «Добры дзень, доктар».
**15.35** «Ежа багоў».
**16.50** «Вовачка 2». Камедыйны серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.35** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Смак жыцця» (ЗША - Аўстралія, 2007 г.).
**22.10** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.20** СТБ прадстаўляе: вячэрні шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**01.25** «Фірмовая гісторыя». Серыял.

### Беларусь 2

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2».
**10.10** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**10.45** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне».
**12.40** Анімацыйны серыял «Пінгвіны з Мадагаскара» (ЗША).
**13.30** Вышэй за дах.
**14.05** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**15.10** Моладзевы серыял «Як я сустрэў вашу маму» ЗША.
**15.40** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма (Расія).
**16.45** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2».
**17.55** Камедыйны серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**18.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**20.20** Моладзевы серыял «Як я сустрэў вашу маму» ЗША.
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** Спортлато 6 з 49.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне».
**23.30** Камедыйная фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны» (Новая Зеландыя).
**00.20** Камедыйны серыял «Каханне на раёне» (Расія).

### Беларусь 3

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 21-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**09.00** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**09.25** «Дама з сабачкам». Драма (СССР, 1960 г.).
**10.50** «Размаўляем па-беларуску».
**10.55** «Шчаслівы чалавек». Лірычная меладрама (СССР, 1970 г.).
**12.10** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Аляксандр Базылеў.
**12.50** Прэм'ера. «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Аляксандра Дзянісава.
**13.15** Калейдаскоп.
**13.25** «Гарачыя дзянёчкі». Камедыя (СССР, 1936 г.).
**14.55** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**15.25** «Тры таўстуны». Мультфільм.
**16.00** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**16.30** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 21-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**17.25** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**17.50** «Размаўляем па-беларуску».
**17.55** Творчы вечар народнай артысткі Расіі Рымы Маркавай.
**19.10** Калейдаскоп.
**19.20** «Сын старшыні». Драма (СССР, 1976 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Цені знікаюць апоўдні». Гістарычная драма. 1-я серыя (СССР, 1971 г.).
**22.20** «Дыя@блог». «Пра мову».
**22.45** «Цені знікаюць апоўдні». Гістарычная драма. 2-я і 3-я серыі (СССР, 1971 г.).
**01.10** Прэм'ера. «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Аляксандра Дзянісава.
**01.35** Калейдаскоп.

### Беларусь 5

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**08.55** Хакей. КХЛ. Чвэрцьфінал Заходняй канферэнцыі. Трэці матч.
**10.50** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Чвэрцьфінал. Трэці матч.
**12.40** Баскетбол. НБА. «Маямі» - «Атланта».
**14.25** Фігурнае катанне. Чэмпіянат Еўропы. Паказальныя выступленні.
**16.25** Лёгкая атлетыка. Гран-пры. Стакгольм.
**18.30** Спорт-кадр.
**19.00** Авертайм. КХЛ.
**19.25** Хакей. КХЛ. Чвэрцьфінал Заходняй канферэнцыі. Чацвёрты матч. Прамая трансляцыя.
**21.50** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Чвэрцьфінал. Чацвёрты матч.
**23.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Саўтгэмптан» - «Крыстал Пэлас».
**01.35** Еўрапейскі покерны тур.
**02.30** PRO спорт. Навіны.

### Белсат

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Людскія справы.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** Асабісты капітал.
**10.40** Зоры не спяць.
**11.15** «Дом», серыял.
**12.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавачая праграма): Уладзіслаў Сыракомля.
**13.05** Студыя «Белсат».
**13.30** Людскія справы.
**14.05** Студыя «Белсат».
**16.25** Асабісты капітал.
**16.45** Эксперт (сатырычная праграма).
**17.15** «Час гонару», тэлесерыял.
**18.00** Відэма-невідэма.
**18.30** Студыя «Белсат».
**19.00** Рэпартэр.
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Два на два (тэледыскусія).
**22.20** «Старыя Дарогі», рэпартаж.
**22.35** «Намібія. Генацыд Другога Райху», дак. фільм.
**23.30** Студыя «Белсат».

TV

## 4 САКАВІКА, СЕРАДА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.15** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.05** Тэлефільм АТН.
**11.00** 90 секунд.
**11.05** Дэтэктыўная меладрама «Зоя» (Расія). Заключная серыя.
**12.00** Навіны.
**12.10** Дак. серыял «Сямейныя меладрамы-3».
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Ваенна-прыгодніцкі баявік «Начныя ластаўкі» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).
**16.00** 90 секунд.
**16.35** Дак. серыял «Сямейныя меладрамы-3».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Камедыйны серыял «Дзявочнік» (Расія). 1-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.05** Урачысты сход і святочны канцэрт, прысвечаныя Дню міліцыі.
**23.45** Тэлефільм АТН.
**00.20** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**00.40** Сфера інтарэсаў.
**00.55** Навіны.
**01.15** Дзень спорту.
**01.25** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан».

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Аднакласнікі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Спадары-таварышы». Тэлесерыял.
**23.00** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**00.00** «Вячэрні Ургант».
**00.35** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Фільм «Смак жыцця» (ЗША - Аўстралія, 2007 г.).
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**15.35** «Ежа багоў».
**16.50** «Вовачка-2». Камедыйны серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.35** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Амаль замужам» (ЗША, 2013).
**21.55** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.20** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.15** «Фірмовая гісторыя». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2» (Расія).
**10.10** Кіпень.
**10.25** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне» (ЗША).
**12.25** Анімацыйны серыял «Пінгвіны з Мадагаскара» (ЗША).
**13.15** Ікра.
**13.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**15.20** Моладзевы серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**15.50** Рэпарцёр.
**16.45** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2».
**17.55** Камедыйны серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**18.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**20.20** Моладзевы серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне» (ЗША). Заключная серыя.
**22.35** Камедыйная фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны» (Новая Зеландыя).
**00.20** Камедыйны серыял «Каханне на раёне» (Расія).

### 3 Беларусь

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярныя відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 22-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**09.00** «Дыя@блог». «Пра мову».
**09.25** «Сын старшыні». Драма (СССР, 1976 г.).
**10.55** «Цені знікаюць апоўдні». Гістарычная драма. 1-я - 3-я серыі (СССР, 1971 г.).
**14.30** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра, драматурга, паэта Валерыя Маслюка.
**14.55** «Размаўляем па-беларуску».
**15.05** «Навукаманія». Медыцына XXI стагоддзя.
**15.30** «Наперад у мінулае».
**15.55** «Персона». Раман Вікцюк.
**16.20** «Гвяздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**16.50** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 22-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**17.40** «Дыя@блог». «Пра мову».
**18.10** Калейдаскоп.
**18.20** «Хрусталёў, машыну!» Гістарычная драма (Расія, 1998 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Цені знікаюць апоўдні». Гістарычная драма. 4-я серыя (СССР, 1971 г.).
**22.20** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**22.45** «Цені знікаюць апоўдні». Гістарычная драма. 5-я серыя (СССР, 1971 г.).
**23.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра, драматурга, паэта Валерыя Маслюка.
**00.15** Калейдаскоп.

### 5 Беларусь

**04.05** Баскетбол. НБА. «Чыкага» - «Вашынгтон». Прамая трансляцыя.
**06.15** Спорт-кадр.
**06.45** Козел пра футбол.
**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Чвэрцьфінал. Чацвёрты матч.
**09.55** Хакей. КХЛ. Чвэрцьфінал Заходняй канферэнцыі. Чацвёрты матч.
**11.50** Баскетбол. НБА. «Чыкага» - «Вашынгтон».
**13.35** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Саўтгэмптан» - «Крыстал Пэлас».
**15.30** Лёгкая атлетыка. Гран-пры. Бірмінгем.
**17.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**18.05** Баскетбол. НБА. «Чыкага» - «Вашынгтон».
**19.55** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. Прамая трансляцыя.
**21.45** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1/16 фіналу. Агляд тура.
**22.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Вэст Хэм» - «Чэлсі». Прамая трансляцыя.
**00.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Ньюкасл» - «Манчэстар Юнайтэд».
**02.30** PRO спорт. Навіны.

### Белсат tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Рэпартэр.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** Два на два (тэледыскусія).
**10.50** «Старыя Дарогі», рэпартаж.
**11.05** «Ранча», серыял.
**11.55** Беларусы ў Польшчы.
**12.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.35** Студыя «Белсат».
**13.05** Рэпартэр.
**13.30** Студыя «Белсат».
**15.55** Два на два (тэледыскусія).
**16.25** «Старыя Дарогі», рэпартаж.
**16.40** «Ранча», серыял.
**17.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**17.55** Зоры не спяць.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Асабісты капітал.
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Рамуальд Траўгут.
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Студыя «Белсат»: Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Маю права (юрыдычная праграма).
**22.10** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**22.35** Людскія справы.
**23.10** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.35** «Рэвалюцыя. Слёзы Майдану», рэпартаж.
**23.55** Студыя «Белсат».

## 5 САКАВІКА, ЧАЦВЕР

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.15** Лірычная камедыя «Я крочу па Маскве» (СССР).
**10.30** Тэлефільм АТН.
**11.00** 90 секунд.
**11.05** Камедыйны серыял «Дзявочнік» (Расія). 1-я серыя.
**12.10** Дак. серыял «Сямейныя меладрамы-3».
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Ваенна-прыгодніцкі баявік «Начныя ластаўкі» (Расія).
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан».
**16.00** 90 секунд.
**16.35** Дак. серыял «Сямейныя меладрамы-3».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Камедыйны серыял «Дзявочнік» (Расія). 2-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Спецыяльны рэпартаж.
**22.05** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.00** Тэлефільм АТН.
**23.30** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**23.50** Сфера інтарэсаў.
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан».

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.20** Серыял «Аднакласнікі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**23.00** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**00.00** «Вячэрні Ургант».
**00.35** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10, 17.20** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** Фільм «Амаль замужам» (ЗША, 2013).
**10.05** «Сардэчна паскардзіцца».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**15.35** «Ежа багоў».
**16.50** «Вовачка 2». Камедыйны серыял.
**17.30** «Званая вячэра».
**18.35** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Галоўнае - не баяцца!» (ЗША, 2010 г.).
**22.10** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Фірмовая гісторыя». Серыял. Заключныя серыі.

### 2 Беларусь

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2».
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Псіхалагічны дэтэктыў «Падмані мяне» (ЗША). Заключная серыя.
**11.40** «Разбуральнікі міфаў». Пазнавальна-забаўляльная праграма (ЗША).
**12.40** «Зразумець і абясшкодзіць». Аўтарскі праект.
**13.20** «Сустрэча з..».
**13.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**15.20** Моладзевы серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**15.55** Перазагрузка.
**16.40** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2».
**17.50** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**18.50** Кіпень.
**19.10** Біятлон. Чэмпіянат свету. Змяшаная эстафета. Прамая трансляцыя.
**20.40** Хачу ў тэлевізар!
**20.45** Рэальны свет.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 6 з 49.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Косці» ЗША. 1-я і 2-я серыі.
**23.25** Камедыйная фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны» (Новая Зеландыя).
**00.15** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).

### 3 Беларусь

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярныя відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 23-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**09.00** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**09.30** «Хрусталёў, машыну!» Гістарычная драма (Расія, 1998 г.).
**11.55** «Цені знікаюць апоўдні». Гістарычная драма. 4-я і 5-я серыі (СССР, 1971 г.).
**14.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра, народнага артыста Беларусі Анатоля Ляляўскага.
**14.40** С. Ясенін. «Ганна Снегіна». Музычна-паэтычная кампазіцыя.
**15.45** «Наперад у мінулае».
**16.10** «Гвяздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**16.45** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 23-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**17.35** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**18.00** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**18.35** «Сіла веры».
**19.00** Калейдаскоп.
**19.10** «Хто смяецца апошнім». Сатырычная камедыя (СССР, 1954 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Цені знікаюць апоўдні». Гістарычная драма. 6-я серыя (СССР, 1971 г.).
**22.10** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**22.40** «Цені знікаюць апоўдні». Гістарычная драма. 7-я серыя, заключная (СССР, 1971 г.).
**23.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра, народнага артыста Беларусі Анатоля Ляляўскага.
**00.10** «Гарыкі і чалавекі». Жыццё і творчасць Ігара Губермана. Фільм першы. 1-я і 2-я серыі.
**01.00** Калейдаскоп.

### 5 Беларусь

**03.35** Баскетбол. НБА. «Таронта» - «Клііўленд». Прамая трансляцыя.
**05.50** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. «Кіль» (Германія) - БГК ім. Мяшкова (Беларусь).
**07.15** PRO спорт. Навіны.
**08.15** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ.
**09.55** Баскетбол. НБА. «Таронта» - «Клііўленд».
**11.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Вэст Хэм» - «Чэлсі».
**13.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Ньюкасл» - «Манчэстар Юнайтэд».
**15.50** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**16.20** Баскетбол. НБА. «Таронта» - «Клііўленд».
**18.20** Авертайм.
**18.55** Хакей. КХЛ. Чвэрцьфінал Заходняй канферэнцыі. Пяты матч. Прамая трансляцыя.
**21.10** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Чвэрцьфінал. Пяты матч.
**23.05** Біятлон. Чэмпіянат свету. Змяшаная эстафета.
**00.35** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**01.30** PRO спорт. Навіны.

### Белсат tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Асабісты капітал.
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.40** Чорным па белым.
**11.05** Людскія справы.
**11.35** «Старыя Дарогі», рэпартаж.
**11.55** «Намібія. Генацыд Другога Райху», дак. фільм.
**12.45** Студыя «Белсат».
**13.15** Асабісты капітал.
**13.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Рамуальд Траўгут.
**13.45** Студыя «Белсат».
**16.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.30** Людскія справы.
**17.00** «Намібія. Генацыд Другога Райху», дак. фільм.
**17.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Карусь Каганец.
**18.05** «Рэвалюцыя. Слёзы Майдану», рэпартаж.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Два на два (тэледыскусія).
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Рэпартэр.
**22.15** Відзьмо-невідзьмо.
**22.45** «Жанчыны Гітлера», дак. фільм.
**23.35** «Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста», дак. фільм: ч. 3.
**00.25** Студыя «Белсат».

**Літаратурная Беларусь**

Выпуск №2 (102)
(люты)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas. info

## Змест



# Сінявокая ў Масковіі

## СУЧАСНАЯ КАЗКА



Анатоль ВЯРЦІНСКІ

*Ці то ясным днём, ці то ў непагадзь,*
*ці то раніцай, ці то вечарам*
*ды дайшла-даехала, Сінявокая,*
*да ўладарства трыдзявятага,*
*трыдзясятага таго царства*
*са сталіцаю Белакаменнаю,*
*Золатаглаваю, Першапрастольнаю,*
*з гэтай самаю Масковіяй.*
*Пакланілася ёй нізка*
*і спыталася нясмела:*
*— Ты скажы мне, Масква-Масковія,*
*як вітаць мне цябе, якой моваю*
*мне пачаць размову з табою?*
*Сказаць ветліва: «Добры дзень!»*
*Сказаць: «Добры дзень у хату»?*
*Альбо, можа, неяк іначай?*

*Ухмыльнулася Белакаменная,*
*усміхнулася Золатаглавая,*
*засмяялася Першапрастольная*
*і адразу ж адказала:*
*— Ну й дзівачка ж ты, Сінявокая,*
*вочы сінія, наіўныя!*
*Задаеш мне такое пытанне.*
*Ты напраўду не знаеш, не ведаеш,*
*як са мною трэба вітацца*
*і якой гаварыць са мной моваю?*
*Ты хіба не знаеш, не ведаеш,*
*што найлепшая з усіх моваў —*
*гэта мова мая, маскоўская,*
*гэта мова мая, расійская.*
*Ты спытаеш, чаму найлепшая?*
*А таму, што магутная самая,*
*а таму, што самая гучная,*
*і ёй дадзена ўладарыць,*
*панаваць над іншымі мовамі.*
*І навошта тваё гэта смешнае*
*«добры дзень… добры дзень у хату…»,*
*калі ёсць маё «здравствуйте!.. здрасте!..»*

*Зразумела, Сінявокая?*

*Тая колькі хвілін маўчала,*
*бо сумелася ад нечаканасці.*
*А затым прамовіла ціха:*
*— Не, не ведала я… Я думала…*
*А я думала, Масковія…*

*Засмяялася Першапрастольная:*
*— Во цікава… Яна думала…*
*Што ж тут думаць, Сінявокая,*
*калі тут і думаць нечага,*
*калі ўсё і так зразумела!*
*Казаць трэба: «Здравствуйте!..*
*здрасте!..»*

*Адазвалася Сінявокая,*
*ціхім голасам сказала:*
*— Калі я да цябе ішла-ехала,*
*то была ў галаве адна думка,*
*і была гэта думка пра тое,*
*што, шаноўная Масковія,*
*мы не толькі суседкі блізкія,*
*а мы сёстры родныя, крэўныя,*
*ва ўсім роўныя мы з табою,*
*што мы любім адна другую,*
*і таму ты не будзеш смяяцца*
*з маёй мовы, з майго прывітання:*
*«Добры дзень… дзень добры ў хату!»*

*Засмяялася Першапрастольная,*
*усміхнулася Золатаглавая,*
*ухмыльнулася Белакаменная:*
*«Здрасте, здрасте, Сінявокая!*
*Значыць, вось ты пра што думала*
*сваёй буйнаю галоўкаю,*
*значыць, вось ты чаго захацела…*
*А ці знаеш ты, а ці ведаеш,*
*што хоць сёстры мы, ды няроўныя:*
*ты — малодшая, я — старэйшая,*
*ты — малая, а я — вялікая*
*і ва ўсім за цябе я большая.*
*Пра любоў ты нешта сказала?*
*Дык вось слухай, сястра-сястрыца,*
*Сінявочка дарагая.*
*Ёсць падставы ў мяне сумнявацца,*
*што напраўду мяне самую*
*бескарысліва ты любіш.*




*Не мяне ты любіш, здаецца,*
*а найперш — мае грошы-траншы,*
*а найбольш — мой газ, маю нафту.*
*Ці не ўся тут любоў-сімпатыя?*
*Ці не так, сястра-сястрыца,*
*мая лепшая хаўрусніца*
*і саюзніца мая першая?*

*Разгубілася Сінявокая.*
*Разгубілася, сумелася,*
*засмуцілася і заплакала.*
*Паліліся з вачэй яе сініх*
*слёзы светлыя, буйныя.*
*Адно толькі з плачам казала:*
*— А я думала… а я думала…*

*Ухмыльнулася Белакаменная,*
*усміхнулася Золатаглавая,*
*засмяялася Першапрастольная,*
*запыталася ў Сінявокай:*
*— Пачакай… Што з табой, дарагая?*
*Ты заплакала? Ты плачаш?*
*Але ж ты дарма гэта робіш,*
*але ж слёзы твае марныя.*
*Ты хіба не знаеш, не ведаеш,*
*што Масква слязам не верыць?*
*Так, не верыць слязам спрадвеку.*
*Ні буйным не верыць, ні дробным,*
*ні салёным і не горкім,*
*ні чужым і не сястрынскім.*
*Ты хіба не ведаеш гэта?*

*— Я ці ведаю?.. Ці знаю?..*
*Не, я думала… я думала… —*
*галасіла ў адказ Сінявокая,*
*выціраючы слёзы горкія.*
*Хутка-хуценька засабіралася*
*у зваротны шлях-дарогу,*
*да сваіх абсягаў-гоняў,*
*да сваіх азёраў сініх*
*і да рэкаў сваіх блакітных.*
*І якраз у гэты момант*
*зазванілі-забілі куранты,*
*тыя, што на крамлёўскай вежы,*
*нібы звонам сваім пацвярджалі*
*(так пачулася Сінявокай),*
*што не верыць слязам Белакаменная*
*і не верыць Золатаглавая,*
*што яе нехта шчыра любіць*
*(хіба можна любіць за нафту?).*
*І яшчэ ў тым звоне адметным*
*яўна чулася Сінявокай,*
*што яна, Першапрастольная,*
*прызнае адно толькі вітанне*
*на адной толькі, гэтай вось мове:*
*«Здравствуйте.. здрасте-здрасте…»*

*Тут і казцы канец, якую*
*я пісаў то пяром, то алоўкам*
*то ўранні, то познім вечарам*
*і назваў недарэмна сучаснаю,*
*бо яна сапраўды такая.*

**Студзень 2015 г.**



# Кнігі ад «Prestigio»

**Электронная бібліятэка ebooks. prestigioplaza.com запрашае ўсіх ахвотных наведаць свет беларускай кнігі. На рэсурсе знаходзяцца ў вольным доступе многія выданні на роднай мове.**

Праект «Кнігі Prestigio» прадстаўлены чыталкай eReader Prestigio і сайтам ebooks.prestigioplaza.com/by/be.

Каманда Prestigio дапаможа не прапусціць самыя цікавыя навінкі сезона і будзе побач, калі вы пажадаеце абмеркаваць прачытанае.

Prestigio

Мэта праекта — пазнаёміць чытача з новымі беларускімі літаратарамі, асвяжыць у памяці старонкі кніг аўтараў мінулых гадоў.

На рэсурсе сабрана больш мільёна кніг 208 аўтараў, актыўна папаўняецца «залатая калекцыя» класічнай літаратуры, а таксама сучасныя кніжныя навінкі, якія можна спампаваць бясплатна.

Чытайце на роднай мове!

# Новая кніга Віктара Казько

**Гэта — «Час збіраць косці» (серыя «Кнігарня пісьменніка» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў). У яе ўвайшлі тры аповесці, у якіх аўтар запрашае чытачоў у падарожжа пакручастымі сцежкамі чалавечае памяці.**




Віктар Казько — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа — адным з першых у сучаснай літаратуры паказаў вайну праз прызму ўспрыняцця дзіцяці. У апошнія дзесяцігоддзі шмат увагі надае экалагічнай праблематыцы, экзістэнцыйным пытанням, а таксама маральнаму і нацыянальнаму станаўленню беларускага грамадства.

Акрамя аповесці «Час збіраць косці», якая дала назву кнізе, у зборнік увайшлі творы «Прахожы», «І нікога, хто ўбачыць мой страх».

Шукайце новыя выданні ў кнігарнях вашага горада!

# «Бабаўняная дзяўчынка»

**Серыя «Каляровы ровар» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў папоўнілася новай дзіцячай кнігай.**




«Бабаўняная дзяўчынка», створаная пісьменніцай Дар'яй Вашкевіч і праілюстраваная мастачкай Аленай Медзяковай, пабачыла свет у выдавецтве «Галіяфы».

Гэтая казка «пра і для дзяўчатак і хлопчыкаў ад двух да ста дзевятнаццаці гадоў» заняла другое месца ў літаратурным конкурсе СБП «Экслібрыс» імя Янкі Маўра.

Ці сапраўды гісторыю пра бабаўняную дзяўчынку можна чытаць «удзень і ўначы, нашча ці толькі што пад'еўшы, лежачы пад коўдраю або ўскараскаўшыся на яблыню», як жартаўліва рэкамендуе анатацыя? Пра гэта мы распыталі стваральнікаў кнігі.

Дар'я Вашкевіч: «Добрая дзіцячая кніга, на мой погляд, можа быць цікавая і для дзяцей, і для дарослых. З майго дзяцінства запомніліся «Хронікі Нарніі» і «Піпі ДоўгаяПанчоха» — мне іх чыталі бацькі, часцей тата, і гэта было захапляльна для нас усіх, не толькі для мяне. І нават сёння мы з бацькамі, абмяркоўваючы кнігі, прыходзім да высновы, што дарослых узбагачае чытанне кніг для дзяцей. Мая казка нарадзілася нечакана — цудоўнасць дзіцячай кнігі ў тым, што яна дае вялікую прастору для фантазіі. Мая гісторыя адвечная, як і ўвесь наш свет — пра любоў ва ўсіх яе праявах.

— Для мяне гэта першы досвед ілюстравання менавіта кнігі, дзіцячай кнігі, — прызналася Алена Медзякова. — Мова метафары для дзяцей — гэта рызыкоўна і адказна! З дзецьмі трэба размаўляць як з дарослымі, трэба дапамагчы ім зразумець і адчуць літаратурны сюжэт. Героі гэтай гісторыі — дзяўчынка, хлопчык і іншыя — валодаюць незвычайнымі якасцямі. Як гэта — бабаўняная дзяўчынка? Якая яна? У выніку нарадзіўся такі «бабаўняны» вобраз — дзяўчо з рудымі, надзвычай даўгімі, мяккімі валасамі і простым адкрытым тварам.

Пісьменнік стварае гісторыю, мастак падштурхоўвае чытацкую фантазію, а галоўная місія — за маленькім чытачом, які ажыўляе і казку, і яе герояў.

Кнігі серыі «Кнігарня пісьменніка» можна знайсці ў мінскіх крамах «Цэнтральная кнігарня», «Акадэмкніга», «Веды», «Книги&книжечки», «ЛогвінаЎ», у інтэрнэце на prastora.by і knihi.by. Цікаўцеся!

**Прэсавая служба СБП**

## САКАВІЦКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

Іна Станіславаўна Снарская (нар. 07.03.1965)
Павел Валер'евіч Лоскутаў (нар. 11.03.1975)
Юрый Віктаравіч Пацюпа (нар. 13.03.1965)
Мікалай Сямёнавіч Маскевіч (нар. 22.03.1945)
Уладзімір Антонавіч Папковіч (нар. 25.03.1935)
Аляксей Уладзіміравіч Рагуля (нар. 25.03.1935)
Вера Аляксандраўна Буланда (нар. 26.03.1955)
Алесь Нарыманавіч Давыдаў (нар. 28.03.1965)
Аляксей Антонавіч Марачкін (нар. 30.03.1940)



Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

# «Вершы на асфальце»

**З 13 па 15 лютага ў Мінску прайшоў IV Міжнародны паэтычны фестываль імя Міхася Стральцова, арганізаваны Саюзам беларускіх пісьменнікаў.**




**Атэна Фарухсад і Дзмітрый Плакс.** Фота Алены Казловай



**Журы-зала ацэньвае «слэмаўцаў»**

Ён пачаўся 13 лютага ў галерэі «Ў» прэзентацыяй дэбютных кніг Тані Скарынкінай, Касі Сянкевіч, Юлі Цімафеевай і Антона Рудака.

Другі фестывальны дзень адкрыла «Вялікае Княства Паэзіі», у якім узялі ўдзел госці з Літвы, Украіны, прагучалі пераклады з польскай, літоўскай, ідыш. З прывітальным словам выступіў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Эвалдас Ігнатавічус.

Імпрэза распачалася невялікім міжнародным флэшмобам: удзельнікі фэсту, беларускія і замежныя аўтары, па чарзе чыталі вершы і прозу Міхася Стральцова. Сюрпрызам сталі Стральцоўскія радкі, зачытаныя на шведскай мове Атэнай Фарухсад, на латышскай — Арвісам Вігулсам, на літоўскай — Гінтарасам Граяўскасам. Сяргій Жадан падчас свайго знаходжання ў Мінску пераклаў некалькі вершаў Стральцова на ўкраінскую мову.

Аўтары з краін-спадчынніц Вялікага Княства Літоўскага і шырэй — Рэчы Паспалітай — дзяліліся ў межах «Вялікага Княства Паэзіі» сваімі культурнымі здабыткамі, узаемнымі перакладамі. Шматмоўнасць — яго асноўная асаблівасць.

Вядоўца вечарыны Андрэй Хадановіч і Сяргій Жадан прадставілі пераклады фрагментаў паэмы Чэслава Мілаша «Дзеці Еўропы».

Літоўская паэтка Гедрэ Казлаўскайтэ выступіла супольна з перакладчыцай Марыйкай Мартысевіч. Аўтар з Клайпеды Гінтарас Граяўскас прадставіў сваю творчасць разам з Андрэем Хадановічам, які пераствараў яго па-беларуску.

Сольна выступілі ўкраінцы Ірына Баташчук, Сяргій Жадан, Дзмітро Лазуткін.

Беларускую праграму забяспечылі Адам Глобус, Наста Кудасава, Наталля Кучмель, Уладзь Лянкевіч.

Фестываль працягнуўся паэтычным слэмам «Беларусь — Украіна».

Каманднае выступленне дзвюх паэтычных зборных Беларусі супраць зборнай Украіны ў першым туры ў паўфінале ператварылася ў індывідуальнае. У якасці суддзяў на слэме выступілі гледачы.

Да 18 паэтаў-удзельнікаў слэму падчас вечарыны далучыліся яшчэ два творцы — паэтка Атэна Фарухсад са Швецыі і перакладчык яе вершаў на беларускую мову паэт Дзмітрый Плакс.

Прадбачыць зыход паэтычнага слэму досыць складана ці нават немагчыма. Цяжка меркаваць, што больш спадабаецца публіцы — «сур'ёзны» верш, прачытаны без асаблівага артыстызму, ці просценькі тэкст на блізкую многім тэму, прадстаўлены «з густам». Гэта як бач без правілаў: прымаюцца любыя метады ўздзеяння на публіку, спробы прывабіць увагу гледачоў і запомніцца.

Няважна, чым паэт плануе ўразіць (акцэнтаваць увагу на яркіх чырвоных туфлях на высокім абцасы, давесці амаль да істэрыкі былога суддзю-гледача гукавым вершам ці рэпам пад рытм We Will Rock You), важны вынік у выглядзе высокіх адзнак і прыхільнасці аўдыторыі.

Паводле правілаў слэму, кожны ўдзельнік меў на выступленне тры хвіліны. У першым туры прынялі ўдзел 18 паэтаў з Беларусі і Украіны.

У першым туры слэму беларускамоўныя тэксты прадставілі Дар'я Балькевіч, Ганна Комар, Міхась Бараноўскі, Вета Зноак, Антон Рудак, Анастасія Кацюргіна, расійскамоўныя — Ганна Коўшар, Таня Светашова, Уладзімір Глазаў, Ганна Мананкова, Яўген Бясчасны, Георгі Барташ.

Склад украінскай зборнай быў наступны: Алена Сцепаненка, Сяргей Прылуцкі, Дзмітро Лазуткін, Аляксандр Ткачынскі, Юры Мацевашчук, Юры Завадскі.

У выніку перамог Георгі Барташ. Думаецца, суддзяў і гледачоў уразілі яркасць падачы тэкстаў, а таксама элегантны шалік на яго шыі. Пераможца атрымаў смартфон «Prestigio», а ўсе паўфіналісты — прызы ад Саюза беларускіх пісьменнікаў і кампаніі «Будзьма беларусамі!».

15 лютага ў мінскай галерэі TUT.BY адбыўся завяршальны этап Фестывалю «Вершы на асфальце» імя Міхася Стральцова, які запомніўся шматгадзіннымі паэтычнымі чытаннямі на розных мовах, а таксама яскравым музычным джэмам.

З першай і да апошняй хвіліны праграмы, да глыбокага вечара, у зале было шмат цікаўнай публікі.

Марафон быў распачаты паэтам і перакладчыкам Дзмітрыем Плаксам (Беларусь-Швецыя), які выступіў у супольным музычным праекце-перформансе са знакамітым гуртом Drum Ecstasy.

У межах сёлетняга фэсту выступілі некалькі дзясяткаў паэтаў. Найбольш маштабныя чытанні адбыліся якраз у апошні праграмны дзень і былі ўмоўна падзеленыя на дзве часткі.

Калі выступленні ўкраінскіх паэтаў Дзмітрыя Лазуткіна і Юрыя Завадскага былі загадзя заяўленыя ў праграме, то з'яўленне нашага Уладзіміра Някляева стала для публікі прыемнай нечаканкай. Нарвежскі паэт Эрлінг Хітэлсэн і перакладчык Лявон Баршчэўскі ў межах фестывалю чыталі арыгіналы і пераклады. Берасцейскі «дэсант» быў прадстаўлены паэтамі Яўгенам Бясчасным, Уладзімірам Глазавым і Ярынай Дашынай. Дзмітрый Кузьмін (Латвія) і Жанар Секербаева (Казахстан) агучылі вершы на расійскай мове.

На закрыцці фестывалю гледачоў чакаў музычна-паэтычны кактэйль, а таксама выступы Касі Сянкевіч, Стася Карпава, Мікіты Найдзёнава, Сяргея Цімафеева, Арвіса Вігулса (Латвія), а таксама літоўскай паэткі Гедрэ Казлаўскайтэ, беларускай перакладчыцы Марыйкі Мартысевіч, Гінтараса Граяўскаса, Андрэя Хадановіча, Сабіны Брыло, Тані Светашовай, Тані Скарынкінай.

Завяршэннем Стральцоўскага фэсту стаў музычна-паэтычны джэм з удзелам калектываў Intelligency, TonqiXod, Triangle. Кожны з гуртоў падрыхтаваў сумесныя выступы з паэтамі Уладзімірам Лянкевічам, Таняй Скарынкінай, Дзмітрыем Строцавым, Вікай Трэнас, Андрэем Хадановічам (Беларусь), Сяргеем Цімафеевым (Латвія), Дзмітро Лазуткіным і Аленай Сцепаненка (Украіна), Сяргеем Прылуцкім (Беларусь-Украіна).

**Паводле lit-bel.org**

# Шчодрыя дэдыкацыі

## Да 80-годдзя Рыгора Барадуліна

Уладзімір СІЎЧЫКАЎ

**Ашчадна захоўваю ў сваіх архівах некалькі дзясяткаў рукапісаў, аўтографаў і дарчых надпісаў Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна...**

Падчас свайго школьніцтва, навучання ў мастацкай вучэльні ды абітурыенцтва ведаў яго творчасць, што называецца, у межах праграмы. Студэнтам універсітэта стаў набываць ягоныя зборнікі, дэкламаваў верш «Філфакаўкам» на святочнай вечарыне.

А вось асабістае знаёмства адбылося ў Вязынцы — на традыцыйным студэнцкім святе паэзіі 1982 года, якое я вёў, што і засведчыў на сваім здымку, надрукаваным пазней у альманаху «Дзень паэзіі», фотамайстар А. Каляда. Запомнілася сустрэча і тым, што якраз перад маім чытаннем аўтарскіх вершаў пры помніку Янку Купалу гучна загрукацела коламі электрычка, а паэт падбадзёрыў, мауляў, смялей, — чытай, мы пачуем!

Пасля былі і вучоба ў мэтра на семінары маладых літаратараў у толькі што адбудаваным Доме творчасці «Іслач», і першы аўтограф на «Маўчанні перуна» («Дарагому Уладзіміру Сіўчыкаву — сваёй дарогі ў паэзіі і жыцці жадаю, верачы ў талент!»), і сустрэчы ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», і выступы перад камерамі ў тэлестудыях, і літсустрэчы з чытачамі, і ўдзел у літаратурна-мастакоўскіх пленэрах у Бычках, на імпрэзах у Палацы мастацтва...

Пазней сталася так, што займеў правa і магчымасць пазваніць яму ва Ушачу, як іменаваў ён сваю малую радзіму, або завітаць дахаты на менскую вуліцу Івана Мележа, пагаманіць у паэтавым кабінеце, застаўленым кнігамі, а перадусім слоўнікамі. Называў класіка і творцу мовы дзядзькам Рыгорам, што яму было вельмі да душы. І страшэнна не любіў ён, калі звярталіся да яго «Уважаемый (Дорогой) Григорий Иванович!» — запрашэнні з такім зваротkам нечытаныя ляцелі ў смецціцу.

Зразумела, можна паблажліва ўсміхнуцца, — маўляў, ці мала за сваё жыццё панапісваў класік віртуозных вершаваных прысвячэнняў?! Колькі іх хаця б у «радыёсвабодаўскай» кніжцы «Дуліна ад Барадуліна»?!

Але я «сваімі» барадулінскімі радкамі даражу.

Не змог паэт па стане здароўя прыйсці ў на той час яшчэ наш Дом літаратара на прэзентацыю анталагічнага выдання «Яна і Я. Вершы і песні пра каханне», затое перадаў створаны экспромтам проста на трамвайным прыпынку, напісаны чорным атрамантам свой чытацкі водгук. Настолькі няўрымслівы і нават рызыкоўны, што маршалак тае аншлагавай імпрэзы паэтаў цёзка і сусед, графік Рыгор Сітніца не насмеліўся агучыць яго са сцэны цалкам.

***

*Няхай*
*Як у лірыка і выдаўца*
*Ва Ўладзімера Сіўчыкава заўсёды*
*Хапае эмоцый*
*І моцы канца,*
*Зь якога пачатак*
*Бяруць народы!*

**Дзядзька Рыгор**
**13.X.05**

*P.S.*
*Жадаю ў мроях*
*Крыляць сакалом,*
*Шляхетна трымацца,*
*Элітніцца.*
*Нястомна і ў ложку*
*І за сталом*
*Завіхацца зь нягнуткім калом,*
*Як Сітніца!*



**Дзядзька Рыгор.** Фота Уладзіміра Сіўчыкава



**Рыгор Барадулін, Вікторыя Ляшук, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Сіўчыкаў. Вязынка. Вясна 1982.** Фота А. Каляды

Кніжка, на якую так адгукнуўся мэтр, пачыналася своеасаблівай інтрадукцыяй — «Найвышэйшай песняй Саламонавай» у барадулінскім узнаўленні. Зборнік той распачаў даволі грунтоўную паэтычную серыю прыватнага выдавецтва «Радыёла-плюс», якое ачольваю ўжо дваццаць гадоў. Быў і застаюся вельмі ўдзячны дзядзьку Рыгору, што пагадзіўся напісаць прадмовы да тома выбраных твораў Максіма Багдановіча «Інтымны дзённік», а таксама да паэтычнай анталогіі «Крэмень і крэсіва», якая днямі, спадзяюся, патрапіць нарэшце на друкарскі варштат.

Ну а працаваць з паэтам над кнігаю з фантастычнай алітэрацыяй на супервокладцы «Рыгор Барадулін. Руны Перуновы. Выбраныя творы», укладаць яе разам з Алесем Камоцкім, замаўляць уступнае слова Уладзіміру Някляеву ўвогуле было за насалоду! Асабліва калі згадаць, што ўсе тамы серыі аздабляў сваімі творамі мэтр не толькі беларускае, але і ўсяе еўрапейскае графікі Арлен Кашкурэвіч, майстэрства якога дзядзька Рыгор шанаваў вельмі высока. Напэўна, хтосьці і не пагодзіцца, але «Руны Перуновы» — адна з самых прыгожых сярод сямі дзясяткаў барадулінскіх кніг. Можа, яшчэ і таму, што змешчаны ў ёй 24 партрэты паэта знаных фотамайстроў, а над дызайнам шчыраваў спрактыкаваны Міхаіл Драко.

На важкім барадулінскім зборніку «Ксты», які выйшаў незадоўга перад «Рунамі Перуновымі», бывае, перачытваю такі подпіс:

*Знадзеена курсіў чакаў*
*Падкрэсліць*
*Важную праяву,*
*Што не спазніўся*
*Ўпарты Сіўчыкаў*
*Скарынаўскую*
*Доўжыць справу!*

**Дзядзька Рыгор**
**17.X.05**
**Менск**

І гэтую дэдыкацыю ўспрымаў і ўспрымаю як пэўны аванс, які яшчэ доўга давядзецца адпрацоўваць. У пэўнай ступені ўдалося гэта, калі падгаварыў дзядзьку Рыгора забраць і перадаць нам машынапіс кніжкі дзецям з, ізноў жа, «рыклівай» назвай «Выпаў грук у грома з рук», які па зразумелых прычынах залежаўся быў у дзяржвыдавецтве.

У папцы быў вузкі аркуш з эпісталай:

*Вяльможны спадар*
*Уладзімер!*
*Дзякуй за ласку і ўвагу!*
*Вы робіце справу, якая застанецца ў вяках. Робіце тое, што рабіць бы*
*мусіла нармальная дзяржава.*
*Нашай не да культуры, не да клопату*
*пра мову, пра мазгі нацыі. Але Бог зь ёй. Быў бы толькі здаровы Уладзімер*
*Сіўчыкаў і ўсё будзе.*
*Яшчэ раз — дзякуй і нізкі паклон!*

**Дзядзька Рыгор.**
**15.V.07**

*Перадаю Вам друкапіс дзіцячай кніжкі.*
*Зь Яна Бжэхвы вершы выбірайце самі*
*— веру ў ваш густ.*

Цалкам пагаджаюся з класікам — на вялікі жаль, і сёння многае ў беларускай культуры, літаратуры і мастацтве робіцца не дзякуючы, а насуперак дзяржаве, яе культурнай, а дакладней, антыкультурніцкай палітыцы. Робіцца намаганнямі энтузіястаў, падзвіжнікаў і сапраўдных патрыётаў, насуперак «спрыянню» чыноўнікаў.

«Як на добры лад, — казаў дзядзька Рыгор, — дык дзяржава мусіла б даць палёгку ўсім выдаўцам беларускамоўнай, а тым болей — беларускамоўнай дзіцячай літаратуры, як тое калісь і было. Сёння ж гэта — з галіны фантастыкі!»

Папрасілі былі дапоўніць, асвяжыць друкапіс, як называў дзядзька Рыгор свае машынапісы з рукапіснымі праўкамі, зборніка «Выпаў грук...» некалькімі вершамі пра сучасныя рэаліі ды гаджэты. Без аніякай фанабэрыі ці сумненняў пагадзіўся ён, а літаральна праз пару тыдняў перадаў тэксты — пра ролікавыя канькі, пра электронную пошту, пра кампутар і інтэрнэт, паўжартоўна далажыў, працытаваўшы радок з Максіма Танка: «Выканана партыі заданне!», і дадаў: «Не ведаю, як атрымалася, але стараўся. Дзякуй шчыры за клопаты, за ўвагу! Чалом!»

Ахвотна даваў ён дазвол друкаваць вершы ў «Крынічцы. Хрэстаматыі для дзяцей малодшага школьнага ўзросту», падказаў назву і на замову бліскуча пераклаў сем вершаў у кніжку «Качка-дзівачка. Польская паэзія дзецям: выбраныя старонкі з паэзіі XIX–пачатку XXI стагоддзяў».

Меў я за гонар і за радасць пабачыць свой выдавецкі лагатып і ягоныя дарчыя надпісы і на такіх выданнях, як камплект кніжкі з дыскам «Вяровіца», а таксама на кніжачцы хуткамоўак «Воз вёз лёс».

Свае адносіны з дзядзькам Рыгорам у апошняе дзесяцігоддзе назваў бы творча-вытворчымі, але, натуральна, усплываюць і чыста пабытовыя цёплыя згадкі.

Набраў быў аднаго разу дамафон у ягоным пад'ездзе і пачуў нечаканае: «Ужо спускаюся!» Літаральна праз колькі мінут, і праўда, паказаўся ў дзвярах разам з жоначкаю Валянцінай ды з валізкамі, з палёгкаю выдыхнуў: «Вас сам Бог паслаў!» Аказалася, што акурат гэтым часам трэба было яму чарговы раз класціся ў лечкамісію абследавацца ды папраўляць здароўе, а я быў якраз на машыне.

І чамусьці прыгадваецца эпізод, як быў ён у нашым офісе пры вуліцы Петруся Броўкі, а мая жонка запрасіла пакаштаваць яе ткемалі з лавашом. Без капрызаў, а хутчэй з цікаўнасцю прайшоў ён на кухню, паслухмяна частаваўся з піалы грузінскім соўсам са сліў...

Узяў на сябе адказнасць, склаў яшчэ адзін барадулінскі, пазвонны том вершаў і эсэ «Тастаме́нт. Выбраныя творы», што прымусіла перагартаць, перачытаць і «Маладзік над стэпам», і «Здубавецьця», і «Босую зорку», і «Евангелле ад Мамы», і «Лісты з Хельсінкі»...

Чакае і, дасць Бог, прычакае свайго часу і рудаватая тэчка, падпісаная знаёмым почыркам, — друкапіс перакладаў з Восіпа Мандэльштама з радкамі просьбы-запавету: «...Буду ўдзячны, калі Вас зацікавіць магчымасць выдання двухмоўкі».

Уладзімер Арлоў падрыхтаваў да друку трэцяе выданне сваёй вядомай кнігі «Імёны Свабоды», якая ўпершыню пабачыла свет у 2007 годзе ў «Бібліятэцы Свабоды XXI стагоддзя». Цяпер чытача чакае сустрэча з 300 партрэтамі тых, хто ад часоў Тадэвуша Касцюшкі і да нашых дзён змагаўся за свабоду і незалежнасць у самых розных іх вымярэннях і ўвасабленнях. Прапануем увазе чытачоў «ЛБ» некалькі новых старонак гэтай кнігі памяці і пашаны.

# «Аддавайся жыццю светланосна!..»: Ніна Мацяш

**Мой нататнік з тэлефонамі ды адрасамі сяброў і знаёмых пачынаецца з эпіграфу — верша Ніны Мацяш:**

*Не знадзейвайся. Пераживі.*
*Хоць якая, ды ёсць патоля:*
*Намарозіць радня па крыві...*
*Адагрэе радня па долі.*

*Сэрца — зашмаргай... Перарві*
*Ёсць лагода на боль, на скруху:*
*Адрачэцца радня па крыві –*
*Паратуе радня па духу.*

*Праўду гэту — як ёсць — прыві*
*Да сцяжыны далейшага руху.*
*Будзь здарова, радня па крыві.*
*Будзь бяссмертна, радня па духу!*



У дзяцінстве Ніна была, на першы погляд, звычайнай дзяўчынкай. Ну, можа, крыху больш засяроджанай, чым раўналеткі. Заглыбленай у сябе. Відаць, душа ўжо прадчувала хваробу, што таілася ў генах.

Сямнаццацігадовая вясковая дзяўчына перажыла сапраўднае шчасце, даведаўшыся, што залічаная на «французскі» факультэт Мінскага інстытута замежных моваў. Але зусім хутка, яшчэ на першым курсе, грымнула бяда... У інстытут Ніна вярнулася толькі праз чатыры гады, за шэсць семестраў здаўшы экзамены й залікі экстэрнам. Атрымаўшы дыплом, выдатна ведала французскую й нямецкую. Ангельскую й польскую вывучыла самастойна.

Невылечная хвароба на ўсё астатняе жыццё прыкула Ніну да інваліднага вазка. Але яна не зламалася, не пусціла ў душу ні роспачы, ні злосці, ні панявергі. Успрыняла гэты выклік лёсу нават не як свой крыж, а як адзначанасць, абранасць Богам. Ніна Мацяш здзейснілася як асоба і зрабіла гэта ў некалькіх сваіх іпастасях-увасабленнях.

Яна ўзнялася ў шэраг нашых выдатных паэтак, атрымаўшы высокія літаратурныя ўзнагароды і галоўную з іх — чытацкую любоў.

Яна зрабілася прызнанай перакладчыцай, пераўвасобіўшы па-беларуску паэзію нобелеўскай лаўрэаткі Віславы Шымборскай, «Маленькага прынца» Антуана дэ Сэнт-Экзюперы, паэтаў французскай «Плеяды», творы сучасных нямецкіх, бельгійскіх, украінскіх пісьменнікаў. За пераклады нашых паўднёвых суседзяў Ніна была ўганаравана міжнароднай прэміяй імя Рыгора Скаварады.

Яна таленавіта пісала для малых чытачоў — п'есы і казкі. Адна з іх — «Казка пра суседзяў, змяю і мядзведзя» — натхніла маладога Уладзімера Савіча, сёння прызнанага мэтра нашай графікі, на ілюстрацыі, якія мастацтвазнаўцы лічаць класікай кніжнага афармлення.

Яна з дзяцінства марыла падарожнічаць, каб пабачыць свет. І, хоць камусьці гэта можа здавацца парадаксальным (у нас нават у Менску інвалід у вазку не заўсёды знойдзе патрэбны пандус, не кажучы ўжо пра ліфты), здзейсніўся і ў іпастасі вандроўніцы. Памятаю, як свяціліся яе вочы, калі мы прыехалі на літаратурныя чытанні ў Нямеччыну і Ніна, прыслухаўшыся да мовы на вуліцах, адчула, што ўсё разумее, а назаўтра загаварыла з гаспадарамі сама. Тое ж здарылася і ў Парыжы, куды з свайго дома ў нямецкай Гоце прывёз улюбёную паэтку ейны даўні сябар-беларус Зміцер Ярашэўскі.

Ніну Мацяш называюць грамадскай дзеячкай. Я не згодны. Яна дасягнула невымерна большага — зрабілася бясспрэчным маральным аўтарытэтам краіны. Пры ўсёй розніцы лёсаў я паставіў бы яе ў адзін шэраг з Ларысай Геніюш. Да спадарыні Ларысы мы ездзілі па духоўную падтрымку ў 1970-я. Да Ніны знаёмыя і зусім незнаёмыя людзі ехалі ў наш час... Я асабіста ведаю дзясяткі людзей, якія сталі беларусамі дзякуючы Ніне. А іх былі сотні, а мо і тысячы.

Ці трэба казаць, як Ніна Мацяш ставілася да цяперашняй улады? Афіцыйныя сымбалі, зацверджаныя пасля рэфэрэндуму 1995 года, Ніна публічна называла «сымболікай часовага ўраду». Калі недзе «наверсе» яе выкраслілі са спісаў кандыдатаў на Дзяржаўную прэмію, я адразу падумаў, што Ніна ўсё роўна адмовілася б прыняць узнагароду ад рэжыму, які пагарджае нацыянальнымі каштоўнасцямі і найперш самай святой з іх — мовай.

Але яна не замыкалася ў коле аднадумцаў. Калі гэта не датычылася яе асабіста, Ніна, адстойваючы праўду і здаровы сэнс, грукалася і ва ўладныя кабінеты. Абласная берасцейская вертыкаль у свой час заснавала літаратурную прэмію імя Уладзіміра Калесніка, але — толькі для сябро̆ў чаргінцоўскага пісьменніцкага саюза. У выніку рэзкага, але бліскуча абгрунтаванага звароту Ніны Мацяш (на той час калегі-мужчыны пераклалі на яе моцныя плечы кіраўніцтва абласной арганізацыяй Саюза беларускіх пісьменнікаў), адрасаванага галоўнаму абласному вертыкальшчыку, прыватызаваць імя вядомага літаратара і педагога не ўдалося. Літаратары-берасцейцы атрымліваюць цяпер гэтую ўзнагароду незалежна ад сваёй «партыйнай» прыналежнасці.

Прэмія імя Уладзіміра Калесніка, вельмі дарагога ёй чалавека, была прысуджаная і самой Ніне Мацяш. Пасмяротна.

Яна ўжо не паспела пакарміць мяне сваёй неверагодна смачнай гарбузовай кашай, як абяцала падчас апошняй сустрэчы.

Калі скончылася дзяцінства, я рэдка плакаў, але пачуўшы горкую навіну пра Нінін сыход, не здолеў стрымаць слёз.

Наша мудрая пісьменніца і крытык Альбіна Семянёва ў тыя дні назвала Мацяш чалавекам еўрапейскага кшталту, асобаю з ліку абраннікаў Божых, якія жывуць у рытме гэтага абранніцтва. Сапраўды, за два дні да адыходу Ніна яшчэ выступала перад чытачамі.

Тады згадваліся й словы Янкі Брыля, які аднойчы, гаворачы пра беларускіх паэтак — Наталлю Арсенневу, Ларысу Геніюш і Ніну Мацяш — на першае месца паставіў менавіта Ніну.

Паўнюткую залу палаца культуры збіраюць у Белаазёрску прысвечаныя Ніне Мацяш літаратурныя чытанні, якія ладзяць ейныя паплечніцы й сяброўкі настаўніца Галіна Скарына, выкладчыцы Берасцейскага ўніверсітэта Святлана Варонік і Марыя Новік, дырэктарка гарадской бібліятэкі Тамара Кузняцова. Бібліятэка, дарэчы, ужо названая імем паэткі. Калі-небудзь тое ж здарыцца і з вуліцай, на якой яна жыла.

Пасля маёй аперацыі на сэрцы Ніна адной з першых дацягнулася слабенькай рукой да тэлефона, каб пазваніць мне ў рэанімацыю. Ёй ужо не дазвонішся, але яе голас працягвае гучаць у нашым беларускім космасе.

Звініць яе радок-запавет: «Аддавайся жыццю светланосна!»

# «Ненармальны» з пяром і нажніцамі: Вячаслаў Дубінка

**Аднойчы на пачатку 1980-х, прыехаўшы на студэнцкія вакацыі ў наш з ім родны Полацак, юны паэт і сябра знакамітай Беларускай майстроўні Сяргей Сокалаў (яшчэ не Воюш) падараваў мне толькі што выдадзеную кніжку пад назваю, ад якой адразу дыхнула нечым свежым і прытульным — «Не плач, душа мая». «Пачытай! — сказаў Сяргей. — Калі гэта — сацрэалізм, дык я — Байран».**



Аповесць, на якую мне хапіла вечара з акрайцам ночы, падаравала глыток вольнага паветра. Галоўны герой Анцюха быў персанажам, безумоўна, станоўчым, але, відавочна, не савецкім. Ягоны вандроўны, «цыганскі» лад жыцця, нязводны гумар, авантурнасць нагадвалі асобаў, што дзейнічалі на старонках твораў Марка Твэна і О. Генры. Імя аўтара кнігі таксама спадабалася й надзейна легла ў памяць — Вячаслаў Дубінка. Я выпрашыў, што пры нагодзе трэба абавязкова пазнаёміцца.

Нагода з'явілася, калі я пераехаў у Менск. Пасля выступу на векапомных Дзядах 1988 года ў мяне ўзніклі непаразуменні з міліцыяй, тым больш, што ў сталіцы, як было запісана ў пратаколе, я насамрэч пражываў без прапіскі. Пакуль Святлана Алексіевіч спрабавала прапісаць сумнеўнага элемента на сваіх метрах, я — каб не быць (у лепшым разе) прымусова вернутым на месца прапіскі — па чарзе жыў у сяброў. Акурат тады і адбылося нашае знаёмства з Вячаславам Дубінкам, які сам прапанаваў, колькі спатрэбіцца, жыць у яго ў майстэрні.

Народжанаму ў вальналюбным Слуцку хлапчуку з юных гадоў прагласся рассунуць межы ўласнага свету як мага шырэй. У сёмым класе ён абтрос у суседа яблыньку, атрымаў на сокавыціскальным заводзіку чырвонец, купіў білет на цягнік, дакуль хапіла грошай, а далей на даху вагона даехаў да Адэсы — каб убачыць мора, пераначаваць на беразе і гэткім самым чынам ірвануць назад — насустрач матулiным кухталям. Пазней ён аб'ездзе ўвесь Савецкі Саюз, дабраўшыся да Магадана і Берынгавых астравоў, а — як толькі гэта станецца магчымым — пачне адкрываць іншыя краіны і асабліва палюбіць Грэцыю.

Аднак на ўсё жыццё галоўнай любоўю ў бясконцых падарожжах застанецца Беларусь, што найлепш пацвярджае безліч цудоўных здымкаў, зробленых Дубінкам у тыя гады, калі ён працаваў фотакарэспандэнтам у «Звяздзе» і «Чырвонай змене», а потым — фатографам у Рэспубліканскіх рэстаўрацыйных майстэрнях міністэрства культуры.

Колішні заўсёднік сустрэчаў у нонканфармісцкім інтэлігенцкім асяродку «На Паддашку», Вячаслаў Дубінка быў і застанецца ўнікальным для Беларусі творцам, надзеленым самымі рознымі талентамі і магутным жыццёвым аптымізмам. За тое, каб выдаць Дубінку пасведчанне сябра сваёй суполкі, галасавалі прыёмныя камісіі чатырох творчых саюзаў: журналістаў, пісьменнікаў, мастакоў і народных майстроў.

Ягоныя публіцыстычныя артыкулы і вандроўныя нарысы, што часам прыводзяць на памяць творы славутага паляка Рышарда Капусцінскага, пазнаваліся з некалькіх словаў. Дубінкавы прасякнутыя незнішчальнай іроніяй і адметныя сакавітай слуцкай гаворкаю кнігі «Браты святой ночы» і «Сіндыкат Мані Дулі», як і «Не плач, душа мая», маглі б стаць літаратурным грунтам для авантурных кінасерыялаў.

Але найбольшую славу прынесла Дубінку старадаўняе беларускае мастацтва выцінанкі. Менавіта ён вярнуў выцінанку з нябыту і стварыў цэлую сучасную школу.

Улюбёнымі справамі Дубінка мог займацца дзе заўгодна. Падчас падарожжаў міліцыя колькі разоў затрымлівала «ненармальнага» з нажніцамі і паперай на вакзалах і ў аэрапортах. А пісаць, ізноў прыцягваючы ўвагу пільных ахоўнікаў парадку, ён найбольш любіў — уявіце сабе — на менскім паштамце.

Вячаслаў мысліў у агульнанацыянальных катэгорыях, але на жыццё заўсёды ўмеў глядзець і здзіўленымі вачыма дзіцяці. У апошнім інтэрв'ю ён сказаў, што жыве, кожны дзень чакаючы дзіва.

Ягонае сэрца спынілася ў жудасную спякоту 2010 года — на паўдарозе, на паўслове, на паўсправе. Рыхтаваў да друку дзве кнігі прозы і альбом выцінанак. Марыў пра выставу ў Швецыі. Шукаў новыя дакументы пра «другое слуцкае паўстанне», што выбухнула ў 1967-м супраць няправеднага савецкага суда. Дапамагаў Нілу Гілевічу ў выпуску чарговага тома надзейна замарожанага «Мастацкай літаратурай» збору твораў. Здаў у турфірму дакументы на паездку ў Грэцыю...

Побач з урнаю, дзе змясцілася тое, што было целам Славы, жонка Тацяна паклала на пахаванні ягоныя акуляры й асадку са сталёвым пяром — якраз такімі ён і любіў пісаць.

Заходзячы на паштамт, я дагэтуль чакаю дзіва: а раптам у чалавечым тлуме сустрэну ўважлівы цёплы позірк ягоных неверагодна жывых вачэй?..

**Уладзімер Арлоў**

# Эцюд пра Івана Лагвіновіча і яго родных



Іван Піліпавіч Лагвіновіч

## Дзяды і бацькі паэта

…Можна было б напісаць пра тое, як пару год таму я прыйшоў у дом малітвы малкавіцкай царквы евангельскіх хрысціян баптыстаў, як доўга стаяў у памяшканні, якое нагадвае праваслаўны прыдзел, і чакаў, калі скончыцца служэнне і я змагу ўбачыць Аляксея Піліпавіча Лагвіновіча.

Аляксей Піліпавіч, у адрозненне ад свайго брата Андрэя, аказаўся чалавекам іншай натуры. Андрэй Піліпавіч, калі я прыйшоў да яго ў двор і папрасіў пагаманіць са мною пра ягонага брата-паэта, спаслаўся на неадкладныя справы, зайшоў у дом, вынес адтуль нумар «Савецкага Палесся» ад 2 красавіка 2011 года і сказаў: тут пра яго ўсё.

Каб жа ў «Савецкім Палессі» было ўсё пра Івана Лагвіновіча! Напрыклад, нічога там няма аб радаводзе паэта.

Мы ішлі з Аляксеем Піліпавічам з маліtoўнага дома па галоўнай малкавіцкай вуліцы. Ён мне апавядаў, а я на хаду запісваў.

Гісторыкам-краязнаўцам яшчэ трэба будзе ўдакладніць, калі канкрэтна ў Малкавічах была пошасць і нямала людзей памерла. У Нацыянальным гістарычным архіве захоўваюцца кнігі малкавіцкай царквы яшчэ з часоў Уніі. Можа, там ёсць запісы? Пэўна, пошасць была за паншчынай, за прыгонам. На месца памерлых у Малкавічы, якія належалі Патоцкім, прыехалі іншыя людзі. Ва ўсякім разе Аляксею Піліпавічу было вядома, што ў сяле было 42 надзелы зямлі для мясцовых і 17 — для прыезджых. Шкадую, я не запісаў, ці былі Лагвіновічы карэннымі малкаўцамі, ці прыезджымі. І тут зноў даследчыку могуць дапамагчы царкоўныя кнігі.

Паэтаў дзед, Мікалай, быў сірата і працаваў у малкавіцкага каваля Хілютыча (цяпер часцей пішуць гэтае прозвішча як Хілюціч). Калі Мікалай Лагвіновіч пасталеў ды ажаніўся, пан даў яму асобны надзел. З першаю жонкаю было ў Мікалая трое дзяцей: сыны Кірыла і Даніла, а таксама дачка (яе імя Аляксей Піліпавіч не помніў). Другі раз Мікалай Лагвіновіч ажаніўся з люсінкай Таццянай. Тацццяна нарадзіла Мікалаю Лагвіновічу двух сыноў — Андрэя і Піліпа, бацьку нашага паэта. Нарадзіўся Піліп у 1891 годзе. Калі яму было 12 ці 14 гадоў, бацька ягоны памёр. Большы брат, Андрэй, ажаніўся і ўзяў меншага да сябе.

…Ідзем мы па галоўнай малкавіцкай вуліцы (назву яе не памятаю — нейкая кандова савецкая), і Аляксей Піліпавіч кажа: вось тут быў пляц Мікалая Лагвіновіча (для цікаўных: там, дзе стаіць дом 112), а вось тут — пляц каваля Хілютыча (дом 149). А яшчэ раней Аляксей Піліпавіч паказаў мне, дзе быў пляц Клішэўскага (жонка Піліпа Мікалаевіча Лагвіновіча — Тэкля Міхайлаўна — была з Клішэўскіх).

Піліпа і Тэклю вянчалі ў малкавіцкай царкве пасля таго, як ён адслужыў у царскім войску (дарэчы, у Вільні) і быў звольнены ў запас. (Думаю: а раптам у царкоўных кнігах захаваўся запіс пра гэтае вянчанне?)

Пажыць доўга цывільным жыццём царскаму салдату Піліпу Лагвіновічу не ўдалося. Неўзабаве тры імператары развязалі Вялікую еўрапейскую вайну, якую пазней сталі называць Першай сусветнай, а ў нашай старане людзі доўга называлі Мікалаеўскай (у «гонар» цара Мікалая II). Да вайны ў Піліпа і Тэклі нарадзілася дачка. Яшчэ адну дачку Тэкля нарадзіла ў час вайны. Абедзве дзяўчынкі памерлі.

Піліп Лагвіновіч як салдат навучаны адразу трапіў на фронт. Ваяваў у Прусіі. Як там разгортваліся ваенныя падзеі, пра тое чытайце ў «Августе Четырнадцатого» Аляксандра Салжаніцына. У чыёй арміі — генерала Паўля-Георга Рэнэнкампфа ці генерала Аляксандра Самсонава — ваяваў наш зямляк, невядома. Аляксей Піліпавіч, апавядаючы пра бацьку, адзначыў, што служыў ён пры сцягу палка. Якога палка — пакуль што невядома. Затое вядома, што Піліп Лагвіновіч трапіў у палон да немцаў.

З лагера для ваеннапалонных практычныя немцы адправілі яго да галандскай мяжы — на завод Крупа. Мо яшчэ высветліцца, дзе канкрэтна быў той завод, на якім наш зямляк і яго таварышы пракатвалі рэйкі і рабілі дрот (пэўна ж, калючы, для фронту). Там, на заводзе, трое палонных ці не ў 1915-м згаварыліся ўцячы з палону. Дамовіліся — зрабілі. З нейтральных Нідэрландаў царскія салдаты перабраліся ў Нарвегію, з нейтральнай Нарвегіі — у саюзную Брытанію, а з Брытаніі — у, зноў-такі, нейтральную Швецыю. Са Швецыі Піліп Лагвіновіч трапіў у Фінляндыю, якая належала тады Расіі, а з Суомі дарога прывяла яго ў Петраград. Як і належала тады па закону, Піліпа Лагвіновіча ўзнагародзілі за ўцёкі з палону медалём. Ніякага табе фільтрацыйнага лагера, ніякага СМЕРШа. Такія вось былі парадкі ў той час — не тое, што пры «народнай» савецкай уладзе. Мала таго, былога палоннага Лагвіновіча з належнымі паперамі адправілі з Петраграда не ў штрафбат і не ў Сібір, а на Каўказ — у водпуск, папраўляць здароўе.

На Каўказе Піліпа заспела Вялікая рэвалюцыя, якую бальшавікі пазней перайменавалі ў Лютаўскую. А да кастрычніцкага дзяржаўнага перавароту, які бальшавікі пазней перайменавалі не проста ў рэвалюцыю, а ў вялікую ды яшчэ сацыялістычную, Піліп Лагвіновіч быў ужо ў родных Малкавічах, у абдымках сваёй Тэклі.

## Браты і сёстры

Ідзем мы па малкавіцкай вуліцы, і Аляксей Піліпавіч апавядае пра тое, як у 1922 годзе ў іх сяло прыйшлі «благавеснікі» — баптысцкія прапаведнікі — з Задуб'я: Піліп Амерыканец ды іншыя. Я маўчу, не кажу, што Піліп — родны брат маёй прабабы, што Амерыканец — яго мянушка, а сапраўднае прозвішча — Сідарэвіч. Мне важна больш уведаць пра сям'ю Івана Лагвіновіча, пра радавод паэта.

Аляксей Піліпавіч нічога не расказаў мне пра тое, як жылося-вялося яго бацькам у час вайны за Беларусь, калі то ўсталяваліся самыя першыя саветы, то прыйшлі немцы, затым зноў саветы, пасля палякі, яшчэ раз саветы і нарэшце — на 19 год — зноў палякі. На другі год савецка-польскай вайны за Беларусь — у 1920 годзе — нарадзілася ў Піліпа і Тэклі Лагвіновічаў дачка Ганна, у 1924-м з'явіўся на свет ён, Аляксей, а за ім яшчэ два хлопцы — Карней (1928) і Аўрам (1930). Пасля іх прыйшлі на свет Паўліна (1933), чыё імя мы сустрэнем у вершах паэта, і Андрэй (1936).

Пасля нараджэння Андрэя, у 1937 годзе, сям'я Лагвіновічаў перабралася з Малкавіч ва ўрочышча Запрапасць. На хутар Лагвіновічы выбраліся без камасацыі — звядзення сялянскіх земляў у суцэльныя участкі (хутары ці водрубы). Паводле закона Польскай Рэспублікі, ліквідацыя церазпалосіцы праводзілася адначасова з парцэляцыяй — драбненнем панскіх уладанняў. У пана павінна было заставацца не больш як 180 гектараў зямлі. Рэшту ён мусіў распарцэляваць ці сам, ці пры дапамозе дзяржавы. Ведама, тыя парцэлы (дробныя участкі) прадавалі сялянам за грошы, часта ў доўг. Камасацыю ў Малкавічах польскія ўлады мерыліся правесці ў 1940-м ці ў 1941-м.

Шкадую, не спытаўся ў Аляксея Піліпавіча, чые ляды былі ў Запрапасці — панскія ці дзяржаўныя. Затое ўспомніў, што слова «ляда» частавата сустракаецца ў творах паэта, і нават адзін зборнік яго вершаў мае загаловак «Ляда юдолі». Не спытаў у Аляксея Піліпавіча, адразу яго бацька выкупіў тыя ляды ці плаціў за іх ра́тамі (па-цяперашняму — часткамі).

Карчавалі Лагвіновічы ніўкі не адно ў Запрапасці — у Грушэцкім і іншых блізкіх урочышчах. Слухаў Аляксея Піліпавіча і думаў, колькі такіх ніваk было ўраблена, акультурана нашымі дзядамі-прадзедамі і колькі іх змарнавалі бальшавікі. У ваколіцах Малкавіч, Задуб'і, Яловай я мог бы наладзіць вялікую экскурсію па закінутых і зарослых дзікім лесам хутарах. Спадзяюся, нехта з краязнаўцаў яшчэ напіша пра гэтае варварства.

## Да біяграфіі паэта

На хутары ў Запрапасці і нарадзіўся Іван Лагвіновіч (15 студзеня 1940 г.). Гэта было ўжо за саветамі.

Цяпер нараджэнне дзіцяці дастаткова было зарэгістраваць у сельсавеце. І Іванавы бацькі не палічылі патрэбным, каб іх самага малодшага хрысцілі ў праваслаўнай царкве.

Забыў тут адзначыць, што праца прапаведнікаў новай веры дала свой вынік на пачатку 1930-х. Аляксей Піліпавіч казаў мне, што баптысцкая царква была заснавана ў Малкавічах у 1933-м ці то ў 1934 годзе. Піліп Лагвіновіч ахрысціўся паводле баптысцкага абраду ў 1935-м. Зноў жа: магчыма, нехта некалі напіша гісторыю гэтай царквы. А наш паэт, Іван Лагвіновіч, у чыіх творах вельмі моцныя хрысціянскія матывы, жыў няхрышчаны да вельмі салідняга ўзросту. Яго марай была беларуская царква. У адным з вершаў ён прасіў:

*…калі я памру,*
*над маёю магілай*
*БЕЛАРУСКІЯ песні спявайце.*

На жаль, ні ў маім Задуб'і, ні ў Малкавічах беларускай царквы не было і няма. Беларуская царква знайшлася ў Баранавічах, дзе Іван Лагвіновіч жыў свае апошнія без малога 19 гадоў. Таемства хросту паэту ўдзяліў грэка-каталіцкі святар айцец Яўген Маліноўскі. Ён жа і адпяваў свайго парафіяніна на Красуні ў Малкавічах.

(Не магу не ўтрымацца, каб не адзначыць пару фактаў. Айцец Яўген Маліноўскі — не толькі святар; ён яшчэ і кандыдат псіхалагічных навук. Дык вось, гэтаму кваліфікаванаму спецыялісту не знайшлося працы ў Баранавіцкім універсітэце, выкладае ён у Мінску.)

Аляксей Піліпавіч Лагвіновіч расказаў мне шмат цікавага пра жыццё-быццё ў Запрапасці падчас апошняй вайны, калі яго самы малодшы брат, Іван, падрастаў і пачаў задаваць пытанні «адкуль, з чаго дзе што бярэцца, вось гэта, тое як завецца» (Якуб Колас). Так мы дайшлі б і да школьных гадоў паэта, але мне трэба было ехаць у Задуб'е, а Аляксея Піліпавіча чакалі дома. Развітваўся я з ім з думкаю пра наступную сустрэчу. І ўсё нейк не ўдавалася мне выбрацца ў родную старану. Калі ж на пачатку гэтага года я пазваніў былому дырэктару Малкавіцкай школы Мікалаю Піліпавічу Сайку, дык пачуў ад яго, што Аляксей Лагвіновіч пакінуў нас…

Успамянуўшы тут добрым словам самага старэйшага з братоў паэта Івана Лагвіновіча, я не апускаю рукі. Спадзяюся, што сёлета мне ўдасца прыехаць у Малкавічы. Яшчэ ж жывыя людзі, якія добра ведалі малога і маладога Івана Лагвіновіча, якія разам з ім хадзілі ў школу, гулялі ў гульні. І мае звесткі да біяграфіі паэта папоўняцца. А што яго біяграфію трэба пісаць — бясспрэчна. Бо паэт ён добры, цікавы, ад Бога.

**Анатоль Сідарэвіч**



Іван Лагвіновіч пахаваны на могілках у вёсцы Малкавічы

# Прыступкі да храма Святога духа



Людміла ПАЎЛІКАВА-ХЕЙДАРАВА

## Мы — беларусы

*«Exegi monumentum» — я помнік узвёў (лат).*
***Квінт Гарацый Флак***

*З нас кожны ўзводзіць помнік у народзе!*
*Над ім не ўладныя прасторы і часы,*
*ён з зорамі над цемрай узыходзіць,*
*ён з сонцам узнімаецца з расы,*
*каб полым слова нашага не згаснуў —*
*ён спеўны, ён журботны, шапаткі,*
*у красках ён, як вочы дзетак, ясных,*
*і першыя вясновыя шпакі*
*лятуць у ім, і коткі гострацьу кіпці,*
*і певень б'е крыламі на зары,*
*паўсюдны ён, куды пагляд ні кіньце,*
*адкрыты ўсім — на саменькім зыры!–*
*ён рык зуброў, грымоты навальніцы,*
*уплецены ў купальскія вянкі,*
*ён звонам урачыстым са званіцы*
*зрываецца ў наступныя вякі,*
*вада нагбом — сцюдзёная, хмяльная,*
*пакладзенае зернейка ў раллю —*
*ён цішыня на золаку, якая*
*яднае ў свеце неба і зямлю.*
*Пульсуе ў ім, не ведаючы зводу,*
*святло сусвету, час і наша кроў.*
*Мы пакідаем помнік свой народу —*
*сваё жыццё, свой плён, сваю любоў.*

## Верш удзячнасці Пімену Панчанку

*І страшна падумаць,*
*і страшна паверыць,*
*ва ўсё,*
*што было між людзьмі.*
*І што будзе?*
*І страшна,*
*як б'ецца аголена сэрца,*
*і страшна,*
*як б'юць па аголеным сэрцы,*
*якое з любоўю*
*аддадзена людзям.*

*Абпалена горла*
*пакутаю песні.*
*Як можна?!*
*Не пляскайце полымю ў ладкі!*
*Хвіліну маўчання! —*
*І сэрца ўваскрэсне,*
*любоў уваскрэсне.*

*І ўбачаць нашчадкі:*
*Як бацька*
*гатовы быў сына праклясці,*
*як рвалі мы жылы,*
*як рвалі нам нервы,*
*як страшна было —*
*узляцець,*
*а не ўпасці,*
*як мы адрджаліся*
*Сорамам з Гневам.*

## Памяці Васіля Быкава

***Дабрата — таксама зброя.***
***Васіль Быкаў, «Мёртвым не баліць».***

*У Радзімы ўсе сыны —*
*як найлюбшы, то ў ізгоях!*
*Воем стаўся ў час вайны —*
*праз жыццё застаўся воем.*

*Воем стаўся ў час вайны...*
*Лейтэнанты — Бог мой! — дзеці!*
*Не паменела маны*
*з тых часоў на белым свеце.*

*Ды і праўду адшукаць*
*на зямлі не палягчэла.*
*Ён адзін стаяў, як раць,*
*проці ўлады адзічэлых.*

*Каб пакінуць на вякі*
*запаветнае ад воя,*
*ведай, людзі-дзівакі:*
*дабрата — таксама зброя!*

*Дзён імклівых чарада...*
*Хай на яве, а не ў мроях*
*на зямлі адзінай зброяй*
*застанецца дабрата!*

**19.06.2014, Тарасава**

***

*За сонцам — след у след*
*зыходзяць нашы дні...*
*Адкуль ім знаць? — Не ведаюць яны,*
*што сонца — у няволі ў нас саміх...*

***

*Апокрыў жоўты над маёй журбой.*
*Між абразамі перад тварам смерці*
*усмешка птушкай спуджанай біецца.*
*І што жыццё? Уступ, адзіна скерца*
*да вечнасці. Мне страшна — не з табой!*
*Камечу шаль, каб не скамечыць сэрца...*

**31.05.2014**

***

*Заміж пупышак — смочак слівы,*
*пачуццяў, думак, слоў завея,*
*душа і вочы — насцеж...*
*Хіба ўсміхалася б табе я,*
*калі б была шчаслівай?*
*Аднак і ты — не шчасце...*

**26.04.2014**

***

*Восень няверная...*
*Месіва лісцяў, пачуццяў*
*сумам адмерана.*
*Ветру вучуся.*
*Імчуся.*
*Туды, дзе ні шляхоў, ні сірэн.*
*Праверана!*
*Свабода — у палоне вен*
*і вуснаў.*
*Прэч, вусціш!*
*Матор не глушу.*
*Імчуся!*
*...Восень.*
*Куды мне падзець душу?..*

***

*Няхай ты проста лёсу шал —*
*нябёс сягаючы, душа*
*гарыць. Прашу я, не спяшай!..*

*...А ты смяешся...*

*Ноч-крумкачыха не ўцячэ!*
*Я п'ю любоў тваіх вачэй,*
*Прашу, пабудзь са мной яшчэ!..*

*...А ты — смяешся...*

**31.05.2014**

***

***A. R.***

*Мой друг...*
*Паэт — не болей, чым вакзал*
*без часу, без раскладу, без дарогі,*
*дзе аб парог не выціраюць ногі,*
*а калі шчыра, збіты ўсе парогі.*
*Вакзал...*



*Забудзь. І хто табе сказаў?!*

*Паэт, мой друг, не болей, чым базар,*
*дзе прадаюць за гордымі радкамі*
*на сэрцы і за пазухаю камень,*
*дзе ўсё на коне — свет і драбяза,*
*дзе часам шчырасць — горай ад ляза.*

*Базар...*
*Не вер. І хто табе сказаў?!*
*Паэт не больш, чым Божая сляза...*

**23.07.2014, Менск**

## Танец любові

*Першы, хто паведаміў*
*сваёй смяшлівай сястрычцы,*
*што яна прыгожая, дзе ты?*
*Вее сіверам ад твайго крыжа.*
*Бог з Табой!*
*Танчу з Паўночным ззяннем*
*над тваімі дарогамі.*
*Трэцякласнік, які прызначыў*
*спатканне той, да якой сеў*
*за адну парту...*
*І цяпер там няма нічога вышэйшага*
*ад чыгуначнага насыпу з мастом.*
*Бог з Табой!*
*Танчу з пранізлівым ветрам*
*між пралётаў маста*
*над стромай плынню маёй Бярэзіны...*
*Той, хто нахіліўся ў палову роста,*
*каб павесці нязграбную дзяўчынку*
*ў блізкім танцы на школьным ранішніку.*
*Пяць год яна расла да твайго пацалунка...*
*Бог з Табой!*
*Танчу са снегірамі*
*на зіхоткім голлі аснежанага саду...*
*Ты, хто падараваў мне сына...*
*Бог з Табой!*
*Танчу ў безданях сэрца*
*неўтаймоўны танец маці...*
*Юнак, які ля зорнага ляснога возера*
*назваў агаленую дзяўчыну*
*Багіняй Любові...*
*Дзе зараз яны, ручнікі нашых заручынаў?..*
*Бог з Табой!*
*...Танчу з золкамі на палотнах,*
*што выбельваюць ранішнія росы...*
*...Танчу са стракозамі пад спеў салаўёў*
*сярод пражэрлівых, гарластых жаб...*
*...Танчу з дажджом сярод гронак мокрага,*
*як і мой твар, бэзу...*
*...Танчу з небам,*
*якое кружыцца над тваёй галавой...*
*...Танчу сярод маіх ліхаманкавых вачэй,*
*скіраваных у твой пусты бок...*

## Прыступкі да храма Святога духа

***S.T.***

**2**

*...на зорным гарышчы — каты і скразняк*
*а ты завітаў — і зніячэўку світае*
*і нехта зямлю пад нагамі хістае*
*і мовіць баюся што-небудзь не так...*

**3**

*Быў дзень, як дзень. І той на зыходзе.*
*А з тэлефона голас густы:*
*— Памятаеш?.. XII-е стагоддзе...*
*Царква... На прыступках я і ты...*

*— Чакай! Не веру! На якім ты свеце?..*
*Хаця не важна, і я на тым...*
*— Ты памятаеш, як б'ецца маё сэрца?*
*Паслухай...*

**27.07.2014**

# Як чорта ў Гомелі лавілі

## Непрыдуманая гісторыя



Ігар ПУШКІН

**Здарылася тое на Магілёўшчыне. Бо некалі Гомель знаходзіўся ў Магілёўскай губерніі, затым Магілёў у Гомельскай... Дакладней кажучы, у Падняпроўі.**

Здарылася тое ў час вялікіх катаклізмаў, пераўтварэнняў і эксперыментаў. Вайна, рэвалюцыя, зноў вайна, але грамадзянская. На гора ўсім — савецкая ўлада, часам ніякай. Ваенны камунізм, паўстанні, нэп, беларусізацыя, «паспыталі» РСФСР, затым БССР. Звычайны чалавек не ведаў, куды падзецца.

І вось у гэтай калатнечы з'явіўся на нашай зямлі «чорт». Ад пачатку яго ўбачылі ў Клінцаўскім павеце, затым у Гомельскім. Захваляваўся народ на рынках Гомеля і Навабеліцы, замітусіўся.

А пачалося ўсё, як заўжды... з бабы. У адной жонкі невядома як і невядома з якой прычыны апынуўся мужык у Амерыцы. Жыў бы сабе ціха і працаваў у капіталістычным свеце. Але ж закарцела яму паслаць жонцы даляраў. Напрыклад, дзвесце для пачатку. Ашчасліўціць гаротную. Сума для савецкіх часоў сярэдзіны 20-х гадоў XX стагоддзя вялізная. Не магла яна застацца без увагі грамады і тым больш чорта.

20 студзеня, атрымаўшы паведамленне аб тым, што ёй прыслалі 200 даляраў з Амерыкі, жанчына, не будзь дурніцай, пайшла ў сельсавет і заверыла паперку там. Ды хутчэй на пошту, але тая ўжо была зачынена. А ноччу, каля апоўначы, нехта пагрукаў у дзверы яе хаты. Яна не спала. Не верачы шчасцю, разлічвала, куды падзець грошы. Набыць нешта — у крамах не было чаго. Схаваць да лепшых часоў, але куды? Думкі не давалі заснуць. А тут нехта швэндаецца ў позні час. Праз клопат не праявіла пільнасці. Без страху адчыніла дзверы. Перад вачыма стаяў чорт, які адразу запатрабаваў даляры. Баба чорту: «Пошта не працавала, няма ў мяне амерыканскай валюты!» Той у адказ: «Глядзі, нікому не кажы, заўтра па іх прыйду!»

На наступны дзень жанчына пайшла на пошту і, горка плачучы, атрымала перавод. Касірка, таксама баба, па-свойму, па-жаночаму, запыталася: «У чым справа?» А тая, не паспеўшы яшчэ адчуць сябе багацейкай, кажа: «Ноччу чорт да мяне прыйдзе па грошы». Ад пачуцця салідарнасці работнік пошты паабяцала прыслаць да яе міліцыянтаў.



І тыя ўдвох, увечары, прыйшлі да валютатрымальніцы. Адзін схаваўся ў сенцах, другі — у хаце. І зноўку, дакладна апоўначы, чорт з'явіўся. Той, што быў у хаце, — самлеў ад страху. Другі, што пабачыўшы, з сенцаў у хату — скок і адразу чорту: «Хэндэ хох». Прабачце, «Рукі ўгору!»

Чорт — істота паслухмяная. Звычкі не падпарадкоўвацца патрабаванням органаў не меў, таму загад выканаў.

Супрацоўнік міліцыі, служба такая, здзёр з чорта скуру. А пад ёй (дарэчы, была яна ад каровы) аказаўся старшыня сельсавета! Той, што завяраў жанчыне паштовае паведамленне. Пазней казалі, што гэта быў нехта з паштовых служачых. Але гэта няпраўда.

На працягу чатырох апошніх дзён студзеня па ўсіх прадпрыемствах Гомеля пашырыліся чуткі, што чорта злавілі, прывезлі ў горад, і міліцыя паказвае яго цікаўным. Прычым бярэ за гэта няпдарага — усяго па 10 капеек з носа.

Народ закалаціла. Увечары, 31 студзеня, некаторыя рабочыя, несвядомыя, накіраваліся ў парк Луначарскага. Туды, па чутках, міліцыянты збіраліся прывесці чорта на агледзіны. Нехта часам крычаў: «Чорта вядуць!» Натоўп кідаўся ў той ці іншы бок, але на пазначаных месцах чорта не было. Затое была вялікая штурханіна.

У той жа дзень, крыху раней, каля сотні рабочых, не нейкіх там саматужнікаў, сабраліся каля рабачкаму саюза будаўнікоў. Уздоўж па вуліцы праходзіла калона міліцыянтаў з аркестрам. Самы дурны або нягеглы залямантаваў: «Вось чорта вядуць». Праўда, потым некаторыя казалі, што крычаў ён нешта іншае, накшталт «чэрці йдуць». Дакладна невядома. Тым не менш, падушыўшы адзін аднаго, рабочыя чорта так і не пабачылі.

На наступны дзень на кірмашы камусьці здалося тое ж. Людцы, забыўшы, чаго прыйшлі, кідаліся з боку ў бок. Нарэшце, у гэты раз самы разумны выказаў думку, што чорт знаходзіцца ў гарсавеце. Там яго будуць паказваць пасля дэманстрацыі кінакарціны. Усе пабеглі туды.

Вялікая колькасць жыхароў з Гомеля і навакольных вёсак увесь дзень гуртавалася каля гарсавета і штосьці выглядала ўнутры будынка. А тым часам у гарсавеце праходзіў пленум губвыканкама! Адказныя работнікі губерніі пад пільнымі позіркамі месцічаў усё ніяк не маглі засяродзіць сваю ўвагу на вырашэнні важных гаспадарчых і сацыяльных спраў. Таму пад вечар натоўп цікаўных у Гомелі быў разагнаны міліцыяй.

Куды падзеўся чорт, дакладна не вядома. Адзін бедалага з вёскі Стаўбуны Свяцілаўскай воласці казаў, што здаюць сяляне харчпадатак, а атрыманыя грошы з усёй губерніі чорт забірае. Затым разам з касірамі з губфінаддзелу збег за мяжу.

Калі хто сам хоча даведацца падрабязнасці таго, як лавілі чорта ў Гомелі, няхай звяртаецца ў Дзяржаўны архіў грамадскіх аб'яднанняў Гомельскай вобласці, фонд № 1, вопіс 1, справа 1938, аркушы 80–81...

# Досвед выбараў



Зміцер ДЗЯДЗЕНКА

* * *

*Каб электарат не пырскаў слінаю,*
*Каб яму альтэрнатыву даць,*
*Вырашылі ў нас абраць адзінага*
*І яго на выбары пасляць.*

*Кандыдатаў вартых набіраецца —*
*Як у паліклініцы чарга:*
*Кожны быць адзіным пагаджаецца,*
*Саступіць не хочуць ні фіга.*

*Той крычыць, што мае досвед выбараў,*
*Той — што ўладзе ён нясе каюк...*
*Прадказаць бяруся беспахібна я:*
*Зноў адзіных будзе дзесяць штук!*

* * *

*Я так спадзяваўся схавацца ад спорту:*
*Я нават сацсеткі адпрэчыў, на жаль.*
*Ды прас заявіў мне бравурным акордам,*
*Што «Даша ізноў настраляла медаль!»*

*Я выкінуў прас свой, падумаўшы: «К чорту!»*
*На ноўт з пыласосам накінуў вуаль.*
*Але і пліта заявіла мне горда,*
*Што «Даша ізноў настраляла медаль!»*

*Да тэхнікі страшна цяпер дакранууцца:*
*Ў яе алімпійскі ці шабаш, ці баль...*
*А краны равуць і ў гігіэрыцы б'юцца,*
*Бо «Даша ізноў настраляла медаль!»*

### Беларуская антынародная п'еса «Надзея памірае апоўначы»

*Першая дзея:*
*выходзіць Надзея.*

*Дзея другая:*
*на гадзіннік пазірае.*

*Трэцяя дзея:*
*памірае Надзея.*

* * *

*Я не стрымаю ані ўздыху, ані ўсхліпу:*
*такія сродкі — і марнуюцца дарма!*
*Краіна справілася ледзь з птушыным грыпам,*
*як навалілася свіначая чума.*

*Яна прыйшла — як падатковая, знянацку,*
*не папярэдзіўшы пра дату і пра час.*
*Як перарастак адбірае ў дзетак цацкі,*
*так нас пакінулі без сала і кілбас.*

*Мне давядзецца жыць цяпер*
*без пальцам пханай!*
*Усю зіму адно сядзі — грызі рублі.*
*Нібыта Гамлета, чатыры капітаны*
*майго кабанчыка вось гэтак звалаклі...*

*Гляджу на мяса на малюнках і карцінах —*
*і абураецца галодны арганізм:*
*спачатку птушкі, а цяпер дайшло*
*да свінак!*
*Напэўна, трэба гучна скардзіцца*
*ў Грынпіс...*

### Маёрскае танга

*Рос гармідар п'яны*
*Ў зале рэстаранный.*
*Вы стаялі грозна, быццам БээМПэ.*
*Цяжка даступіцца*
*Ў вашыя граніцы...*
*Я спыніўся, як на КаПэПэ.*

*Я зірнуў па флангах,*
*Запрасіў на танга,*
*Быццам у атаку з месца вас падняў.*
*Раптам штосьці як вухне*
*Ў рэстараннай кухні,*
*І аркестар ціха задрыжаў.*

*У прыціхлай зале*
*Доўга танцавалі*
*Мы пад тое танга — енчыла зямля.*
*Я прытупваў ботам,*
*Вы шапталі ноты,*
*Асабліва часта ноту «ля».*

*Танга адгучала,*
*Уздыхнула зала,*
*Быццам у баях адбыўся перал́ом.*
*Вы па гэтай зале*
*Ціха пакульгалі —*
*Ад мяне хавацца за сталом.*

### З жыцця брытанскай арыстакратыі

*Неяк у палацы лорды*
*Вывучалі ўслых акорды.*
*Доўга мучылі гітару —*
*Да прыходу санітараў.*

*

*Неяк лорд зазначыў лорду:*
*«Сэр, вы ставіце рэкорды:*
*Покуль мы галасавалі,*
*Вы два літры апрасталі!»*

*У адказ на гэта лорду*
*Апанент сказаў няцвёрда:*
*«Сэр, у нашай у палаце*
*Кожны сам за піва плаціць!»*

*

*Неяк лорд пакрыўдзіў лорда:*
*«Сэр, гучыце вы не горда!»*
*У адказ на гэта лорд*
*У калегу кінуў торт.*

### Жорсткі пацанскі раманс

*Не пакідай мяне, каханая мая!*
*Ты прыгадай, як я насіў табе букеты.*
*І помнік Леніна запомніць наша лета,*
*Бо штоначы вакол яго рваў кветкі я,*
*наносіў шкоду камунальнаму*
*бюджэту...*

*Не пакідай мяне, не пакідай,*
*Бо горад з цяжкасцю забудзе*
*гэту страту.*
*І персанал дэпо заходзіцца ад мату,*
*Згадаўшы даўна крадзены трамвай,*
*Якім я дастаўляў цябе дахаты.*

*Пабудзь са мной наяве, а не ў сне!*
*Інакш табе будзе адзінока...*
*А калі не — я выб'ю табе вока!*
*Не пакідай, каханая, мяне.*
*І ні паўслова не кажы папроку!*

# «Мае героі былі рамантыкамі»

## Іван Навуменка: сказанае застаецца

Гэтую гутарку з Іванам Якаўлевічам Навуменкам, якому ў лютым споўнілася б 90, я запісала ў 2003 годзе. Класіка заўсёды пацвярджае, што яна — блізкая, адначасова даступная і да канца неспасціжная, лёгкая ў кантактах і ў адну хвіліну прасвечвае субяседніка татальна, як рэнтген. Класіцы для гэтага ані не трэба рыхтавацца: гэта нам увесь час неабходна расці для сустрэч з ёю.

Іван Якаўлевіч Навуменка (16.02.1925–17.12.2006) — выдатны пісьменнік, якога ў Еўропе і свеце ўсё часцей будуць згадваць у кагорце Lost Generation writers: ён з тых, хто прыходзіў у еўрапейскую прозу 19–20-гадовым ветэранам, і не толькі з ваеннага акопа, але яшчэ і з акупаванай беларускай зямлі. Яго эстэтычным ідэалам была гарманічная паэтыка Якуба Коласа. Але ў многім ён перагукваецца з франтавікамі Рэмаркам і Гарэцкім таксама, хоць пісаў ужо не пра першую, а пра другую сусветную вайну і пра жыццё пасля яе.

Самы вядомы афарызм Івана Навуменкі — «кніга адкрывае свет». І яго ўласныя кнігі такія: ці былі яны створаны юнаком, захопленым філалогіяй, які вярнуўся з фронта ў інтэрнат на Нямізе, ці Народным пісьменнікам Беларусі, ці — літаратуразнаўцам-акдэмікам, дырэктарам Інстытута літаратуры беларускай Акадэміі навук, старшынёю Вярхоўнага Савета БССР... Усё, напісанае Іванам Навуменкам, нязменна пазначана адметнасцю яго пісьменніцкага таленту і самой асобы. Гэта заўсёды праніклівы погляд на жыццё і на сябе ў ім, прычым вельмі часта з усмешкай, іроніяй. Без унутранай устаноўкі на экспансію, а наадварот, са схільнасцю да лірызму, псіхалагізму. Гэта вельмі пэўны асабісты выбар — з захаваннем уласнай пазіцыі, уласнай годнасці, самавітасці. Нездарма на пахаванні Івана Навуменкі над яго магілай прагрымеў вайсковы салют. Пісьменніцкае пакаленне шасцідзясятнікаў, да якога належаў Іван Навуменка, абараніла і памножыла гонар беларускай літаратуры праз цэлае стагоддзе, бо гэтым хлопцам-равеснікам было што сказаць. І Іван Якаўлевіч Навуменка не змоўчаў — расказаў.

**Людміла СІНЬКОВА**



Іван Навуменка – баявы старшына

***Л. Сінькова: Іван Якаўлевіч, у сваіх творах Вы расказваеце пра юнакоў, менавіта ўчарашніх школьнікаў, якія трапілі на вайну, і пішаце пра гэта глыбей за іншых беларускіх пісьменнікаў. Скажыце, калі ласка, Вы свядома імкнуліся напісаць партрэт свайго пакалення, ці ён ствараўся сам сабой, па меры з'яўлення пэўных аповесцяў?***

***І. Навуменка:*** Я думаю, свядома, і ў гэтым, нават, бачу свой творчы лёс, бо лягчэй за ўсё мне пішацца пра тое, што бачыў на свае вочы, або сам перажыў, ці добра ведаю з чужых слоў. Менавіта гэтыя веды я лічу самымі важнымі і значнымі для маіх кніг. Іншых назіранняў у мяне не так ужо і шмат. Гэта тлумачыцца лёсам майго пакалення. Мы былі прывязаны да пэўнага месца: спачатку вучыліся 10 гадоў у школе, потым 5 гадоў у інстытуце. Таму ў нас не было магчымасці вандраваць па краіне, у адрозненне, напрыклад, ад М. Горкага, які абышоў амаль усю Расію. Ужо потым мы з Алегам Лойкам збіраліся разам абысці Беларусь. Людзі нават пасміхаліся — маўляў, абуліся ў лапці, павесілі торбы і пайшлі. У лапці мы не абуваліся, ішлі ў чаравіках, але ж прайшлі толькі Браслаўшчыну, азёры...

У сваім жыцці я, канечне, многае бачыў: быў на вайне і ў партызанах, шмат ездзіў, ведаю многія мясцовасці. І ў сваёй творчасці абапіраюся толькі на свой вопыт, на тое, што чуў, што бачыў, у чым непасрэдна прымаў удзел.

***Л. С.: Тыя падзеі, якія Вы апісалі ў першых сваіх творах, пачынаючы з апавядання «Сямнаццатай вясной», сёння ізноў па-новаму цікавяць і даследчыкаў літаратуры, і чытачоў сталага ўзросту, і вучняў. Калі чытаеш пра апісанае Вамі жыццё ва ўмовах акупацыі, часам думаеш, што на фронце было лягчэй, і таму нездарма ўсе так ірваліся туды. А Вы ж былі і ў падполлі, і ў партызанах, і на перадавой. Дык скажыце, калі ласка, дзе жыццё было больш складаным — пад акупацыяй ці на фронце?***

***І. Н.:*** Думаю, што ў акупацыі было складаней. І нават партызанам жылося цяжэй, чым на фронце. Мяне акупацыя застала ўжо пасля 9 класа... Для маладога чалавека — гэта вельмі змрочны час. Немцы зусім не цікавіліся, хочацца нам у школу ці не. Была адсылка ў Германію; галадалі, елі суп з якой-небудзь бручвы. Па ўсіх нашых высокіх парываннях ударыла акупацыя. Прыйшлі людзі з чужой краіны, у іх таксама ёсць дзеці, яны, каб неяк апраўдацца, паказвалі фотакарткі са сваімі дзецьмі, са сваімі «фрау». Але ж ты прыйшоў ужо ў якасці заваёўніка. Ды яшчэ немцы тыя самыя, што далі нам, скажам, Бетховена, музыку, філасофаў славутых. Гэтыя самыя немцы прыйшлі з дубінкамі гумовымі, расстрэльвалі, вешалі — поўная процілегласць таму, што давала Германія ў XIX ст. Прыйшлі як забойцы, як каты. І вось калі ласка, калі ты дзевяцікласнік, граматны чалавек, вось табе які лёс. Ну, канечне, моладзь не скаралася, у партызаны ішла, у пасёлку ствараліся падпольныя групы... Я расказаў пра ўсё гэта ў аповесцях «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці»...

***Л. С.: Іван Якаўлевіч, Вашы творы ў вялікай ступені аўтабіяграфічныя. Аднак, як адзначалі і Вы самі, і вядомыя беларускія крытыкі, абсалютна не трэба атаясамліваць героя Івана Якаўлевіча з самім Іванам Якаўлевічам. Тое ж і з Вашымі героямі. Яны (напрыклад, Мілаванаў у «Юнацтве») на фронце чытаюць Канта, Гегеля па-нямецку, Васіль (з той жа аповесці) чытае «Вікторыю» Гамсуна, па-польску спрабуе чытаць Рэмарка. Ці сапраўды на фронце было шмат такіх адукаваных хлопцаў?***

***І. Н.:*** Па-першае, не забывайце, што мы ўжо ж былі людзі фактычна сярэдняй адукацыі. Напрыклад, мае таварышы Іван Доўжык, Анупрэй Брэль... У нас вельмі дрэнна выкладалі нямецкую мову, і недзе ўжо перад 10 класам мы з жахам адчулі, што не ўмеем па-нямецку да дзесяці палічыць. Узяліся самі даганяць. Падручнік для 5 класа вывучылі назубок, але ж гэта таксама ўсяго 900 слоў. Ну яшчэ крыху павучылі.

А ў акупацыі, самае галоўнае, мы спрабавалі радыёпрыёмнік наладзіць, але ж было цяжка. І тады ўзнікла думка: а чым мы горш за немцаў, давайце тое, што яны для сябе пішуць, давайце і мы чытаць. Разумееце, мы ўжо пэўнымі навыкамі авалодалі, і ўжо на першым годзе акупацыі чыталі нямецкую газету. Гаварыць не ўмелі. Гаворка, разуменне прыходзіць пазней, але трэба [лексіку] ведаць. Так і мае таварышы. Я не скажу, колькі ведаю слоў. Канечне, вывалацца залішне нельга, але я любы тэкст газетны магу чытаць. Размоўнай мовай я больш-менш авалодаў у Германіі, таму што на кожным кроку пыталіся пра тое, другое...

***Л. С.: У час вайны Вы былі ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай зоркі. І ў афіцыйнай літаратуры можна знайсці апісанне той аперацыі, за якую Вы гэты ордэн атрымалі. Раскажыце, калі ласка, як гэта адбывалася, бо ў нас не кожны народны пісьменнік, які трапляў на фронт, мае такія ўзнагароды.***

***І. Н.:*** Адразу хачу сказаць, што Чырвоная зорка не самы галоўны ордэн, і яго давалі многім...

***Л. С.: Але гэтая аперацыя апісана ў адным з тамоў гістарычнай энцыклапедыі.***

***І. Н.:*** Так, я і сам вывучаю гісторыю і сапраўды знайшоў звесткі пра тую аперацыю. Рэч у тым, што ў канцы вайны ў нас (немцы гэтым карысталіся ў самым пачатку) нарэшце сталі падслухоўваць немцаў. Гэта не так складана. У бок нямецкай перадавой лініі працягваюць вусы, ці драты. І ляжыш ад гэтай перадавой за метраў 200–300. Апарат ёсць, называецца УСП (расшыфраваць не магу), і чуеш перамовы... Холад, зіма, паспрабуй паляжаць у гэтых бадылях і лазе. Уявіце сабе: Ганс пытае, што давалі на вячэру, а другі пералічвае. А мы не вельмі каб і накормлены, чуеш, як у жываце бурчыць. Або хто прыехаў з адпачынку, таксама дакладна пытае: што, як жонка...

У нас быў хлопец, які закончыў тэхнікум сувязі, нешта разумеў, таму мы і наткнуліся на рашэнне другое: што можна падземныя кабелі праслухоўваць. Прыстасаваліся. Дык гэта ж лепей — сядзіш у цёплым пакоі і чуеш не толькі, што роце давалі есці, а чуеш усё іншае, перамовы штабоў.

Нас было чалавек шэсць такіх. Мы армейская група разведкі былі, 21-й арміі. І вось мы пачалі перадаваць гэтыя звесткі ў штаб арміі. Што-небудзь цікавае зловіш, адразу хлопец — на матацыкл, едзе і завозіць у штаб арміі. А там зацікавіліся: адкуль яны такія докі. Адразу прыехалі тры ці чатыры палкоўнікі нас правяраць. Ну а як праверыць? Гітара была, палажылі на гітару гэтыя нашыя навушнікі, і з гітары чуваць: немцы гавораць, вось і палкоўнікам паказалі. Яны проста жахнуліся, што так гэта мы можам усё нямецкае чуць.

Была ў нас яшчэ адна вельмі важная справа, у Сілезіі, якая адыграла, можа, нават большую ролю, калі гаварыць пра ўзнагароды. Мы падслухалі з нямецкай размовы, што непадалёк ад нашага армейскага штаба немцы збіраюцца ўзарваць вадасховішча Отмахау. Інфармацыю адразу ж перадалі. Вадасховішча і сапраўды ўзарвалі, але былі выратаваны жыцці многіх людзей. Гэты выпадак апісаны ў адным з тамоў энцыклапедыі.

***Л. С.: У Вас многа напісана, асабліва ў аповесці «Юнацтва», пра тое, якое цяжкае і складанае жыццё прыйшлося на долю школьнікаў, падлеткаў, юнакоў. І ўсё ж такі Вашы героі выглядаюць ідэалістамі, адданымі сваёй справе. Відаць, ідэалізм лепш, чым прагматызм?***

***І. Н.:*** Мае героі не былі прагматыкамі. Мае героі былі рамантыкамі, а рамантыкі — гэта тое ж самае, што ідэалісты. Цяпер гляджу я на гэты, як Вы кажаце, прагматызм... А жылі ж усе яны, юнакі і дзяўчаты, цяжка; добра, што маглі купіць якую-небудзь кофтачку, а некаторыя нават марожанага не каштавалі. У армію, на фронт... Дзе тут ужо прагматыкам быць? І потым сядзелі гэтыя хлопцы і дзяўчаты па інтэрнатах...

***Л. С.: Ды насуперак усяму — яшчэ і марылі пра каханне! Іван Якаўлевіч, як мне здаецца, беларускія пісьменнікі вельмі часта баяцца тэмы кахання. А Вы ў сваіх творах, апісваючы нават самыя цяжкія ўмовы ваеннага жыцця, надаяце гэтаму пачуццю асаблівае значэнне. Гэтым асабліва прыцягваюць Вашы творы: «Вераніка», «Сямнаццатай вясной», «Верасы на выжарынах», «Па махорку», «Таполі юнацтва», «Трымценне дубовага лісця», «Месячная ноч», «Ноч у літоўскім гарадку», аповесць «Апошняя восень»...***

***І. Н.:*** Гэтыя хлопцы і дзяўчаты былі кніжнікамі, яны многа чыталі, напрыклад, той самай французскай літаратуры, дзе каханне на кожным кроку. Ну і дзесьці па-рыцарску разумелі яго. Маўляў, вось здзейсню нешта ў жыцці, інстытут скончу, а яна ўжо, дзяўчына каханая, так сказаць, ухваліць заслугі... Карацей кажучы, каханне — як нейкі рыцарскі абавязак, доўг. І канечне, не заўсёды гэта спраўджвалася... Увогуле, я Вам скажу, беларускім хлопцам, яшчэ ў значнай меры ўкраінскім, вайну прыйшлося спазнаць адразу. Мы ж прыгранічныя...

***Л. С.: Ваш герой лёгка пазнаецца, у ім можна ўбачыць і самога беларуса, і яго нацыянальны характар. Яму ўласцівы не толькі рамантызм, летуценнасць, душэўная адкрытасць і ранімасць, але яшчэ і працавітасць, і цягавітасць. Ваш герой-разведчык (напрыклад, Сяргей Каліноўскі са «Смутку белых начэй») можа сядзець у навушніках і падслухоўваць немцаў 14–16 гадзін у суткі; спаць, ідучы маршам; трываць боль ад раненняў па-за шпіталем і заставацца жывым у самых цяжкіх баях...***

***І. Н.:*** Мы перажылі акупацыю, зведалі шмат цяжкасцей і прыйшлі ў Германію... я апісаў адну гісторыю, праўда, яшчэ не друкаваў. Мы стаялі на Каспарскай зямлі. Гэта старая польская тэрыторыя, якая даўно была захоплена немцамі, і мясцовыя жыхары — палякі — ужо нават анямечыліся. Калі скончылася вайна, мы там неслі гарнізонную службу. Месяцы тры.

І калі мы адтуль выязджалі, наша начальства вельмі баялася, каб не здарылася чаго-небудзь выключнага. А яно здарылася. Мы выязджалі на машынах, таму што полк сувязі заўсёды мае свой транспарт. Уяўляеце сабе: выязджаем вечарам, прыцемак, і тут палавіна жанчын гэтага гарадка, і бальзакаўскага ўзросту, і дзяўчаты, сабралася каля нашых машын — і не саромеюцца, плачуць. Я падумаў: і сапраўды, а што іх чакала? Кінахроніка паказвала, як іх мужы, гаспадары маршыруюць... Яны ж у сваёй жаночай адзінокасці праводзілі гэты час, і пагэтаму — ніякага сораму. Калі перанеслі час ад'езду нашых салдатаў на ноч, жаночы натоўп яшчэ пабольшаў: ноччу ж ніхто не бачыць. Вось так канчаюцца войны. Жыццё ёсць жыццё. Вайна пачалася ў 39-м годзе, скончылася ў 45-м. За гэтыя 6 гадоў вайны, пры Гітлеры, там, у Германіі, былі нашы людзі, палонныя. Але ж за сувязь з іншаземцам жанчын там моцна каралі.

***Л. С.: Многія беларускія аўтары апісвалі той жа самы перыяд, закраналі тыя ж самыя тэмы, але пры гэтым кожны застаўся індывідуальнасцю. Як у Вас складваліся адносіны з пісьменнікамі свайго пакалення, з кім Вы сябруеце?***

***І. Н.:*** Мне не прыйшлося дзяліць з кім-небудзь славу, неяк мірна было. Не хачу называць асобныя прозвішчы. Вось адзін з пісьменнікаў, які памёр ужо, перад смерцю напісаў дзённік, дзе выказаў усе свае крыўды. Я лічу, што такога нельга рабіць. Перад смерцю трэба ўсім дараваць.

***Л. С.: Канечне, павінны быць пэўныя хрысціянскія каштоўнасці. А ў Вас ёсць дзённік?***

***І. Н.:*** Нашто мне дзённікі, калі ўсе мае апавяданні друкуюцца? Праўда, у мяне ёсць многа чаго ненадрукаванага.

***Л. С: Іван Якаўлевіч, у Вашай прозе шмат гумару, можна сказаць, што гэта ўвогуле адзнака Вашай творчай індывідуальнасці. А як Вы ставіцеся да эпіграм у свой адрас? Вось, напрыклад, у паэме «Сказ пра Лысую гару» пра Вас сказана, што «ўсе прафесары, дацэнты перад Навуменкам адным, нібыта дробязныя цэнты перад далярам залатым»...***

***І. Н.:*** Я тады якраз з'ездзіў у Амерыку, на асамблею ААН, адсюль і даляры. Гэта стыль Ніла Гілевіча — я сам гэта бачыў яшчэ раней, чым Гілевіч прызнаўся, што паэму ён напісаў. Аўрамчык толькі дапамагаў яму. «Турнэпсы ўволю хрубашчу...» — гэта стыль Гілевіча.

Гумар — гэта ўвогуле прыкмета беларускага светаадчування. Беларус ніколі не быў залішне багатым, ён проста жыў і з усмешкай адносіўся да навакольнага свету. І калі гаварыць пра нашу літаратуру — гэта я ўжо як літаратуразнаўца гавару, — то гумар можна знайсці амаль у кожнага нашага пісьменніка. Ад нашых ананімных паэм, Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча да Купалы, Коласа і інш. Купала — «высокі рамантык», але таксама не мог абысціся без гумару. Напрыклад, ягоная «Паўлінка» ўся пабудавана на гумары. Дарэчы, камедыю такога ўзроўню больш ніхто ў Беларусі так і не напісаў, не здолеў напісаць. Купала здолеў стварыць гумарыстычныя вобразы (пан Быкоўскі, Мікіта Зносак і інш.).

***Л. С.: Вашыя навуковыя кнігі — «Янка Купала: Духоўны воблік героя» і «Якуб Колас: Духоўны воблік героя» — былі абсалютна новым словам у нашай навуцы. Тады ж і сітуацыя была іншая ў краіне, і так атрымалася, што менавіта Вам прыйшлося адкрыць па-новаму гэтых пісьменнікаў. Як пісаліся гэтыя кніжкі?***

***І. Н.:*** На той час рэктарам нашага ўніверсітэта быў Сеўчанка, які да мяне ставіўся вельмі прыязна. Ва ўніверсітэце тады адчуваўся дэфіцыт дактароў навук. І вось Сеўчанка мяне проста прымусіў напісаць кнігу: «Напішы ты, няхай у нас доктар будзе». Гэта быў 1964 год. Я ўжо 10 гадоў працаваў, меў нейкі вопыт, і сам думаў пра творчасць Я. Купалы, Я. Коласа. Не адразу, канечне, але гады за тры-чатыры напісаў я кнігу. Янка Купала і Якуб Колас былі вельмі мудрымі. Яны шмат зрабілі для беларусаў, якія ў славянстве амаль ці не самымі апошнімі прыйшлі да ўсведамлення таго, што ёсць беларускі народ, ёсць беларуская нацыя. Пісьменнікаў такога кшталту, такога гарту не кожны народ мае.

***Л. С.: Іван Якаўлевіч, Вы і раней пісалі пра Дуніна-Марцінкевіча, Змітрака Бядулю, Максіма Багдановіча, а цяпер зноў вярнуліся да іх постацяў. У Вас выйшла кніга «Ранні Кузьма Чорны», у якой Вы закранаеце зусім новыя, адрозныя ад сказанага раней беларускімі навукоўцамі, аспекты, характэрныя для творчасці гэтага пісьменніка. Як у Вас узнікла цікавасць да павеваў мадэрнізму, імпрэсіянізму ў ранняга К. Чорнага, у З. Бядулі, у М. Багдановіча?***

***І. Н.:*** Я прыйшоў да высновы, што мы часта адкідваем тое, што нельга адкідваць, таму што гэта з'яўляецца часткай светапогляду пісьменніка. Напрыклад, з творчасці Кузьмы Чорнага я асабліва люблю апавяданні. У яго і «вецер за балотам нарадзіўся і ляціць», і «дрэвы шумяць». Я лічу, што апісанні і ветру, які ляціць і нясе пахі, і іншых прыродных з'яў пашыраюць дыяпазон бачання пісьменніка. Дарэчы, Чорны валодаў прыёмамі, характэрнымі і для творчасці Гамсуна. У той жа час абодва пісьменнікі былі рэалістамі.

***Л. С.: У Вас напісана шмат твораў і для дзяцей. Некаторыя з іх уваходзяць у школьную праграму. Гэта і «Вайна каля Цітавай копанкі», і «Пераломны ўзрост», і для старэйшых — «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва». А якія са сваіх твораў Вы паставілі б у школьнай праграме на першае месца?***

***І. Н.:*** Даўно знаёма чытачу аповесць «Вайна каля Цітавай копанкі». А ўвогуле, няхай выбіраюць складальнікі праграм.

***Л. С.: Іван Якаўлевіч, а як Вы ставіцеся да думкі, што ў выкладанні літаратуры трэба больш падрабязна гаварыць пра пісьменніка як асобу — яго асабістае, нават прыватнае жыццё. Напрыклад, мы шмат ведаем пра інтымнае жыццё Байрана, Пушкіна і іншых замежных і рускіх пісьменнікаў, а пра беларускіх вельмі мала.***

***І. Н.:*** Я цалкам згодны з гэтай думкай. Калі ведаеш пісьменніка з гэтага, інтымнага боку, больш разумееш і яго творы. Ну, скажам, Кузьма Чорны. Яны разам з Язэпам Пушчам паехалі ў Слуцк, горад, блізкі Чорнаму, і пазнаёміліся там з дзяўчатамі. Чорны быў рамантык. І вось Язэп Пушча выбраў сабе дзяўчыну, якая за ім паехала ў ссылку, як жонкі дзекабрыстаў. А Чорны вадзіў сваю абранніцу па рэстаранах тут, у Мінску. І яна вельмі хутка знайшла сабе каханка. Я не ведаю, ці жывая яна. Можа, прозвішча не будзем называць? Чорны напісаў пра гэта, яно ёсць у апавяданні «Пачуцці», там ёсць цыганка Нона. Ніякая гэта не цыганка, гэта была мясцовая дзяўчына. Ён напісаў дакладна. Гэта быў таксама вялікі пісьменнік, псіхалогію ведаў.

***Л. С.: На Ваш погляд, якія часы ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў былі асабліва яркімі, цікавымі? Як правіла, складаныя часы нараджаюць значных асоб, з якімі мы звязваем гісторыю літаратуры...***

***І. Н.:*** Я лічу, што да такіх асоб можна аднесці пісьменнікаў старэйшага пакалення. Яны былі, канечне, цікавымі і прынцыповымі. Ва ўсякім выпадку, нельга было чакаць ад таго ж Мележа ці Брыля, каб яны недзе «хістануліся».

***Л. С.: А па жыцці Вы аптыміст ці песіміст? У чым знаходзіце падставу для аптымізму, для добрага настрою?***

***І. Н.:*** Асабіста я вельмі залежны ад настрою. Аднак лічу, што пры стварэнні свету Бог усё прадумаў, і краху заўтра не трэба чакаць.

Цяпер я вельмі захапіўся гісторыяй Хрыста. Гэта магутная фігура, хоць і да гэтага часу цягнуцца спрэчкі наконт рэальнасці яго існавання. На мой погляд, у «Бібліі» залішне апісанняў самых розных цудаў. Цяпер і самі царкоўнікі хочуць, каб святыя кнігі былі больш праўдападобнымі. А Хрыстос — гэта ўсё ж такі міф. Шкада, што мы ў сваім дзяцінстве і юнацтве былі далёкімі ад хрысціянства. Я помню, што дзед мой вельмі цікавіўся хрысціянствам, і мне ўсе казанні папа́ пераказваў пасля наведвання царквы. І вадзіў на споведзь, я спавядаўся. Недзе ў 8 гадоў поп даў мне лыжачку гэтага прычасця, а я сказаў: «Дай яшчэ». Адзін раз я пайшоў таксама спавядацца, і спавядалася дзяўчына з нашага класа. Сама спавядалася, але гэта не перашкодзіла ёй данесці на мяне, што быў у царкве. І назаўтра (у нас лінейкі былі, асабліва ў першых класах) дзяжурны крычаў на лінейцы: «Ён цалаваўся з папом». З папом я не цалаваўся, не дапусціў сам бацюшка да гэтага. Але ўжо й бічавалі мяне... [Сучаснай] генерацыі дзяцей трэба з хрысціянствам знаёміцца. Уявіце сабе, а што мы знаем пра чалавека, што так ужо адкідвалі: хто збудаваў гэты свет, як ён збудаваўся. Мы ж і самі не ведаем.

***Л. С.: А як у Вас асабіста складваюцца адносіны з дзецьмі, з унукамі? Вашы дзеці (а гэта вельмі аўтарытэтныя, з акадэмічнымі ступенямі, прафесіяналы — урач і літаратуразнаўца ў Мінску, музыказнаўца ў Маскве) усе гавораць па-беларуску, што, дарэчы, не заўсёды бывае ў сем'ях нашых класікаў.***

***І. Н.:*** Па-першае, я не класік, таму і гавораць! Я сваімі дзецьмі і ўнукамі задаволены. Яны не баяцца мяне часам і пакрытыкаваць, але я лічу, што гэта нармальна. Дарэчы, маршал Жукаў прызнаўся, што акрамя рускай мовы ён ведае яшчэ і беларускую. У гэтым двары, па вуліцы Карла Маркса, 36, дзе мы з Вамі знаходзімся, хадзіў Жукаў; гэты нізенькі дамок, бачны з акна — былы штаб беларускай [вайсковай] акругі. Жукаў быў у Мінску камандзірам кавалерыйскага палка. А там, у Ратамцы, — іпадром, кавалерысты жылі. Ва ўсякім выпадку, Жукаў сказаў, што беларускую мову ён ведае. Я праверыў: Жукаў чытаў ваенную справу на ўніверсітэце. А тады беларусізацыя ішла, прымушалі. Прадмет выкладаеш, беларускае войска ёсць? Ёсць. Уявіце сабе: Жукаў — ён, «цвёрдакаменны» — чытаў ваенную справу па-беларуску!

***Л. С.: Вы загадвалі кафедрай беларускай літаратуры БДУ ў той час, калі там працавалі вельмі цікавыя людзі. Многія з іх і цяпер працуюць. Ці не збіраецеся Вы напісаць пра гэта? Вы былі таксама і дырэктарам Інстытута літаратуры, і старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі ў цікавыя, вырашальныя 1985–1990-я гады. Ці не ўзнікала жадання напісаць пра гэты перыяд?***

***І. Н.:*** Гэта як напісаў Іван Шамякін у «Начных успамінах»? Не, я так не збіраюся. Разумеце, людзі, калі называць іх, пакрыўдзяцца дзесьці... зрэшты, пабачым...

***Л. С.: Для пісьменніка вельмі важна, каб большая колькасць чытачоў з яго тэкстамі пазнаёмілася. Але часта пісьменнікі застаюцца незадаволенымі тым, як іх творы перакладзены на іншыя мовы. А якія з перакладаў Вашых твораў Вам найбольш падабаюцца?***

***І. Н.:*** Мне асабліва пашанцавала з перакладамі на рускую мову, першыя з якіх у Маскве зрабіў такі аўтарытэтны чалавек і для нас, і для рускай літаратуры, як Яўген Мазалькоў. Ён пераклаў, па-мойму, і «Сасну пры дарозе», і «Вецер у соснах», і «Сорак трэці». З яго лёгкай рукі і пайшло. Потым мае творы перакладала сямейства Гарбачовых, якія працавалі ў выдавецтве «Советский писатель». Менавіта ў гэтым выдавецтве выйшла большасць з 20 маіх кніг, перакладзеных на рускую мову. Аповесць «Друзья-товарищи» выйшла ў «Молодой гвардии», у іншых выдавецтвах друкавалі. Нават удалося сярод нашых класікаў надрукавацца ў «Роман-газете» — там такая «варта» стаіць! Потым — у падпісных выданнях, у дадатку да часопіса «Дружба народов», там тыраж вялікі быў. Цяпер нават у Маскве такіх тыражоў не робяць.

***Л. С.: Каб займацца філалогіяй як навукай, трэба шмат чытаць і шмат пісаць. У кожнага чалавека бываюць перыяды апатыі. Ці не стаміліся Вы ад філалогіі? Ці не расчараваліся ў ёй?***

***І. Н.:*** Не, не расчараваўся. Я ні для чаго другога не годны.

***Л. С.: А ўвогуле, акрамя кніжак, у Вас ёсць якія-небудзь захапленні?***

***І. Н.:*** Гэта лес, грыбы... І яшчэ — раней я даволі часта займаўся параўнальным мовазнаўствам. Яно цікава ў тым сэнсе, што дае нам інфармацыю пра лёс народаў, карані якіх жывымі засталіся толькі ў мове.

***Людміла Сінькова: А як Вы думаеце, ці змогуць паўплываць на літаратуру новыя тэхнічныя сродкі: відэа, інтэрнэт?***

***Іван Навуменка:*** Яны ўжо, канечне, паўплывалі. Але нічога. Літаратура будзе жыць. А нашы пісьменнікі-класікі будуць запатрабаванымі і ў XXI стагоддзі.



**Дактары навук філфаку БДУ: Іван Навуменка, Людміла Сінькова і Алег Лойка**



# Сахалінка



Андрэй ФЕДАРЭНКА

## I

Яна прыехала ў вёску ў верасні і засялілася ў хатцы на пагорку каля студні — акурат насупраць хаты Васіля Ропата.

«Зброд», — першае, што падумаў Ропат, які адчуваў інстынктыўную варожасць да ўсяго нетутэйшага, не мясцовага.

Ён стаяў у сваім двары каля плота нябачны, надзейна схаваны зараснікамі дзікіх сліў і, адхінуўшы калючую галіну, у прасвет назіраў за няпрошанай суседкай. Адсюль усё было відаць як на далоні. Студня, пагорак, голы двор, нават плотам не абнесены (сам Ропат разабраў яго і перацягаў на дровы), старая хатка, якую з незапомных часоў, колькі яна існавала, людзі чамусьці звалі «сахалінская», і ўсе, хто ў ёй жыў, кожная сям'я — а такіх на вяку Ропата памяталася не менш за дзясятак — аўтаматычна набывалі мянушку «сахалінцы»; і праўда — усе жыхары гэтай хаты былі крыху падобныя абліччам на тунгусаў ці якутаў: можа, цяклі ў жылах кроплі адной крыві, з'яўляліся яны якой далёкай раднёю і іх, панасіўшы па свеце, прызямляла ў родным куце, а мо проста, пажыўшы тут, у адным месцы, у гэтых сценах, пакрысе набывалі паміж сабой падабенства, — так з часам і сабакі робяцца падобнымі да сваіх будак.

Гэтая новая «сахалінка» таксама была скуластая, вузкавокая, худая. Яна патулялася па двары, схадзіла да студні; калі ішла адтуль з вядром вады, роўна трымала спіну, нават падавалася крыху наперад, нібы ішла супраць ветру. Потым, не ведаючы, што рабіць, куды сябе прыткнуць, пазяхнула, прысела на ганку, закурыла, суха пакашляла.

А Ропат стаяў і назіраў за ёю ўжо амаль адкрыта. Ён ведаў, што ні яго самога, ні ягонай хаты чужынцу так проста не разгледзець. Увесь яго двор ад ганку да веснічак, па ўсім перыметры плота да кожнага кутка надзейна, ушчыльную зарос цярноўнікам, лазняком, дзікімі слівамі, акацыяй і ляшчынаю, сям-там пракідаліся нават калючыя асінкі, якія звінелі сваім лісцем без ветру. Быў час, калі Ропат ваяваў з гэтай пошасцю: высякаў, вытручваў, выкопваў... Але хутка скеміў, што лепшай хованкі для сябе не прыдумаеш, і пакінуў усё як ёсць.

Цяпер гэтае дабро, самая разнастайная расліннасць вольна выпірала з зямлі, прычым чамусьці не хацела расці ўгору, а імкнулася, можа, ад цеснаты, слацца па зямлі, расла крыва, коса, чаплялася адно за адно, пераплялася, як ліяны, абплятала павоем шулы, вароты, веснічкі, плот, хаваючы ўсё гэта ад цікаўных людскіх вачэй, — і нарэшце злучалася над самым дахам зялёным шатром: так, што ўся хата аказвалася схаванай і з бакоў, і зверху, а Васіль Ропат жыў, як у лесе ў будане. Хіба калі добра прыгледзецца, можна было заўважыць вузенькую, у крок шырынёю сцяжынку, якая зладзеявата нырала з вуліцы ў гэтыя шаты, ды яшчэ позна ўвосень, калі лісце ападала, ці ўвесну, калі спаўзаў снег, знянацку адкрывалася вачам праз голыя галіны нейкае фантастычнае, казачнае, нібы ў Лесавіка ці ў Бабы Ягі, жытло; быццам сашморгнулі публічна апранахі са старога чалавека, і вось стаіць ён перад усімі безабаронны, сарамлівы... Але нядоўга так было. Узімку перш шэрань, а потым снег усё бяліў, раўняў, пульхным футрам клаўся на галіны і апранаў Ропатава логавішча. Толькі дым падымаўся з коміна ды сцежка крыху цямнела на белі. А ўвесну шпарка пачынаў зелянець яго двор, і зноў усё хавалася, як і хацеў Ропат.

## II

«Хто ім тут мёдам мажа? — думаў Ропат, гледзячы на чарговую «сахалінку». — Чаго яны спаўзаюцца сюды з усяго свету? Чалавек дзе нарадзіўся, там павінен і памерці...»

Яму было прыкра, горка, што ён, тутэйшы жыхар, стары чалавек, вымушаны, як злодзей, хавацца ад людзей у зарослым двары ўласнай хаты. Ён даўно перастаў адчуваць сябе тут, у роднай вёсцы, гаспадаром. І толькі калі-небудзь са здзіўленнем перапытваў сябе: як жа яно так сталася? Калі пачалося? З якога часу вёска пачала напаўняцца, як саранчой, гэтымі прышлымі людзьмі? Яны скуплялі старыя хаты, будавалі новыя, і ўсё ім было мала, і ўсё іх большала, большала, яны распаўзаліся, нібы бружмель у Ропатавым двары, паступова, але няўмольна выціскаючы старога Ропата з яго асяродку, а самі — па законах фізікі — запаўняючы вызваленую прастору.

Ропат бачыў у гэтых людзях адну толькі небяспеку для сябе і грэбліва называў іх адным кароткім словам: «Зброд». «Зброд» дзяліўся на дзве катэгорыі. У першую ўваходзілі розныя прыблуды — мужчыны і жанчыны, старыя і маладыя, пагарэльцы, бежанцы, беспрытульнікі без роду-племені, з нейкіх такіх краёў, пра існаванне якіх Ропат ніколі не чуў і нават не ведаў, што такія ёсць на свеце. Іх дапаўнялі прышлыя з блізкага горада — самая розная непатрэбшчына, чалавечае шалупінне, ні Богу свечка, ні чорту качарга. Гаспадаркі яны не вялі, жыўнасці не трымалі; запушчаныя агароды, соткі, парослыя лясным дрэўцамі, някошаныя паплавы — толькі трава-самасейка пад акном, тры кветкі ды дзікі куст маліннiку. Усе непапраўныя, нейкія адчайныя гультаі, яны не саромеліся свайго гультайства, а нават нібы ганарыліся ім, жылі як папала і на што давядзецца. Некаторыя зімою знікалі, увесну зноў з'яўляліся. Улетку збіралі і здавалі ягады, лісічкі. Карацей, чорт іх ведае, як, за што яны жылі. Можа, атрымлівалі ад дзяржавы дапамогу.

Другую частку складала мясцовая арыстакратыя — дачнікі, у асноўным адстаўныя вайскоўцы, маладыя пенсіянеры. У свае 45 яны ўжо не працавалі. Гладзілі жываты, атрымлівалі неверагодныя — і лічба такая на паперцы не змесціцца — пенсіі, прычым умудраліся адразу ў двух месцах: тут і яшчэ недзе, дзе раней служылі. Іхнія жонкі (новая вясковая мода), маладыя «бабулі», днямі гулялі па вуліцы, адной рукой штурхаючы перад сабой дзіцячую каляску, а другой — уціскаючы ў вуха мабільнік. Усе яны мелі ў горадзе кватэры, але жыць хацелі тут, а кватэры здавалі ці пакідалі дзецям.

Вось гэтыя і былі тут сапраўдныя ўладары, паводзіліся, як дома. Адзін на аднаго гледзячы, нібы спаборнічаючы, яны ўпарта з вясковых хат ляпілі загарадныя катэджы. Агароды іх былі ператвораны ў вялікія парнікі, у дварах — па дзве машыны, кожны «катэдж» збоку меў спадарожнікавую талерку, каля варот на вуліцы — вазончык або клумбу з кветкамі. Траву ў дварах касілі не менш як два разы на дзень, і не косамі, а траскучымі трымерамі. Яшчэ заможнасць іх вызначалася па тым, якія былі ў іх платы і вароты, наколькі яны былі надзейныя, высокія, чыгунныя або каменныя, літыя або каваныя, металічныя або з цяжкіх драўляных брусоў, перакрыжаваных жалезнымі пласцінамі, — звычайна на гэта ішоў граб альбо прасмалены дуб.

Наўскасяк ад Ропата цераз вуліцу жыў нейкі таямнічы бізнэсмэн, адгароджаны ад усіх, як Ропат сваімі зараснікамі, трохметровай каменнай сцяной, за якой разводзіў на продаж в'етнамскіх свіней. Ропат ніколі не бачыў іх, не ведаў, як яны выглядаюць, але каля аўталаўкі расказвалі, што гэта проста пачвары з неверагодна моцнымі, дзіўна сашчэпленымі сківіцамі: могуць жэрці цэглу, дрэва, а калі забудзеш пакарміць — ядуць зямлю пад нагамі.

«...Плодя тем самым свиную чуму и прочую нечисть», — падводзіў вынік дзед — Ропатаў гадоў, толькі ў адрозненне ад Ропата заўсёды бадзёры, жвавы, актыўны, у капелюшы, камізэльцы, у акулярах, у ваенных штанах з выцвілым кантам. Гэта быў стары мовавед, філолаг, які з маніякальнай настырлівасцю не стамляўся папраўляць у словах націскі, ваяваў з беларусізмамі; калі чуў ад каго мясцовае слова, нават выпадкова прамоўленае, яго як электрычным токам біла, да шаленства даводзіла, і ён ледзь палкаю не замахваўся.

«Как-то пришло письмо, — расказваў ён з абурэннем, — орали сотки... Я испугался, думал, переругались, а это, оказывается, пахали! Или — густка. Неужели так сложно сказать — платок? Зачем густка, причём густка?!»

Трохі далей, у старэнькай, яшчэ горшай за сахалінскую, халупе ашываліся бацька і сын Ісаевы. Аднаму было 50 гадоў, другому 25. Стары — адстаўны маёр Ісаеў Максім Ісаевіч, малады — Ісаеў Максім Максімавіч. Абодва ў ваенных абносках, абодва падобныя на ваенна-палонных ці на дэзерціраў, заўсёды хадзілі разам, заглядалі ў двары. Абодва, як большасць беспрабудных п'яніц-бабылёў, былі добрыя, але і дабрыня іхняя насіла нейкі бесталковы, праз меру мітуслівы характар: спачатку яны прасілі грошы, потым — выпіць, пад канец — закурыць і, не атрымаўшы ні таго, ні другога, ні трэцяга, ветліва прасілі прабачэння. Нарэшце сама далей ад Ропата, на перакрыжаванні вуліц, там, дзе звычайна спынялася аўталаўка, узвышаўся ладны двухпавярховы катэдж, куды прыязджалі на лета Барыс з Раяю. Барыс, таксама малады ваенны пенсіянер, жартаўнік, яшчэ здалёк пабачыўшы старога Ропата, кожны раз крычаў:

«Ропатавіч!» — ужо ў самім гэтым здзекліва-панібрацкім звароце знаходзячы смешнае, бо ў Ропата ж было імя — Васіль, і па-бацьку –Уладзіміравіч.

«Ропатавіч!» — крычаў Барыс, а калі дзед спыняўся, Барыс не ведаў, што казаць. Такія ў яго былі жарцікі.

Раней, калі Ропат быў маладзейшы, ён спрабаваў агрызацца, злаваў, заядаўся з імі. Ён ненавідзеў гэты зброд панурай нянавісцю падманутага селяніна. Яму здавалася, што ўся гэтая нязваная-няпрошаная публіка нахабна і сілком адабрала ў яго вёску — тую, ранейшую, зразумелую, беларускую, поўную дзяўчат, хлопцаў, маленькіх дзяцей, дзе былі песні, каляды, вячоркі, дзе ён, Ропат, пачуваўся не чужынцам, а такім, як усе. Калі-небудзь ён выходзіў на досвітку ці нават уночы і ішоў, ціха ступаючы, па вуліцы, спадзеючыся ў душы на дзіва: а раптам зноў усё вярнулася, стала ранейшым? Не. За выключэннем аднаго дачніка, у якога ўзарваўся кіпячы кацёл з брагаю і ён атрымаў пашкоджанні, «несумяшчальныя з жыццём» (адпяваў поп, хавалі з музыкай, вянкамі — прыгожа), увесь астатні зброд не старэў, не хварэў, не паміраў, не правальваўся пад зямлю, і не зносіла яго ніякім ветрам нячыстая сіла.

Цяпер у Ропата ўжо і на нянавісць не засталося моцы — усё выела праклятая старасць. І калі ён прыходзіў да аўталаўкі, ён ні з кім не вітаўся, нікому нічога не адказваў, ні на кога не пазіраў, стараўся хутчэй, з мінімумам словаў купіць неабходнае і пайсці прэч. Толькі звыкла, застарэла, абыякава думаў:

«Зброд...»

## III

Сахалінка пачала жыць у хатцы. Ропат ведаў з размоў каля аўталаўкі, што яна сапраўды прыехала з Сахаліна, там нарадзілася, пражыла ўсё жыццё, ніколі да гэтага не была ў Беларусі, і вось цяпер, на пенсіі, пад старасць, перабралася сюды дажываць.

Кампанейская нават па мерках мясцовага люду, энергічная, яна хутка асвойталася, імгненна перадружылася з такімі ж, як сама. Мо дзён пяць запар спраўлялі ўлазіны. Гасцявалі ў яе Барыс з Раяю і дзед-філолаг, і бацька з сынам Ісаевы... На закуску купілі ў бізнэсмэна в'етнамская парсюка. Праведаўшы пра Ропата, Сахалінка прыходзіла яго клікаць, стукала ў дзверы. «Дзед-сусед!»

Ропат не адзываўся.

А раніцамі спадцішка са сваёй хованкі, як паляўнічы з засады, назіраў за ёю. З пахмелля яна нудзілася, курыла, суха, моцна кашляла, лаялася на гэты кашаль. Прывыклая да кампаніі, адзінока тулялася па двары, а то проста стаяла на адным месцы і пазірала ўдалячынь. Вочы сінія, глядзяць не з-пад ілба, не панура, як у тутэйшых сялян, што ад нараджэння да старасці бачаць вакол толькі лес, жывуць сярод абмежаванай дрэвамі прасторы, якая сама па сабе прыгнятае чалавека, — не, Сахалінка глядзела адкрыта, свабодна, нібы перад ёй распасціраўся родны акіян, бязмежная сіняя шырыня.

Сочачы за ёю, Ропат бачыў, што для вясковага жыцця яна абсалютна непрыдатная, гаспадыня з яе ніякая, супу яна не зварыць, бо гаршчок да печы не данясе, у лесе за корань зачэпіцца, грыб растопча, ні ягадзіны на кусце не ўбачыць, ні каларадскага жука на бульбоўніку… Нікчэмная, адно слова — «зброд».

Сустракаліся яны толькі каля аўталаўкі, куды Ропат вымушаны быў прыходзіць. І там, калі бачылі іх разам, з'явілася новая тэма, ад няма чаго рабіць узнік такі розыгрыш: маўляў, трэба звесці іх, Ропата і Сахалінку, і пажаніць.

«Ну, Ропатавіч, шчасце табе на старасці падваліла! Рыбы, ікры наясіся! Сахалінскай!»

Сахалінка ахвотна падыгрывала, спрабавала абдымаць яго, хапала пад руку:

«А што? Ён мне падабаецца. Хай бы ўзяў ён мяне, ці я да яго перайшла. Усё весялей. Толькі ж дзікі надта. Хаваецца, маўчыць!»

«Ён і з намі не гаворыць. Няпросты дзед, хітры. Не пускае ў хату нікога».

Здагадлівы дзед-філолаг устаўляў:

— Гордый он, не желает к нам снисходить. Считает ниже своего достоинства.

«Ды дурны ён, а не горды! Не разумее свайго шчасця — такую суседку мець!»

Барыс прыводзіў такі аргумент:

«Усё адно табе, Ропатавіч, хутка паміраць, доўга не працягнеш — дык хоць перад смерцю адвядзі душу, пагуляй!»

Сахалінка заступалася за яго:

«Якая гулянка — хоць дагляд будзе, вады шклянку падам, падушку падаб'ю, доктара выклічу… Галоўнае, не адзываецца, — скардзілася яна. — Маўчыць, а я баюся, ці не памёр. Вунь які стары — ніякі ўжо».

І ўся кампанія пачынала ўшчуваць Ропата:

«Ты ж праўда адзывайся, дурны дзед! Хоць голас падавай!»

«Памрэш — і ніхто ведаць не будзе, ты ж адзін!»

«Нам жа цябе хаваць!»

«Нічога, Ропатавіч, мы яшчэ на яго памінках станцуем!» — зубаскаліў Барыс.

Ропат, пакутуючы, хутчэй спяшаўся пайсці ад іх.

Гулялі ў Сахалінкі часта. Відаць, грошы ў яе вяліся, прывезла з сабою і цяпер прагульвала, дабірала тое, чаго не паспела раней. І кожны раз хадзіла клікаць Ропата. Нешта цягнула яе да яго. «Дзед-сусед!» Ён не адзываўся. Ляжаў на сваім жалезным цвёрдым старадаўнім ложку, сам маленькі, ссохлы. У вакне мільгалі



буйныя і дробныя зоркі. Ад Сахалінчынай хаты перыядычна неслася: «камбат бацяня, бацяня камбат!..» Памаўчаць роўна столькі, каб выпіць-закусіць, — і зноў: «камбат бацяня!..»

Раптам неяк само сабой, без усялякай сувязі з песняй і гулямі, падумалася — а сапраўды, і Сахалінка, і ўсе гэтыя людзі, каго ён называе «збродам», хочаш не хочаш, а будуць хаваць яго, больш няма каму. Пахаваюць, прыйдуць сюды, у чужую ім хату, пачнуць хадзіць, мацаць усё. Хто яго пашкадуе, каму якое гора з яго смерці? Памёр Максім — ну і х… з ім. Смяяцца будуць. Разглядваць фотакартку сына, які загінуў маладым, жонкі… Пачнуць памінкі ладзіць, спяваць «камбат бацяня»… А што скажуць на магілках? Ці так, моўчкі закапаюць? Ды і што яны могуць сказаць? Ён сам пра сябе нічога не ведае. Каб яму давялося выступаць на ўласных памінках — ён не змог бы. Яму, яго целу, 77 гадоў, а на самай справе — сем, і ўсё жыццё ён адчуваў сябе сямігадовым.

Кажуць, старыя выдатна памятаюць мінулае і забываюць учарашняе — глупства, адно з тых, якіх ён наслухаўся за жыццё, і некалі верыў гэтаму, думаў, як людзі кажуць, так і ёсць. Нікому не трэба верыць, пакуль на сабе не паспрабуеш. Ён якраз-такі памятае ўсе да аднаго дні апошніх гадоў, а вось з даўняга, з дзяцінства — амаль нічога, толькі агульны план, нейкія асацыяцыі. Пах першага снегу, малады салатавы гурок з жоўтым пупсікам, калючы… Маладыя гуркі калючыя, іх не трэба мыць, дастаткова выцерці аб штаны… Вось і ўсё, бадай.

Можа, і пра смерць хлусяць, што яна страшная? Можа, ніякая яна не страшная? Заснуў ды і заснуў. Якая розніца, хто і што потым будзе рабіць з яго целам. Пах першага снегу ніхто не забярэ, нікуды ён не знікне, і адчуванне калючасці агурка — таксама.

## IV

Неўзабаве Сахалінцы пад хатку прывезлі трактар дроў. Ропат, адхінуўшы фіранку, прыціскаючы да шыбіны хршчаваты нос, марна ўглядаўся, але бачыў толькі свае зараснікі. Тады не вытрымаў, выйшаў на сваё вытаптанае месца. Бацька Ісаеў увішна балгаркаю пілаваў бярвенні, сын Ісаеў, голы да пояса, з гэканнем калоў, Сахалінка адцягвала гатовыя белыя паленцы ўбок. Ропат стаіўшыся, з зайздрасцю пазіраў на талаку.

Для яго самае балючае ў жыцці пытанне, самая вялікая праблема была — дровы. Можна перанесці голад, адзіноту, не есці, не спаць — старому і не хочацца; але холаду ён баяўся вельмі. Эканоміў дровы, падбіраў на дарозе кожную трэсачку. Не столькі цяжкай была іх нарыхтоўка, колькі непрыемныя клопаты: паход у лясніцтва, там прасіць, прыніжацца, «падмазваць» бутэлькамі, потым, калі ўрэшце іх прывозілі, пілавалі, калолі — надыходзіў самы для яго прыкры момант: ладзіць «пачостку», гэта значыць пускаць чужых у хату, частаваць, паіць, пазіраць на іх, гаварыць з імі… Ён, не скупячыся, пераплачваў удвая-ўтрая, але ў хату не запрашаў ніколі. Потым доўга па адным паленцы пераносіў дровы пад паветку, нават кару, нават пілавінне зграбаў. І ўсё адно да вясны не хапала. Здаралася, у халодныя зімы ён сёк свае зараснікі — яны гарэлі добра, толькі шыпелі і пускалі з замерзлых галін пухірыстую ружовую ваду.

А тут — як у іх усё лёгка! Увечары зноў была гулянка, спявалі «камбат-бацяню», прыходзілі зваць Ропата: "Дзед-сусед! — крычала Сахалінка. — Ты жывы хоць?! Ты ж не ўздумай паміраць! Што я без цябе рабіць буду!» Ён маўчаў. Потым хадзілі, тупалі вакол хаты, шморгалі з усяе сілы дзверы, стукалі ў кожную шыбку. «Адчыні, дзед!» Ён ляжаў, як мумія, не спаў. Толькі пад раніцу супакоілася вакханалія, стала неяк падазрона ціха. Ропат чуў, як пад'язджала машына — адна, і яшчэ адна. І ўдзень каля аўталаўкі, як падышоў туды Ропат, не было ажыўлення.

«Што, Ропатавіч, аўдавеў не жаніўшыся? — сказаў яму Барыс з дакорам: — Няма больш тваёй нявесты!»

Нічога не адбілася на твары Ропата. Пастаяў трохі, паслухаў, даведаўся, што Сахалінка памерла ўночы. Барыс усё абураўся, як гэта так, каб «хуткая» не дапамагла. Лаяў матам дактароў. Толькі і змаглі, што памацалі пульс і забралі ў морг. «Нічога, — пакрыўджана гаварыў Барыс, — ускрыцце пакажа!» І ўсё паўтараў, нібы апраўдваючыся перад кімсьці, нават нібыта пагражаючы камусьці: «Ускрыцце пакажа!»

Ропат пастаяў, паслухаў і падаўся дамоў. Праходзячы каля хаты Сахалінкі, запаволіў хаду. Паляніца свежа-колатых дроў была складзена пад самым яго плотам, акурат насупраць месца яго засады, нібы нябожчыца ведала, што за ёй сочаць, і хацела закрыць паляніцай сектар агляду.

А мо наадварот? — раптам цюкнула яму ў галаву. Мо прадчуваючы, што не перажыве зіму і гэтыя дровы ёй не спатрэбяцца, знарок папрасіла так блізка скласці? Каб яму, яе дзікаватаму дзеду-суседу, лацвей было хадзіць сюды марознай зімою, халоднай парою, карыстацца яе дрывамі і яе дабром успамінаць? Яму ўявілася сцежачка ў снезе, як ён тупае, каб выбраць і прынесці некалькі каштоўных паленцаў…

На наступны дзень каля Сахалінчынай хаты тоўпіўся народ, стаяла машына — казённы чорны бус. Побач — вянок з чорна-чырвонымі стужкамі. З хаты даносілася гудзенне папа. На дварэ, як заўсёды, залішне мітусіліся Ісаевы, бацька і сын. Рая ў чорным, з заплаканымі вачыма, трымала Барыса пад руку. Барыс быў у касцюме з гальштукам. Спакойны, важны дзед-філолаг зняў капялюш. Прыхіленае да сцяны, чорнае зверху, белае ўсярэдзіне, стаяла века, прыцiснуўшы нізам кусцік хрызантэмаў. Ісаеў-сын заўважыў, адсунуў века, клапатліва пачаў распраўляць пакамечаныя, паламаныя кветкі. Барыс шапнуў Ропату, ківаючы на века:

«Да сябе прымяраеш?»

Тут жа на зямлі ляжаў чорны металічны крыж з надпісам на таблічцы: «Ропот Анастасия Владимировна…» Механічна, без усялякіх эмоцый прачытаў Ропат уласнае прозвішча. Ропатаў было мо паўвёскі, і ўсе адно аднаму чужыя, ні у якой ступені сваяцтва не знаходзіліся. Дзед-філолаг таксама разглядваў надпіс на таблічцы і нешта мармытаў — нібы ва ўнісон папу чытаў адыходную. Ропат прыслухаўся.

— Безобразие, — мармытаў дзед-філолаг. — Откуда эти кастрированные, без окончаний, фамилии? Почему не просто — Ропотова? Или у нас был... я знал — Кропотов... Вот фамилия: сочная, хрустящая и вполне грамматически правильная!..

**2014 г.**



# Сляды часу



Алесь КАМОЦКІ

***

*Я ведаю, што там, дзе заўтра будзе дзень,*
*Учора не знайшлі ні нас, ні нашых думак.*
*І вечар цішынёй у вочы не глядзеў,*
*І мроя не была ні добрай, ні разумнай.*

*Браў вецер за руку дзіцячую душу.*
*Я бачыў — іх сляды глыталі кіламетры.*
*Тлумачыць кожны крок душу не папрашу –*
*Няхай сабе ідуць, я давяраю ветру.*

*Вяртаннем назаўжды не вырашыць праблему,*
*Памкненню не знайсці ні месца, ні спакою,*
*Чаканне сапраўды хацела мець не тое,*
*Чым можа быць жыццё, калі мяняе тэму.*

*Я ведаю, што ты на заўтра не зважаеш,*
*Смакуючы фінал; я ж мару пра працяг,*
*Пра гэту далячынь, што быццам не чужая,*
*Але і не мая, бо я тут у гасцях.*

***

*Цёмна-шэрая ноч па халоднай зямлі*
*Чорным сэнсам і шчырым намёкам*
*Безліч лёсаў нікчэмных паспела разліць*
*Пад усмешкамі сонных аблокаў.*

*І дарогу на захад шукае ўсход,*
*І спрадвечную песню губляе,*
*А пасля нерашуча маўчыць ля варот,*
*За якімі ні пекла, ні рая.*

*Выпіла песню маю*
*Далеч бясконцых дарог,*
*Думкі вялі за парог,*
*Голас спяваў, покуль мог,*
*Даўнюю песню маю.*

*І прыходзіць пара стаць каля алтара,*
*Скіраваўшы да сонца малітву,*
*І стаяць, покуль свечы ушчэнт не згараць,*
*І на просты працяг не разлічваць.*

*Ці ж падманеш пачатак чарговага дня,*
*Перакрыўшы святло занавескай?*
*Пасівелую ноч бессэнсоўна спыняць,*
*Бо яе зачакалася вечнасць.*

*Выпіла песню маю*
*Далеч бясконцых дарог,*
*Думкі вялі за парог,*
*Голас спяваў, покуль мог,*
*Даўнюю песню маю.*

***

*Зімовы вечар апускае мне на плечы*
*Сівы туман раптоўнай снежаньскай адлігі,*
*А незваротны час знікае непрыкметна*
*І не зважае на пачуцці і ўздыхі.*

*Гады лятуць, пакуль гадзін ніхто не лічыць,*
*І, без увагі пакідаючы хвіліны,*
*Каму заўгодна я мінулае пазычу,*
*Каб толькі вырвацца з палону ўспамінаў.*

*Я буду заўтра забываць сваё ўчора,*
*Таму, што сёння дзень заняты*
*іншай справай.*
*Слядамі часу запаўняецца прастора —*
*Не будзе крокам болей шляху неўзабаве.*

*Зімовы вечар апускае мне на плечы*
*Сівы туман раптоўнай лютаўскай адлігі...*

***

*Я жыву па-за словамі*
*Папулярнае мовы —*
*Зрэшты, справа не новая,*
*Як і гэтыя словы.*
*Я жыву, не спяшаюся,*
*Я жыву як умею,*
*Каб было ў чым пакаяцца,*
*Памыляюся ў меру.*
*І ад рання да вечара,*
*Да гадзін ад імгненняў*
*У памкненні да вечнага...*

*...энтрапія, карацей кажучы.*

***

*Спякота зверху, спякота знізу,*
*Навокал ліпень, а ў галаве*
*Талковай думкі няма паблізу,*
*А неталковых адна ці дзве.*

*Спякота зверху, спякота знізу,*
*Навокал ліпень і вольны дзень,*
*Цябе так звыкла няма паблізу,*
*Ды я і сам невядома дзе.*

*Душы няўтульна у арганізме,*
*А вочы прагна шукаюць цень,*
*З дарогі збіўся я не наўмысна —*
*Ці засынаю, ці звар'яцеў.*

*Ратуе розум адно імгненне,*
*Калі, на шчасце ці на бяду,*
*Твая усмешка выходзіць з ценю,*
*І я нарэшце за ёй іду.*

***

*Хацелася слову парушыць маўчанне,*
*Хацелася небу сачыць за узлётам,*
*Хацелася скончыцца ўрэшце чаканню.*
*Хацелася ведаць, адкуль ты і хто ты.*

*Вясна перастала здавацца вясною,*
*І здзіўлены позірк блукаў паміж снамі,*
*А заўтра было недзе там, за табою,*
*А сёння было недзе тут, перад намі.*

*Твой дзень, панядзелак, спыніўся у часе,*
*Што так не бывае, ніхто не заўважыў.*
*Каб неяк пазбегнуць памылак уласных,*
*Пытанні знікаюць у нетрах адказаў.*

*Але панядзелак былыя надзеі*
*На «ёсць» і «няма» беззваротна падзеліць,*
*Хоць кожны па-свойму, але разумеем —*
*Заўсёды бывае не так, як хацелі.*

*Хацелася слову паслухаць маўчанне,*
*Хацелася небу паспець за узлётам,*
*Хацелася крочыць за межы чакання.*
*Хацелася ведаць, ці будзе субота.*

***

*Я стаміўся з табой сябраваць,*
*Выбачацца, чакаць, даравать,*
*Разумець, адкладаць, пераносіць...*
*Да таго ж пачынаецца восень —*
*Незваротна знікае цяпло.*
*Падуладны яго недахопу,*
*Паступова марнее мой клопат*
*Дбаць пра тое, чаго не было.*

***

*Ты пафарбавала маё неба*
*У колеры надзеі і чакання,*
*Стала невядомае патрэбным,*
*Згінулі адказы на пытанні.*

*Навучыўся быць бязважкім вечар,*
*Каб дадаць спакою у размову...*
*Восень падыходзіць непрыкметна,*
*Ды нашто на восень траціць словы?*

*Раніца, як можа, грэе вецер,*
*Абудже спадзеў мар наіўных.*
*Час вядзе у восень непрыкметна.*
*Я ж хачу, каб ён спыніўся ў жніўні.*

***

*Не пройдзе шлях Ваш там, дзе зараз я*
*Свае сляды да выхаду рыхтую,*
*Дзе галава ссівелая мая*
*Спакою яшчэ доўга не адчуе.*

*І будзе дом Ваш заўтра на зямлі,*
*Якую абмінае бездарожжа,*
*І не са мной Вам спадзевы дзяліць —*
*Я ўмею толькі складваць альбо множыць.*

*І будзе лета сілу набіраць,*
*На драбязу увагі не звяртаючы,*
*Каб знікнуць у зімовых вечарах*
*І жыць там, больш нікуды не знікаючы.*

## Галава на плячы

*Перайдзі мой сон уздоўж,*
*А пасля перайдзі яго ўпоперак,*
*Не пакінь, як удасца, слядоў*
*Па-за межамі новага сна.*
*Калі зможаш паспець да відна,*
*Забяжы на хвілінку ізноў,*
*Каб пабачыць, як робяцца попелам*
*Рэшткі колішніх сноў.*



***

*Фарбуюць вочы ночы цішыню,*
*Сон не дае жаданага спакою,*
*Бо, як заўсёды, я не тое сню,*
*Каб апасля і думаць не пра тое.*

*Сівее золак звыклага жыцця,*
*І вочы рання на мяжы з усмешкай,*
*Напэўна, спадзяюцца на працяг...*
*Ну, карацей, звані, калі прачнешся:)*

***

**Паводле «Los Bilbilicos» Psalteria**

*Вакол спяваюць салаўі,*
*Каханнем поўняць слых.*
*Празрыстых гукаў чысціні*
*Нам хопіць на дваіх.*

*І кветкі, тоячы уздых,*
*Цвітуць табе і мне,*
*Але пакуль належыш ты*
*Далёкай старане.*

*Жыццё заблытала шляхі*
*Вясноваю парой,*
*Ды веру я — з краёў чужых*
*Прыедзеш ты за мной.*

***

*Я казаў табе тысячу слоў*
*Самых розных, вясёлых і сумных.*
*Час разгублена ўперад ішоў,*
*Дні знікалі без лішняга шуму.*
*Скіраваўшы свой позірк назад,*
*Я міжволі ўпадаю у скруху,*
*Бо ні разу табе не сказаў*
*Аднаго — што люблю цябе слухаць.*

***

**Паводле «А напоследок я скажу» Б. Ахмадулінай**

*Апошніх словаў марны шэпт:*
*Бывай, кахаць ужо не трэба.*
*Знікае свет,*
*За ім услед*
*і цемру забірае неба.*
*Як ты кахаў?*
*Ты наклікаў*
*няясное*
*На нашы мары.*
*Ты так кахаў,*
*Як уцякаў,*
*Хаця цябе я не трымала.*

*Апошніх словаў марны шэпт...*

*Пачуццям думак не стае,*
*Пяшчотны сэнс згубілі рукі,*
*Цябе не бачаць сны мае,*
*Знікаюць пахі, моўкнуць гукі.*

*Апошніх словаў марны шэпт:*
*Бывай, кахаць ужо не трэба.*
*Знікае свет,*
*За ім услед*
*і цемру забірае неба.*

*Апошніх словаў марны шэпт...*

***

*Жыццё нам дорыць байкі з казкамі,*
*Жыццё нам не сябе паказвае.*

*Жыццё нас зводзіць у кампаніі,*
*Жыццё разводзіць нас з каханымі,*
*Жыццё хаваецца за казкамі*
*І не усім сябе паказвае.*

*Па-за жыццём памкненні множацца,*
*Іх просты сэнс належыць кожнаму,*
*Але звычайна недасяжны,*
*Бо не усім сябе пакажа.*

*Ты па жыцці ідзеш, шукаючы,*
*Па-за жыццём ты усміхаешся.*

***

**Р. С.**

*Было не так учора на зямлі —*
*Другія кветкі у другіх букетах,*
*Шляхі не тыя не туды вялі,*
*Мы думалі не тое не пра гэта.*

*Уражвала і цешыла жыццё,*
*Здавалася — яно не мае краю,*
*Галоўная сустрэча з небыццём*
*Яшчэ далёка, і не нас чакае.*

*Але не роўны маюць людзі лёс,*
*Бог бачыць самых лепшых адмыслова,*
*Бывае, што яны у бок нябёс*
*Сыходзяць часам несвоечасова.*

*Мінае час, і нашыя гады*
*Так непазбежна колькасць набіраюць,*
*А хтосьці, назаўсёды малады,*
*З нязнаных даляў моўчкі пазірае.*

***

*Казалі нам з усіх бакоў:*
*— Глядзіце — вас не стала,*
*А мы спявалі пра любоў*
*Да бульбы і да сала.*
*Кавалак лепшы для гасцей,*
*Прынамсі, кожны меў,*
*Але ж, каб столькі іх было,*
*Наўрад ці хто хацеў.*

*Тым, хто казаў, што нас няма,*
*Мы не маглі паверыць,*
*А хто ж тады іх сустракаў*
*І адчыняў ім дзверы?*
*Хто іх пускаў на свой парог*
*І частаваў як мог?*
*Хто ім на карак апасля*
*Узлезці дапамог?*

***

*Пакуль сюды буслы лятуць,*
*Былі і ёсць, і будуць*
*Заўсёды тут — мой родны кут —*
*Палі, лясы і людзі.*
*І што б там хто ні гаварыў,*
*Мы тутака ўвесь час.*
*І не настане той пары*
*Калі не будзе нас.*

# Пошукі ісціны

Гэтая публікацыя — апошняе з напісанага Лідзіяй Арабей. Яе абразкі, дасланыя ў лютым, па-за ўсялякіх «чэргаў» былі здадзены ў друк. І Лідзія Львоўна, ведаючы аб тым, чакала выхаду гэтага нумара... Аднак 20 лютага — на 90-м годзе жыцця — пісьменніца пакінула наш турботны свет. І назаўсёды застаецца ў Беларусі. Вечная памяць!



Лідзія АРАБЕЙ

## Слова

Згубілася слова, такое простае, такое знаёмае, амаль кожны дзень яго ўжывала. Заблыталася недзе ў звілінах і знікла. Пакутуеш, яго ўспамінаючы, і ніяк не ўспомніш. І раптам, можа, праз гадзіну, а можа, праз некалькі дзён, яно само выплывае, быццам і не знікала, і дзівішся, як гэта я не магла яго ўспомніць.

## Стол

У мяне ёсць складны стол. Ім карыстаюцца многія суседзі з нашага пад'езда. Але раней яны бралі мой стол, калі ў іх збіраліся госці на дні нараджэння альбо на якое свята, а цяпер часцей за ўсё бяруць на трызну, на памінкі.

## Багацеі

Цяпер самыя багатыя ў нас людзі — пенсіянеры. Яны рэгулярна атрымліваюць свае пенсіі, ні на якія гульбішчы не ходзяць, і таму не купляюць сабе новых строяў, даношваюць старыя. Яны мала ядуць і мала трацяць на харчы. У іх яшчэ застаюцца грошы, каб дапамагаць сваім дзецям і ўнукам, якія з нецярпеннем чакаюць бабчынай мізэрнай пенсіі.

## Цана зямлі

Некалі сусед гатовы быў забіць суседа, калі той, праводзячы мяжу, адхапіў хоць лапік ягонай зямлі. Зямля цанілася, як золата.

Цяпер вялікія абшары ў Беларусі пустуюць не засеяныя. І дачнікі, атрымаўшы ў сваё карыстанне некалькі сотак, не лічаць патрэбным выкарыстоўваць іх пад гароды. Дачы, маўляў, для адпачынку, а не для працы. Зямля ўпала ў цане, усё часцей натуральныя прадукты замяняюцца хіміяй, і невядома, як гэта адгукнецца на здароўі наступных пакаленняў.

## Цывілізацыя

Цывілізацыя не робіць чалавека лепшым. Яна замяняе яго рукі машынамі, мазгі лічыльнікамі, але выхалошвае душу. Перавага аддаецца практычызму, напрад выступаюць выгада, карысць, і мы ўспамінеам эпоху Пушкіна, калі цвілі ўсе музы, калі мужчыны, сустракаючыся, здымалі капелюшы і цалавалі дамам ручкі, тое дзевятнаццатае стагоддзе, якое сёння лічыцца залатым!

## Кот

Мая сяброўка завяла ката. Прывезла яго з вёскі, дзе адпачывала летам. У вёсцы яны з катом нібы сябравалі, кот прыходзіў да яе ў госці, сяброўка частавала яго прысмакамі, кот еў, абліўзваўся, а потым адыходзіў, падняўшы хвост трубой.

Ад'язджаючы ў горад, сяброўка вырашыла ўзяць ката з сабою, не захацела разлучацца.

Той абышоў кватэру, абнюхаў усе вуглы і крыкам выказаў пратэст супраць свайго пражывання. Кватэра яму яўна не спадабалася. Ён крычаў кожную ноч, не даючы спаць гаспадыні, а калі тая падыходзіла да дзвярэй, ён шчаміўся ў шчыліну, рваўся на вуліцу. І не дзіва: у вёсцы ён лавіў мышэй, лазіў па дрэвах, бегаў да кошачак, а тут турма, не інакш.

Я сказала сяброўцы:

— Калі ён так рвецца на вуліцу, адчыні яму дзверы, і няхай ён бяжыць, куды хоча.

— Ты што! — ззалавалася на мяне сяброўка. — Ён жа тут, у горадзе, прападзе. Будзе лазіць па памыйніцах, набярэцца блох, — не, я яго не выкіну.

І калі ў чарговы раз гаспадыня не выпусціла ката за дзверы, ён моцна, да крыві, укусіў яе за нагу.

Цяпер ужо мая сяброўка баялася ката. Калі ён так моцна грызянуў яе за нагу, то можа і яшчэ раз грызянуць, не толькі за лытку.

Выхад быў адзін: завезці ката назад у вёску. Але ці блізкі свет — сто шэсцьдзясят кіламетраў?

Сяброўка не пашкадавала грошай, заплаціла знаёмаму хлопцу за бензін, і той павёз ката. Усю дарогу кот крычаў, мусіць, думаў, што яго вязуць у новую турму. Але калі ў вёсцы яго выпусцілі з машыны, ён так узрадаваўся і даў такога стрыкача, што хутка і след яго прастыў.

Такі вось быў вольналюбівы кот.

## Хочам буры!

Яшчэ нядаўна, на маёй памяці, шумеў, бурліў Саюз пісьменнікаў, адбываліся сходы, на якіх гаварылася пра літаратуру, абмяркоўваліся новыя творы. Памятаю, як на адным са сходаў, калі падняўся Іван Мележ, каб сказаць свае слова, пісьменнікі сустрэлі яго воплескамі. Нядаўна быў надрукаваны раман Мележа «Людзі на балоце», і зала вітала аўтара з творчым поспехам. Працавалі секцыі паэзіі, прозы, драматургіі, крытыкі.

Цяпер — цішыня, штыль... Кожны пісьменнік жыве сам па сабе. І хочацца крыкнуць на ўвесь голас:

— Хочам буры!

## Пакаранне

Дзяўчына нарадзіла дзіця і пакінула яго на марозе. Дзіця загінула. Матку знайшлі, арыштавалі, далі пяць гадоў. Але што ёй тыя гады. Яна сама сябе прыгаварыла да пажыццёвага пакарання.

А недзе жывуць, не ведаючы клопатаў, тыя, што давялі дзяўчыну да такога граху.

## Барацьба

Убачыўшы, што свет недасканалы, колькі ў ім несправядлівасці, рамантыкі бяруцца свет палепшыць: наладжваюць рэформы, робяць рэвалюцыі, пішуць кнігі, заклікаюць людзей рабіць дабро, змагацца са злом і верыць, што свет можна палепшыць. А пад старасць яны бачаць, што ўсе іх патугі аказаліся марнымі. Што свет — які быў, такім і застаўся, што па-ранейшаму змагаюцца дабро са злом, і ніколі дабру не ўдаецца атрымаць перамогу.

## Чаму не па-беларуску?

Кажуць, вялікім попытам карыстаюцца беларускія малочныя тавары, якія называюцца «Бабушкина крынка». Але дзе вы чулі ў Беларусі, каб малочныя вырабы называліся «Бабушкина крынка»? Няўжо для беларускага тавару нельга прыдумаць беларускую назву?

## Калі захачу

Лукашэнка з тэлеэкрана на ўсю рэспубліку аб'явіў:

— Няхай супроць мяне ўвесь свет паўстане, але калі я захачу быць прэзідэнтам, то буду прэзідэнтам!

І гэтымі словамі сам пацвердзіў, што няма ў нас ніякіх выбараў, і народ нічога не вырашае, а як захоча Лукашэнка, так і будзе.

## Сцеражыцеся

Не пускайце ў хату фальшывых сяброўак, яны будуць есці ваш хлеб, піць ваша віно, а потым зробяць вам такую подласць, да якой і страшны вораг не дадумаецца.

## Віншаванні

Напярэдадні дня нараджэння мужа жонка абзванівала знаёмых і, між іншым, гаварыла:

— Не забудзьцеся, што ў Валодзі дваццатага дзень нараджэння. Пазваніце яму і павіншуйце, яму будзе вельмі прыемна.

І людзі званілі, віншавалі, і таму Валодзю сапраўды было вельмі прыемна, што столькі людзей памятаюць пра яго дзень нараджэння і віншуюць.

## Наша медыцына

Хварэю. Званю, каб выклікаць на дом доктара. У мяне пытаюць:

— Што з вамі?

— Мне кепска, — адказваю.

— А колькі вам гадоў?

Адказваю.

— І вы хочаце, каб вам было добра?

Прыходзіць доктар.

— Што з вамі? — пытаецца.

— Мне кепска, — адказваю.

— А каму цяпер добра? — кажа доктар. Выпісвае рэцэпт, лякарства па якім каштуе шалёных грошай, і нічога не памагае.

## На курорт

У бальніцу паступіла новая хворая — пажылая тоўстая кабета. Першы раз выйшла ў калідор у шыкоўным шоўкавым халаце. Потым кожны дзень мяняла касцюмы і сукенкі. Прыехала ў бальніцу, як на курорт. Наўрад ці ў яе што балела, хаця дактары круціліся вакол яе з ранку да вечара. Не інакш, як матка альбо цешча якога высокага чыноўніка.

## Арыштуйце мяне...

У час вайны яна была ў падпольнай арганізацыі. Немцы арганізацыю разагналі, а яе пасадзілі ў турму, потым вывезлі ў Францыю ў канцлагер.

Калі скончылася вайна і вязні лагера атрымалі свабоду, яна вярнулася ў Беларусь, скончыла філфак універсітэта. А потым яе нікуды не бралі на работу. Варта было напісаць, што яна ў час вайны была ў Францыі, у канцэнтрацыйным лагеры... Яна, у адчаі, прыйшла ў КГБ і сказала:

— Арыштуйце мяне!

— За што? — спыталіся ў яе.

— Я сядзела ў фашысцкім канцлагеры, і цяпер мне не вераць, не бяруць на працу.

Невядома, хто ёй паспагадаў, але яе ўзялі стылістам у маладзёжную газету, і яна там адпрацавала да пенсіі.

## Наперадзе

Нарадзілася дзяўчынка — маленькі цёплы камячок. Зусім бездапаможнае стварэнне. І трэба ж — вырасла ў прыгожую разумную жанчыну. І стала апорай старому бацьку: што б ён і рабіў без яе — удавец, пасля інсульту.

Ніхто не ведае, што чакае кожнага з нас наперадзе.

## Завадатар

Дзіву даемся, як пасля такой вайны, калі праліта было столькі крыві, калі пакалечана было столькі чалавечых цел і душ, магла ўсчацца ва Украіне такая бойня? Які новы напалеончык захацеў славы? Бо войны самі па сабе не ўзнікаюць. Заўсёды ёсць завадатар, які вядзе за сабою, як баран, авечак, на бойню.

Не, чалавецтва за вякі не паразумнела і ніякая навука не ідзе яму на карысць.

## Крывадушша

Ці магла прадбачыць я, былая піянерка, былая камсамолка, якая выхоўвалася ў перакананні, што рэлігія — дурман для народа, што царква — перажытак мінулага, што вера ў бога — ад непісьменнасці народа, ад яго цемнаты... А праз некалькі гадоў тыя самыя людзі, што выхоўвалі мяне як свядомую атэістку, праз тэлебачанне будуць паказваць царкоўныя службы, хрэсныя ходы, і вялікае начальства, учарашнія атэісты, будуць цалаваць абразы, хрысціцца і абдымацца са святарамі. Мне робіцца моташна ад такога крывадушша.

## Нацыя і людзі

Кожная нацыя мае сваю асаблівасць. Але няма кепскіх нацый, ёсць кепскія людзі. У так званай «талерантнай» Беларусі ёсць такія нягоднікі, такія мярзотнікі, якіх свет не бачыў. Я з імі сутыкалася і магу гэта сцвярджаць з усёй адказнасцю.

## Аб'ядала парсюка

Калі я была студэнткаю, то пакуль мне далі месца ў інтэрнаце — здымала ложак у бабулі-гаспадыні. Гаспадыня бачыла, што я бываю галодная, днямі нічога не еўшы, і яна, калі варыла бульбу парсюку, часам выбірала з чыгуна пару бульбін і прыносіла мне. Я з'ядала. Аб'ядала парсюка.

## Будзе позна

Я больш ніколі не ўбачу мора. Я больш ніколі не ўбачу егіпецкіх пірамід, не ўбачу Рыма, Парыжа. Мае гады і хваробы не дазволяць мне яшчэ раз зрабіць такое цікавае падарожжа. Я мушу дажываць з тым багажом, які ўжо набыла ў мінулыя гады.

Людзі! Старайцеся браць ад жыцця ўсё, што можна, бо потым будзе позна!

## Вар'яцтва

Часам мне здаецца, што людзі звар'яцелі. Вайна ў мірны час. Страляюць аўтаматы, узрываюцца бомбы, снарады. Толькі і чуеш: тэрарыстычны акт, заложнікі, загінулі людзі. І гэта ў дваццаць першым стагоддзі. За вякі не набраліся людзі розуму. Ці мала і так усмактала зямля крыві чалавечай?

Хто вораг, хто свой — усё пераблыталася.

## Патрыятызм

Улада заўсёды выхоўвала ў свайго народа патрыятызм, каб у выпадку якой навалы народ бараніў сваю зямлю. Аднак улада, мусібыць, не столькі клапоціцца пра сваю зямлю, колькі пра сваю ўладу над гэтай зямлёй: каб навала не скінула яе з наседжанага месца і не захапіла трон.

І вось народ нібыта бароніць сваю зямлю, а насамрэч бароніць уладу.

## Ідэя

У час абстрэлу Данецка васьмігадоваму хлопчыку адарвала абедзве нагі і руку. Цяпер дактары змагаюцца за яго жыццё, хоць, па-мойму, было б больш гуманна гэтага не рабіць.

Ці варта хоць якая ідэя такой ахвяры?

Чалавецтва, ты за вякі не паразумнела.

## Ратунак

У бальнічнай палаце хворыя бабулькі сядзяць на ложках і нешта чытаюць, чытаюць...

Прыгледзелася — малітвы. Бабулькі чакаюць ратунку не ад дактароў — ад Бога.

## Развітанне

Некалькі гадоў шукала ісціну — на вуліцах, у хатах, у чалавечых душах.

А ўласна — што такое ісціна? Па-мойму, ісціна — гэта праўда. І я прыйшла да вываду, што ў кожнага свая праўда, свая ісціна.

Дык і жывіце кожны па сваёй праўдзе, толькі не рабіце адзін другому зла.

Бывайце здаровы!

# Быць жанчынай

**Палітыка, царкоўныя справы ды спрэчкі, часам — размовы пра літаратуру, згадкі пра падзеі мінулага: партызанку, Слуцкае паўстанне, вайну...**

Гэта тэмы, якія пераважна закраналіся ў лістах моцнай паловы беларускай эміграцыі. Пра што ж пісала, што абмяркоўвала лепшая палова?

Ці таму, што архівы збіралі і перахоўвалі мужчыны, ці таму, што жанчыны значна менш вылаткоўвалі часу на карэспандэнцыю, ці з якой іншай прычыны, але лістоў жанчын-эмігрантак захавалася значна меней. Багатыя эпісталярыі пакінулі хіба што актыўныя грамадскія дзяячкі і творцы-навукоўцы. Наталля Арсеннева, Яніна Каханоўская, Раіса Жук-Грышкевіч — гэтымі імёнамі, бадай, можна вычарпаць значную частку захаванага жаночага эміграцыйнага эпісталярыю.

Але ж быць беларускай жанчынай на эміграцыі — гэта не толькі ладзіць выставы ці іншыя нацыянальныя мерапрыемствы ды пісаць вершы. Як і на радзіме, апынуўшыся на берагах Сены ці Гудзону, жанчыны найперш выконвалі традыцыйныя ролі маці, жонкі, гаспадыні. Як ім жылося? Пра што думалася? Што наогул значыла быць жанчынай-беларускай на эміграцыі?

Жонка Прэзідэнта БНР Міколы Абрамчыка (1903—1970) Ніна (у дзявоцтве Ляўковіч) вядомая на эміграцыі тым, што не аддала пасля смерці мужа архіў Рады, зрабіўшы яго таямніцай для сучаснікаў ды нашчадкаў, і абарвала амаль усе сувязі з суродзічамі. Аднак да таго яна даволі сціпла выконвала функцыі «першай ледзі», аддаючы ўвесь свой час хатняй гаспадарцы ў прыгарадзе Парыжа і сыну.

Адной з нешматлікіх карэспандэнтак Ніны Абрамчык (1916—2003) была Вольга Запруднік (1928—1987) — жонка тагачаснага супрацоўніка Радыё «Вызваленне» ў Мюнхене, актыўнага беларускага дзеяча Янкі Запрудніка. У архіве апошняга захавалася некалькі лістоў «першай ледзі» з далёкага 1956-га. Ніне тады было каля 40 гадоў, і ў сям'і Абрамчыкаў, што пабраліся яшчэ ў часе вайны, нядаўна нарадзіўся доўгачаканы сын Альгерд. Больш як на дзесяць гадоў маладзейшая выпускніца Лювэнскага ўніверсітэта Вольга Запруднік мела хіба два гады сужэнскага стажу і якраз нарадзіла дачку. З'яўленне дзяцей, аднолькавыя мацярынскія клопаты, відавочна, зблізілі дзвюх жанчын:

«10.2.56 г.
Даражэнькая Олечка,
даўно ўжо збіралася Табе напісаць, але неяк апошне ў мяне з гэтым ідзе туга. Віншую з найбольшай пацехай, маю надзею, што ўжо шмат яна падрасла, падужэла, і маеш менеі клопату ды прывыкла менеі-болеі ходацца, дык мо палягчэла. Я тако-ж маю «пацеху». Мой хлопчык ужо «вялікі» — сядзіць, кажа «тата» і мае 1 зуб. Спачатку трошкі плакаў, але вельмі рэдка, цяпер зусім спакойна гуляе з цацкамі. Ноччу ён ніколі не пабудзіў, сьпіць да раніцы, і часад-часу абое прасыпаем «сьнеданьне». Як-жа-ж Ты чуешся, Олечка, як Табе прайшлі гэтыя пэртурбацыі? Я хоць пакрычала і памучылася, але ня надта доўга, усяго 8 гадзін, але мела яшчэ розныя болі (яечнікі, спаросты на мейсцы сьляпой кішкі, сьпіна і г. д. 3 дні). Цяпер я чуюся вельмі змучанай, так што ледзь-ледзь даю рады збольшага ўправіцца. Усю пору памагае мне Мікола. Але цяпер ужо шмат лягчэй, маю надзею, што летам дайду да толку з сіламі.

Напішы, Олечка, пра сваю сямейку, знаёмых і г. д. Там Вас цяпер вялікая кампанія.

Пасылаю тваёй малой пару рэчаў, зь якіх мой ужо вырас. Надавалі мне тут суседкі кашулек, што дагэтуль яшчэ і не шыла, але вось ужо думаю пачынаць, бо тыя ўжо малыя.

Затым, Олечка, усяго Вам найлепшага і прывітаньні, а Цябе цалую моцна.
Твая Ніна».



Наталля Гардзіенка і Альгерд Абрамчык. Парыж, 2012 г.

**Лісты адлюстроўваюць свет жанчыны-беларускі з ваколіцаў Парыжу сярэдзіны 1950-х, такі зразумелы і блізкі, нягледзячы на адлегласць у прасторы і часе...**

Ніна Абрамчык амаль не мела сяброўак у блізкай адлегласці. У тагачаснай Францыі можна было знайсці беларусаў, але яны былі раскіданыя па рэгіёнах. У самім Парыжы лік ішоў мо на колькі дзясяткаў, быў Беларускі дом — кватэрка на Rue des Gravilliers, што выкарыстоўвалася як арганізацыйны офіс, ладзіліся багаслужбы айцом Львом Гарошкам... Але ж Абрамчыкі жылі па-за горадам, у Вільпэнце. І калі раней «першая ледзі» магла лягчэй выбірацца на мерапрыемствы суродзічаў, часам нават з мужам па-за Францыю, то пасля нараджэння сына яе свет звузіўся.

Мацярынскія абавязкі сталі на першае месца. Але ж адукаванай жанчыне (за плячыма навучанне ў Віленскім універсітэце) трэба было і яшчэ нешта, каб «заняць галаву». Некалі яна пісала апавяданні пад псеўданімам Ніна Раса, друкавалася ў эміграцыйных перыёдыках. Было, што нават сама паспрабавала выдаваць газету для жанчын — «Беларуска», але далей за першы выпуск справа не пайшла. Традыцыйны жаночы занятак, вельмі пашыраны на эміграцыі, — вышыванне. Ніна Абрамчык збірала схемы ды рабіла вышыванкі, але шукала для сябе і нечага іншага:

«27.7.56 г.
Даражэнькая Олечка,
даўно абяцаны «даўжэзны» ліст зьбіраецца ў дарогу. Запраўды, з лістамі ў мяне проста скандальная рэч, неяк не зьбяруся ўзяцца за пяро...

Як-жа ж, Олечка, маешся? Ці набрала трошкі энэргіі і пахудзела (я трошкі худзею, бо пасьля родаў асталася тоўстай, як бочка, цяжка было павярнуцца, кажучь, таму й рухлівасьці не было). Аднак чуюся заўсёды вельмі змучанай, хоць амаль нічога не раблю. Працую, праўда, зранку да вечара, але гэта неяк ідзе вельмі павольна, адно пачынаю, ня скончу, бо ўжо трэба рабіць штось другое, тое тако-ж не канчаецца, і вось так, як ланцуг, цягнецца, а ў выніку вечарам балаган усюды, і я прытомленая настолькі, што ледзь-ледзь да ложка дабрыду, каб «адпачыць» некалькі гадзін, а раніцай устаю змучанай, якбы ўжо поўдня працавала. Чаму гэта так, мне проста дзіўна. Маю-ж сонца, паветра, харчы і ня шмат працы, толькі хатняя, агарод і пару жывёлін (сабака, 20 курэй, столькі-ж кролікаў). Хлопчык мой спакойны, сьпіць добра, вось зьбліжаецца 8 гадзіна, а ён яшчэ сьпіць, таму села пісаць, заўсёды мыю ў гэту пару, каб удзень пасохла. <...>

А як-жа Твая «Прынцэска» з вагой? Ды наогул — ужо, мусіць, вялікі прагрэс ад таго лісту апошняга і фота.

Але-ж і заядлая зь Цябе манархістка! Няўжо Ты верыш у манархію на Беларусі? Мне неяк гэта ніколі не прыйшло на думку.

Радзівілы, Сапегі, Мірскія...Адзін з Мірскіх (ходзяць чуткі) мые талеркі ў Лёнданскім рэстаране. Радзівіл дык прымасьціўся быў амбасадарам «Polski Najnowszej» у Лёндане, пакуль Бэрут «не снял с работы». Дзе ён цяпер?

А чым ты, Олечка, займаешся, апрача «гаспадаркі»? Я — нічым! Проста жаль, што жыцьцё праходзіць міма, «у сваёй хаце»! Так шмат хацелася зрабіць, і вось гультайства апанавала, бо што-ж іншае? На'т не вышываю ўжо — «няма часу» — проста і пісаць сорамна, бо прыказкі кажуць: хто хоча, то і час мае; не шукай часу, шукай ахвоту; час з ахвотаю жэніцца. Устрымаюся на гэтых.

А ведаеш, маю цудоўныя ўзоры. Мой Найдаражэйшы мне «зафундаваў» — «Беларускія Узоры» — альбом, выдадзены ў Менску нядаўна. Але, напэўна, Ты яго тако-ж маеш, калі не, Олечка, прыцісьні свайго Найдаражэйшага, хай Табе падарак на нейкую там гадаўшчыну, «на першы зуб» (мусіць ужо мае шмат зубоў Твая «Прынцэска» — у Аліка 7). Тут ёсьць у францэзаў звычай, што матка атрымоўвае ад бацькі падарак, калі дзіцё мае 1-шы зуб. Наогул, у іх шмат аказыяў на падарункі! Дык вось, вяртаючыся да альбому: абавязкова яго расстарайся, калі ня маеш. У Цябе-ж вышывальніца расьце (між іншым, Альгерд любіць вышыванкі і ніткі, таму шчэ пры ім не магу вышываць, бо адбірае). Ведаеш, Олечка, што я раблю апрача «гаспадаркі»? «Праекты» — проста сорамна, што забаўкамі займаюся. Нікому не кажу, але вось Табе неяк сарвалася зь пяра, дык ужо напішу.

«Прап'ём да будучыні трэйцяй» — казаў Купала. Так вось і ў мяне, усю пору — гэта будучыня! Тое, што прайшло — мы знаем, гэта як прачытаная кніга, цікавая, зь якой трэба ўзяць выснавак: «як ня трэба рабіць блага».

Цяперашнясьць для мяне — гэта зранку да вечара таўкатня, бесталковіца, час, які марна прападае, якога шкада, нявыкарыстаны, якога не нагнаць, змарнаваная частка жыцьця. Будучыня — адзіная пацеха і надзея. Вось таму і раблю «пляны» на будучыню, хоць ведаю, што яны ніколі не прыдадуцца, такія бесталковыя пляны. Вось ужо «распрацавала» ваколіцы, якія знаю, пляны хатаў (захоўваючы нашую цудоўную вёску), яе структуру, якой падобнай ніхто ў сьвеце ня мае. Пляны вуліц, паркаў, дамоў адпачынку, дзе летам «адпачывалі-б» усе таты-мамы-дзеці з гораду, каб дыхаць сонцам і паветрам бяз пылу, а зімой дзядулі-бабулі, каб не задыхацца на печы, а мець сьвежыя пакоі з цэнтральным агравањнем і ўсім камфортам, які маецца на Зямлі, прынамся тэлевізія, тэлефон ды ванна з добрым мылам.

Бачыш, як гэта з праектам, ці трэйці аркуш паперы хопіць (а Альгерд усё сьпіць, ужо недалёка 9 гадзіна, мусіць, і яму сьняцца праекты, а мо з Татам гуляе?).

Нат ужо горача, сонца прыпякае, цяпер у нас сьпякота, але я ў сваім гародзе маю цень і шмат травы, дык цэлы дзень у купальным касьцюме бадзяюся, аж суседкі завідуюць, што мне добра, бо яны носяць даўгія спадніцы, панчохі і высокія абцасы, а я на траве босая. Скінцье, кажу, і Вам будзе лёгка.

Цікава табе мае праекты, пісаць яшчэ, ці мо' хопіць, каб не занудзіць? Ведаеш, адзін быў вельмі арыгінальным, што на'т Ніколку падабаўся, і прапанаваў падаць яго ў прэсу як дыскутны, але аб ім пісаць ня буду, гэта доўга, ды, пэўне, і нудна...»

Праекты добраўпарадкавання мястэчка, напэўна, былі часовым хобі. Нідзе пра іх ніхто болей не згадваў. Ніна Абрамчык жыла найперш для сына і мужа. Першы даваў стымул для творчасці. Дзякуючы апошняму жанчына была добра абазнаная ў розных падзеях жыцця беларускай эміграцыі і знаёмая шмат з якімі дзеячамі, у ацэнках якіх часта аказвалася даволі катэгарычнай.

«...Прыязджалі тут Грышкевічы. Страшнае ўражаньне, проста кашмарнае на мяне зрабіла Раіса. Зусім яна не зьмянілася, асталася той самай Раісай Жукоўскай, мяшчанкай Пружанскай Горкі, не памаглі ёй на'т яе 2 дыплёмы. Шкада мне яе вельмі. На ўсіх злосная-злосная, паводле яе ўсе і ўсё — «нічога ня вартае сьмяцьцё». Яна сказала: «Беларускі Народ — гэта няздарная жаба, якая нягодная жыць» і што ёй сорамна, што яна належала да гэтага народу... За такія рэчы — павесіць мала. Ну, што-ж, «хай з дарогі, хто слаб, адыходзе», казаў Танк».

Кожнаму, хто чуў імя Раісы Жук-Грышкевіч (1919—2009), сябры Прэзідыуму Рады БНР, кіраўніцы Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады, адной з найбольш актыўных грамадскіх дзеячак на эміграцыі, цяжка даць веры гэткай характарыстыцы. Магчымую прычыну такога негатыўнага водгуку падказаў Янка Запруднік. Як аказалася, некалі сястра Раісы Валянціна Жукоўская (у замустве Пашкевіч) была суперніцай Ніны ў барацьбе за сэрца Міколы Абрамчыка. Напэўна, гэта магло паўплываць і на пачатковае стаўленне да самой Раісы, з якой пазней тая ж Ніна даволі актыўна ліставалася.

«7.9.56
Даражэнькая Олечка,
пачынаецца ў нас сэзон сонца і вінаграду! Бяры сваю «Прынцэску» і прыязджай! не чакай, пакуль Найдаражэйшы папоўніць касу. Каса — гэта такое нешта, што мае ў дне дзюрку, празь якую ашчаднасьці недзе выпадаюць. <...>

Там у Вас ужо сьнег падаў, а мы ўсё яшчэ спадзяёмся прыгожай пагоды. Лета было мокрае і на'т ня надта гарачае, але восені тут зазвычай бываюць вельмі прыгожыя, даўгія, сонечныя, праўдзівае лета, вельмі прыемнае, негарачае.

Ці бачышся часамі з маім Братам? Усё неяк па Нямеччыне блукаецца адзінокі. У гэтым годзе на'т ня змог сюды заглянуць да нас. Пакутуе ён у мяне, Браток.

Раіса як паехала, дык ані слова не напісала. <...>

Олечка, прыязджай, пішы, дзякую за фота.
Цалую, Ніна».

Гэта быў, відаць, апошні ліст, напісаны ў Мюнхен. У наступным 1957 г. сям'я Запрудніка пераехала ў ЗША. За новымі клопатамі ліставанне паміж жанчынамі перарвалася — і невядома, ці аднавілася наогул. Прынамсі, іншых лістоў не захавалася. А гэтыя... Так, у іх няма літаратуразнаўчых дыскусіяў, успамінаў пра гістарычныя падзеі, царкоўных спрэчак... Затое гэтыя лісты адлюстроўваюць свет жанчыны-беларускі з ваколіцаў Парыжу сярэдзіны 1950-х, такі зразумелы і блізкі, нягледзячы на адлегласць у прасторы і часе...

**Наталля Гардзіенка**

# «Хадзем са мной»

**Сяржук Сыс. ПАВУК: вершы. — Мінск: Галіяфы, 2014, — 98 с.**




Разглядаючы другую кнігу Сержука Сыса «Павук», займеў пачуццё незадаволенасці, таму і пачну адразу савою аб пень ці пнём аб саву.

Ведаю, што вынік будзе аднолькавы: саве — балюча. Кнігі — няма. У сэнсе, што кніга ёсць і ў той жа час кнігі няма. Ёсць спроба, паставіўшы пад вершамі даты, скіраваць чытача на тое, што на старонках адбываецца сталенне паэта ці эвалюцыя ад амаль класічных радкоў да шчырага постмадэрну. І гэта лічу вялікай няўдачай. Патлумачу праз вобраз павука, які апантаны ідэяй павуціння. Як толькі павук робіцца павуком, ён пачынае сваю працу ткача, і кожны ягоны выраб уражвае сваёй дасканаласцю. Як называецца: пачаў і скончыў. Што тут сказаць? Назва няўдалая, бо не выконвае сваёй непасрэднай функцыі раскрыцця зместу. Але не хачу больш пра кепскае, бо Сяржук Сыс ёсць маім сябрам, а крыўдзіць сяброў — гэта не зусім па-беларуску, хаця, здаецца, якраз па-беларуску.

Ergo, цяпер пра тое, што палюбляю. Неаспрэчнай удачай кніжкі ёсць паэтава фота, хоць і пастановачнае, але вельмі ўжо мастацкае. Аўтар яго ў кнізе, на жаль, не ўказаны. Але на нас пазірае твар злодзея, які ўжо нешта скраў ці яшчэ збіраецца штосьці скрасці, тут, на млыне: крупы, муку, мяхі, коней, але для паэта: словы, вобразы, рыфмы, пачуцці. І для паэта гэта добра, скрасці і засвойтаць. А зловяць, дык засмяяцца фраерскім вершам, да прыкладу, тым, як «Уварванне ў жабін рай», які, бясспрэчна, назаву адной з галоўных удачаў гэтай кнігі. Вось ён, вясёла-звонкі голас беларускага балота, з пахам глеістай твані і смакам свежа-белага аеру. А верш «Вып'ем з Месяцам віна» проста конгеніяльны, чытаеш яго, і нібыта ўваскрасае Роберт Бёрнс з ясным пафасным адчаем невынішчальнага аптымізму:

*Трэснуў лёс, нібы начоўкі:*
*Я — адзін, яна — адна...*
*Заўтра месяц прыйдзе*
*знобку,*
*Вып'ем з месяцам віна.*

Халера, гэта не Бёрнс, а Сыс, але таксама хораша.

Не магу суняцца, назваў бы кніжку «Хадзем са мной» — і было б добра. І пытанняў не было б. Маўляў, гэта ўсяго толькі падарожжа ва ўнутраны свет, у Краіну Паэта, і выбачайце, калі ласка, калі мая краіна вам не даспадобы. Іншай у мяне для вас няма. А мая, у сэнсе, Сысава, уся засаджаная дрэвамі: дубы, грушы, яблыні з паспелым антонам, сівыя лозы, а пад імі кветкі: улюбёныя ляўконіі, букеты з восеньскага лісця, але самыя зваблівыя для Паэта з кветак — дзяўчаты. Яны для Сыса невычарпальнае радавішча радасці і болю, а і тое і тое служыць натхненню верна. І верш, які просіцца на музыку, каб стаць рамансам, «За тое, што ты ціха памірала...»

Цытата з Ісайі для мяне тут залішняя. Хіба Сяржук Сыс не прыляпіў, каб чытач змог параўнаць, хто тут круцейшы, але, зразумела, што Ісайя, хаця мо хто і паспрачаецца. На густ і колер сп'янелы жук гусю не таварыш, хаця лётаюць абодва.

У савецкія часы да дэфіцытных тавараў, такіх як зялёны гарох, давалі так званую нагрузку, звычайна іржавы селядзец. Такой нагрузкай я лічу раздзелы «Апостраф» і «Чужыя гарады», хаця ў раздзеле «Апостраф» ёсць паэтычныя ўдачы: уласна сам «Апостраф», вершы «За вячэрай», «Навучы мяне не заўважаць», «Мама, як мне баліць». Не, выбачаюся, з раздзелам «Апостраф» я, мусіць, перабраў. Гэты раздзел вельмі арганічны, і вершы ў ім дарobленыя на ўзроўні вершаў. Вось яна, уся паэзія, тут, у студэнцкім парку, на могілках, вымагае трызны і трызнення.

Зразумела, што не магу не адзначыць верш, які, нібы цыган, вандруе ўжо з кнігі ў кнігу: «Ноч, павуцінне сноў...» Сяржук Сыс лічыць яго шэдэўральным і, мусіць, не толькі Сыс, і, мусіць, лічыць яго вербалізацыяй удалага фота. А я паставіў бы верш са «Стрэмкі» «Паміж Гомелем і Мінскам», верш сапраўды шэдэўральны, на маю думку, і фота дапасоўвалася да яго куды як не горай. Ды што зроблена, тое зроблена.

Але Сяржук Сыс не быў бы Паэтам, каб не ўмеў бязлітасна і люта пашкадаваць сябе. І не думайце, што гэта парадокс, гэта ўсяго толькі верш «Бацькавыя гусі».

*ловіць татка плотак на*
*Дняпры*
*варыць мама сціплую вячэру*
*цягнуць гусі тату з-пад*
*гары*
*мама азіраецца на дзверы...*

Вось дзе яна, анталагічная глыбіня, вось ён тут на роўні з Іевам і Эклезіястам. Болесна, цяжка і невыпраўна, бо адвечна ад нараджэння да скону і ад скону да нараджэння. А гэта ўжо доля Сысава Нашая Беларуская.

Даруй мне ўжо, братка, я тут пра цябе рознага папанапісваў...

**Сяргей Вераціла**

# Незвычайная энцыклапедыя для дзяцей

**Вершаваная энцыклапедыя жывёльнага свету / уклад., аўт. канцэпцыі, тэксту Аксана Спрынчан; іл. Веранікі Шніп, «Мастацкая літаратура, 390 с.**




Унікальныя па сваёй ідэі выданні — Чырвоная кніга для дзяцей у вершах (2008, аўтар Віктар Гардзей), «эцюды» пра фаўну і флору (2008–2009, Алесь Бадак) — нядаўна займелі годны працяг — «Вершаваную энцыклапедыю жывёльнага свету». Яна распавядзе цікаўнаму маламу чытачу пра звяроў, птушак і рыб.

Усяго расказана пра паўтары сотні «братоў нашых меншых» — ад авечкі да яшчаркі. Ахоплены прадстаўнікі як «свойскага» асяродку, так і дзікага свету, у тым ліку экзатычнага.

Кожны артыкул мае наступную будову: ілюстрацыя, затым — празаічная інфармацыйная даведка (мовaю спрошчанай, але не прымітызаванаю!), дзе паведамляецца не толькі агульная характарыстыка «брата», але і — напрыканцы — яго прывязка да геаграфіі, перадусім Беларусі.

Урэшце — вершы. Самых розных беларускіх аўтараў. Галоўным крытэрыем для адбору, відавочна, стала якасць. Таму слабых твораў у выданні не знойдзеце. Як распавяла ўкладальніца, «у гэтай энцыклапедыі прадстаўлена толькі чацвёртая частка сабраных мной вершаў». А значыць, выбар быў добры. Дадамо, што вершы розныя па стылістыцы, і кожны знойдзе сабе твор па гусце і па настроі. Дзеля прыкладу — пару рознапланавых цытаванняў. Гульлівы верш Міколы Чарняўскага «Маржанятка-мурзанятка»:

*Маржанятка-мурзанятка*
*Плюхалася ў моры.*
*Морж мачалкай маржанятка*
*Шараваў да зморы:*
*«Ох, нялёгкі ўсё ж занятак —*
*Мыць у моры маржанятак!*

Такіх, канечне, большасць. Але страчаюцца і больш размераныя рытмы з «сур'ёзнымі» сюжэтамі:

*Туман плыве з нізіны сівы*
*Над нівай голай і пустой.*
*«Глядзіце, заяц варыць піва», —*
*Жартуюць людзі між сабой.*

У гэтых радках многія пазнаюць пачатак вядомага верша Уладзіміра Караткевіча «Заяц варыць піва», у якім за іроніяй прыхаваны і пэўны экзістэнцыяльны сум.

Акрамя таго, мастачка не абмежавалася адной ілюстрацыяй. Колькасць і вершаў, і малюнкаў узрастае па меры «папулярнасці», распаўсюджанасці ў нашым культурным і прыродным дыскурсе таго ці іншага прадстаўніка фаўны.

Кола аўтараў вельмі прадстаўнічае — ад класікаў (Максім Танк, Васіль Вітка, Сяргей Новік-Пяюн, Артур Вольскі, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін) да нашых сучаснікаў — і вядомых, і яшчэ маладых (Леанід Дранько-Майсюк, Анатоль Зэкаў, Казімір Камейша, Алесь Каско, Пятро Васючэнка, Віктар Шніп, Уладзімір Марук, Алег Мінкін, Данута Бічэль, Васіль Зуёнак і многія іншыя).

Як слушна гаворыцца ў анатацыі, акрамя пазнавальнай функцыі, якую звычайна нясуць энцыклапедычныя выданні, гэта кніга выконвае яшчэ і эстэтычную, творчую, выхаваўчую, патрыятычную, экспрэсіяністычную і забаўляльную функцыі. Дадам, што многія вершы развіваюць пачуццё гумару.

Выданне выключнае і павінна быць у кожнага маленькага беларусіка!

**Анатоль Трафімчык**

# Сіўчыкаў: кнігі — дзецям!

**Сонейка. Хрэстаматыя дзецям дашкольнага ўзросту / уклад. Р. І. Шастак, «ІП Уладзімір Сіўчыкаў», 2013, 304 с.**

**Залатая яблынька. Казкі, легенды, паданні. Хрэстаматыя дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту / уклад. У. М. Сіўчыкаў, «ІП Уладзімір Сіўчыкаў», 2013, 288 с.**

Новая серыя распачата вядомым выдаўцом Уладзімірам Сіўчыкавым. Выдадзены дзве кнігі-хрэстаматыі — «Сонейка» (дзецям дашкольнага ўзросту) і «Залатая яблынька» (дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту). Іх наклад — больш чым па 5 тысячаў асобнікаў — гаворыць сам за сябе і сведчыць пра перспектыўнасць і выдавецкай справы ў галіне дзіцячай літаратуры, і — адпаведна — самой айчыннай літаратуры. Тым больш што без даўно закрытага выдавецтва «Юнацтва» дзяржава не спраўляецца з абслугоўваннем попыту і пакідае пустыя нішы.

Калі другая з названых кніг разлічана на ўзроставую катэгорыю, якая мае даволі шырокі «асартымент» для чытання, дык адрасаваная дашкольнікам чытанка папоўніла не зусім густыя літаратурныя ўзыходы.

У «Сонейку» сабраныя творы не хаатычна. Найперш прыемна бачыць узроставую дыферэнцыяцыю: першая малодшая група (да трох гадоў), другая малодшая група (3-4 гады), старэйшая група (5-6 гадоў).

Аднак падзел трэба лічыць умоўным. Мала таго, што дзеці неаднолькавыя па ўспрыманні мастацтва (як і ўсе мы), дык і ступень разумення беларускай мовы будзе таксама рознай. А значыць, «Сонейка» стане вельмі дарэчным дапаможнікам пры засваенні мовы «з нуля». Прычым не толькі дзецьмі, але і іх дарослымі апекунамі.

Плённая праца ўкладальніка бачыцца і ў падборы жанраў і аўтараў. Ахоплены лепшыя творы ад фальклора і класікаў да сучаснікаў. Прычым шмат месца займае прадстаўніцтва рускай літаратуры (у чым бачыцца здаровае імкненне быць запатрабаваным на рынку). Галоўны крытэрый — высокі эстэтычны ўзровень твораў, сярод якіх: казкі, легенды, кароткія апавяданні, вершы, загадкі, скарагаворкі, лічылкі, гульні і шмат іншага мастацкага матэрыялу. Асобна адзначым, што кожнай узроставай групе прапануецца па драматургічным творы.

Калі «Сонейка» разлічана на чытанне дарослымі, то «Залатая яблынька» — дзецьмі. Чамусьці ў апошняй адсутнічаюць вершаваныя творы (за выключэннем «Ваўкалака» Янкі Купалы і «Быліны пра мураша Бадзіню» Максіма Танка). Гэтае выданне «спецыялізуецца» на казках, падзеленых на тры традыцыйныя раздзелы, легендах і паданнях. Тут і творы фальклорныя, апрацаваныя «служачымі пяра», і аўтарскія. Для патрыятычнага выхавання асабліва карысныя і пазнавальныя будуць легенды «Адкуль свет пайшоў» і «Адкуль пайшлі беларусы», паданні пра нашы рэкі і гарады. Паклапаціўся У. Сіўчыкаў і пра «даходлівасць» — склаў спіс патэнцыйна незразумелых для дзяцей слоў.

Абедзьве кнігі, прапануючы шырокі дыяпазон мастацкіх матэрыялаў, значна спрашчаюць іх пошук. Немалы наклад дае падставы думаць, што выданне дойдзе да зацікаўленых чытачоў. Галоўнае, каб супрацоўнікі адпаведных устаноў і бацькі дашкольнікаў не ленаваліся сачыць за такой літаратурай. Яе плынь, калі верыць тэндэнцыі, будзе пашырацца.



# 200-годдзе аўтара ўкраінскага гімна

**Прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка даручыў ураду распрацаваць план святкавання 200-годдзя з дня нараджэння Міхаіла Вярбіцкага і 150-й гадавіны першага публічнага выканання нацыянальнага гімна «Ще не вмерла України і слава, і воля...».**

У прыватнасці, Кабмін павінен прадугледзець арганізацыю ў абласных цэнтрах, іншых населеных пунктах, звязаных з жыццём і дзейнасцю М. Вярбіцкага, тэматычных культурных акцый з прыцягненнем шырокай аўдыторыі, у першую чаргу вучнёўскай і студэнцкай моладзі; правядзенне навукова-практычных канферэнцый, круглых сталоў, семінараў. Акрамя таго, урад павінен забяспечыць падрыхтоўку і выпуск юбілейнага друкаванага выдання пра гісторыю стварэння гімна Украіны, жыццёвага шляху яго аўтараў; выпуск нотных выданняў М. Вярбіцкага, а таксама яго музычнай спадчыны на кампакт-дысках.

# Расійская кніга ва Украіне

**Продаж расійскіх кніг ва Украіне рэзка ўпаў.**

З-за байкоту расійскіх тавараў доля літаратуры, выпускаемай выдавецтвамі Расійскай Федэрацыі (не расійскамоўнай) на ўкраінскім рынку рэзка скарацілася. Так, калі раней расійскія выданні займалі каля 80% рынку, то ў 2014 годзе іх колькасць ледзь дацягвала да 50% аб'ёму ўсёй прадаванай прадукцыі.

Эксперты адзначаюць, што ў сакавіку 2015 года можна будзе гаварыць і аб больш істотным пераразмеркаванні кніжнага рынку Украіны. Цяпер жа, паводле справаздачы Мытнага камітэта Украіны, за 9 месяцаў 2014-га мяжу перасекла 1,4 млн. кілаграмаў кніг, тады як у 2012 і 2014 гадах аб'ём увозу складаў 3,9 млн і 3,3 млн кілаграмаў літаратуры адпаведна. Па падліках мытнікаў, дарэчы, 1 кг прыкладна роўны тром кнігам.

Цікава і тое, што «шэры» імпарт выдавецкай прадукцыі з Расіі, які складаў каля 40% аб'ёму выданняў, таксама скараціўся, — прыкладна ў два разы. Такім чынам у краіну ўвозіцца, як правіла, танная бульварная літаратура, а таксама палітычна арыентаваная белетрыстыка. Пакуль жа ў кнігарнях Украіны набыць расійскія кнігі — не праблема, аднак гэта таварныя рэшткі, а вось навінкі варта заказваць у электронным фармаце.

# Мужчыны, жанчыны і кнігі

**Пераважную большасць прадстаўнікоў моцнай паловы чалавецтва не цікавіць літаратура, напісаная аўтарамі жаночага полу.**




Англельскія сацыёлагі правялі маштабнае сацапытанне з мэтай высветліць, якія літаратурныя прыхільнасці маюць жыхары Вялікабрытаніі і як рэагуюць на кнігі аўтараў супрацьлеглага полу.

Даследаванне, удзельнікамі якога сталі больш за 40 тысячаў рэспандэнтаў, паказала, што як мужчыны, так і жанчыны сапраўды любяць чытаць: 80% апытаных прызналіся, што ўвесь час перачытваюць тыя ці іншыя кнігі. Але навукоўцы выявілі наступную заканамернасць: аказваецца, пераважная большасць прадстаўнікоў моцнай паловы чалавецтва не цікавіць літаратура, напісаная аўтарамі жаночага полу. 90% мужчын папросту не возьмуць такую кнігу ў рукі.

Акрамя таго, моцны пол пры выбары твора кіруецца жанрам і сюжэтам, не звяртаючы зусім ніякай увагі на дату яго напісання. Жанчыны ж аддаюць перавагу навінкам — кнігам-бэстсэлерам, якія ўзляцелі на пік папулярнасці. Не лішнім будзе згадаць, што і прадстаўніцы «слабага полу» ў большасці выпадкаў аддаюць перавагу літаратуры, напісанай жаночай рукой.

Падобнае даследаванне нядаўна праводзілі нямецкія навукоўцы. Вынікі іх апытання паказалі, што мужчыны чытаюць, імкнучыся атрымаць максімум важнай для іх інфармацыі. Жанчыны ж захапляюцца чытаннем, каб атрымаць эмоцыі.

# 125-годдзе Барыса Пастэрнака

**...Да 1917 года ён кідаўся паміж дэкадэнцкай эстэтыкай свайго музычнага настаўніка Скрабіна і строгасцю філасофіі неакантыянства, успрынятай ім у гады навучання ў Марбургу.**



У выніку давялося перамагчы і першае, і другое дзеля таго, каб паглыбіцца ў хаос уласных метафар ды інтанацый, ператвараючы яго ў асэнсаванае духоўна.

Рэвалюцыя і Грамадзянская вайна пераканалі Б. Пастэрнака ў тым, што прыгажосць далёка не заўсёды здольная ратаваць свет і што трэба набрацца цярпення, каб захаваць яе ў сабе.

Дваццатыя і трыццатыя гады ён напоўніў такой паэтычнай любоўю, што часам здаецца, быццам бы голад, калектывізацыя, індустрыялізацыя, рэпрэсіі адбываліся ў іншай краіне. Аднак рамантыка яго вершаваных цыклаў таго часу падмацаваная яскравымі рысамі эпохі настолькі, што хочацца вывучаць гэты перыяд па Пастэрнакаўскай лірыцы, а не па сумных і часта тэндэнцыйных падручніках.

У час вайны Б. Пастэрнак духоўна зліўся з народам і паклаў на алтар агульнай перамогі столькі, колькі мог.

У другой палове саракавых ён прыступіў да вельмі рызыкоўнай для прызнанага паэта задумы — вялікага эпічнага рамана. Прыступіў з усёй уласцівай яго дару сур'ёзнасцю і засяроджанасцю. У выніку выпакутаваны тэкст, яшчэ не апублікаваны, трапіў у жахлівую перароку, справакаваную асяроддзем паэта і нядбайнымі чыноўнікамі ад культуры часоў Хрушчова.

Але паэт быў вышэй нявартай валтузні. У яго жыцці і смерці, як і ў яго вершах, ідэальна спалучаюцца форма і змест.

Без Барыса Пастэрнака літаратурная карта свету пазбаўляецца цэлай краіны. Так і Масква без помніка яму часам выглядае занадта сіратліва. Шкада, што яго памяць не ўвекавечана гэтак жа, як памяць іншых рускіх нобелеўскіх лаўрэатаў: Буніна, Шолахава, Бродскага...

## ПРЭМІІ

### Прэмія імя Шаўчэнкі

Паводле інфармацыі, якая паступіла з Шаўчэнкаўскага камітэта, лаўрэатамі Нацыянальнай прэміі Украіны імя Тараса Шаўчэнкі сталі Юрый Бурак (за кнігу вершаў «Не мёртвае мора») і Косць Маскалец (за кнігу эсэ «Бліскавіцы»).



### Прэмія «Новага мира»

**У Культурным цэнтры Фонда «Новы свет» адбылося ўручэнне прэмій аднайменнага часопіса і прэміі «Antologia» за 2014 год.**

У гэтым годзе адно з найстарэйшых расійскамоўных штомесячных літаратурна-мастацкіх выданняў — часопіс «Новый мир» — адзначае сваё 90-годдзе. У розныя гады яго аўтарамі былі пісьменнікі, паэты, філосафы Уладзімір Дудзінцаў, Ілля Эрэнбург, Чынгіз Айтматаў, Васіль Быкаў, Віктар Астаф'еў, Іосіф Бродскі і многія іншыя.

Рэдакцыя «Нового мира» адзначыла прэміямі Паўла Нерлера — за артыкул «У адзінаццатым бараку. Апошнія адзінаццаць тыдняў Восіпа Мандэльштама», Мікалая Багамолава — за артыкул «Два савецкія Лермантавы», Алега Ермакова — за вандроўную кнігу «Вакол свету» і аповесць «Чаканшчык»; Аляксея Пурына — за паэтычную падборку «Лаўр і базілік».

Лаўрэатамі прэміі «Antologia» па выніках 2014 сталі Уладзімір Леановіч (1933–2014) за кнігу «Драўляная грамата»; Віталій Пуханаў за кнігу «Школа міласэрнасці»; Ната Сучкова за кнігу «Ход рэчаў». Адмысловымі дыпломамі прэміі ўзнагароджаны Алена Сунцова і Валерый Шубінскі.

# Барак Абама і кнігагандляры

**Барак Абама падтрымаў незалежных кнігагандляроў.**

У Дзень падтрымкі малога бізнэсу, які прайшоў у ЗША, прэзідэнт краіны выступіў з прамовай перад незалежнымі кнігагандлярамі і ў суправаджэнні дачок Маліі і Сашы наведаў «Politics & Prose» ў Вашынгтоне.

Пра візіт прэзідэнта загадзя нічога не было вядома, таму пакупнікі і ўладальнікі крамы былі шчыра здзіўлены праяўленай увазе і за 25 хвілінаў (менавіта столькі доўжыўся візіт прэзідэнта) паспелі задаць мноства цікавых пытанняў.

Зрэшты, зусім выпадковым візіт не назавеш: у мінулым годзе пасля Дня падзякі Абама таксама заходзіў у «Politics & Prose». Новая акцыя была закліканы прыцягнуць увагу грамадскасці да малога бізнэсу ЗША, а таксама павысіць продаж кніжнай прадукцыі ў незалежных кнігарнях.

Без пакупак Абама не пайшоў — у кнігарні ён выбраў 17 кніг.

Беларускім «Логвінавым» ды іншым незалежным кнігарнёшам аб падобным нават і не марыцца...

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў The Bookseller, BBC, РИА Новости, The Guardian, Associated Press, vsiknygy.net, prostoknіga.com.ua, novostiliteratury.ru, Gazeta.ua, lgz.ru і Newsru.ua.**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

TV

## 6 САКАВІКА, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.40** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.15** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.05** Тэлефільм АТН.
**11.00** 90 секунд.
**11.05** Камедыйны серыял «Дзявочнік» (Расія). 2-я серыя.
**12.00** Навіны.
**12.10** Дак.серыял «Сямейныя меладрамы-3».
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Ваенна-прыгодніцкі баявік «Начныя ластаўкі» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).
**16.00** 90 секунд.
**16.30** Дакументальны серыял «Сямейныя меладрамы-3» (Украіна).
**17.25** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**17.55** Нашы.
**18.10** Тэлефільм цыклу «Вялікі рэпартаж».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Камедыйны серыял «Дзявочнік» (Расія). 3. серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Нашы.
**21.55** Тэлефільм АТН.
**22.25** Крымінальная меладрама «Сяброўкі».
**00.10** Навіны.
**00.30** Дзень спорту.
**00.40** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.05** «Вучыцца жыць».
**14.35** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Насця». Мастацкі фільм.
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «КВЗ». Вышэйшая ліга.
**23.15** Што? Дзе? Калі?
**00.30** Вячэрні Мінск.
**01.30** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Фільм «Галоўнае - не баяцца!» (ЗША, 2010 г.).
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Фірмовая гісторыя». Серыял. Заключныя серыі.
**15.35** «Ежа багоў».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Вовачка 2». Камедыйны серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Дарагая перадача».
**18.40** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічны падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Міс Кангеніяльнасць» (ЗША - Аўстралія, 2000 г.).
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Тэрыторыя памылак».
**00.25** «Вялікая гульня». Покер.
**01.10** «Насланне». Серыял. Заключныя серыі.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2».
**10.10** Капейка ў капейку.
**10.45** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША). 1-я і 2-я серыі.
**12.35** Я хачу гэта ўбачыць.
**13.10** «Зразумець і абясшкодзіць». Аўтарскі праект.
**13.45** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**16.10** Вось дык так!
**16.45** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2».
**17.55** Камедыйны серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**19.00** Навукова-фантастычны баявік «Чужы-3» (ЗША, Вялікабрытанія).
**21.00** КЕНО.
**21.15** Тэлебарометр.
**21.20** Рэаліці-шоу «Хачу ў тэлевізар».
**21.55** «Экстрасэнсы вядуць расследаванне». Містычнае рэаліці-шоў (Расія).
**23.00** Рэпарцёр.
**23.45** Рамантычная камедыя «Вяселле лепшага сябра» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 24-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**09.00** «Хто смяецца апошнім». Сатырычная камедыя (СССР, 1954 г.).
**10.35** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**11.00** «Цені знікаюць апоўдні». Гістарычная драма. 6-я і 7-я серыі, закл. (СССР, 1971 г.).
**13.15** «Персона». Анастасія Мельнікава.
**13.35** Калейдаскоп.
**13.45** «Сіла веры».
**14.15** «Аўтограф». Ансамбль танца «Мішутка» Смаргонскага завода аптычнага станкабудавання.
**14.40** Мультфільмы.
**15.20** "Размаўляем па-беларуску".
**15.25** «Навукаманія». Медыцына XXI стагоддзя.
**15.50** «Гвааздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**16.20** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 24-я серыя (Вялікабрытанія, 1984–1986 гг.).
**17.10** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**17.40** «Пад акампанемент настрою». Канцэрт расійскага акцёра, музыканта і спевака Яўгена Дзятлава.
**19.30** Калейдаскоп.
**19.40** «Млечны шлях». Сямейная драма (СССР, 1989 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Тутсі». Камедыйная меладрама (ЗША).
**23.00** «Камертон». Галоўны рэжысёр Брэсцкага акадэмічнага тэатра драмы, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Аляксандр Козак.
**23.25** «Гарыкі і чалавекі». Жыццё і творчасць Ігара Губермана. Фільм першы. 3-я і 4-я серыі.
**00.20** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**04.05** Баскетбол. НБА. Чыкага - Аклахома Сіці. Прамая трансляцыя.
**06.15** PRO спорт. Навіны.
**07.15** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**08.10** Авертайм.
**08.40** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Чвэрцьфінал. Пяты матч.
**10.30** Хакей. КХЛ. Чвэрцьфінал Заходняй канферэнцыі. Пяты матч.
**12.25** Баскетбол. НБА. «Чыкага» - «Аклахома Сіці».
**14.20** Біятлон. Чэмпіянат свету. Змяшаная эстафета.
**15.50** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**16.20** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Відэачасопіс.
**16.50** Піт-стоп.
**17.20** Баскетбол. НБА. «Чыкага» - «Аклахома Сіці».
**19.10** Вольная барацьба. Гран-пры на прызы А.Мядзведзя.
**21.15** Змешаныя адзінаборствы. Fight Nights.
**23.50** Еўрапейскі покерны тур.
**00.40** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ TV

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Два на два (тэледыскусія).
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.25** Рэпартэр.
**10.45** Відзьмо-невідзьмо.
**11.10** «Жанчыны Гітлера», дак. фільм.
**12.05** «Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста», дак. фільм: ч. 3.
**12.50** Студыя «Белсат».
**13.20** Два на два (тэледыскусія).
**13.50** Студыя «Белсат».
**16.15** Рэпартэр.
**16.40** Відзьмо-невідзьмо.
**17.05** «Жанчыны Гітлера», дак. фільм.
**18.00** Чорным па белым.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Павел Ян Сапега.
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Студыя «Белсат»: Дэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У.Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.25** «Галадамор. Жывыя», дак. фільм.
**23.45** «Дом», серыял.
**01.05** Студыя «Белсат».

## 7 САКАВІКА, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.55** Існасць.
**07.20** Камедыя «Утаймаванне свавольных» (Расія).
**09.00** Навіны.
**09.10** Клуб рэдактараў.
**09.45** Кулінарная дыпламатыя.
**10.20** Камедыйны серыял «Трохі не ў сабе» (Расія).
**11.25** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**12.00** Навіны.
**12.10** Гісторыі рамонту.
**12.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**13.30** БеларусьLIFE.
**14.00** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.35** Меладрама «Зноў адзін на ўсіх» (Расія). 1-я - 4-я серыі.
**19.00** «Я магу!» Народнае шоу. Паўфінал.
**21.00** Панарама.
**21.40** «Я магу!» Народнае шоу. Падвядзенне вынікаў.
**21.50** Прэм'ера! Рамантычная камедыя «Жаночы дзень» (Расія).
**23.25** Камедыйны серыял «Трохі не ў сабе» (Расія).
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.25** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** «Бацькоў у школу!».
**13.40** «Тры плюс два». Мастацкі фільм.
**15.15** Насмяшы коміка.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Ералаш».
**16.45** «100 мільёнаў».
**18.15** «Я спяваю!».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Сёння вечарам.
**23.05** «Легенды Life». «ДДТ».
**23.50** «Артур Ньюман». Мастацкі фільм.

### СТВ

**05.35** Фільм «Міс Кангеніяльнасць» (ЗША - Аўстралія, 2000 г.).
**07.20** «Анфас».
**07.35** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**08.30** «Прыгоды дылетанта».
**09.00** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**10.00** «Іншая краіна».
**10.40** «Дарагая перадача».
**11.00** «Мінск і мінчане».
**11.35** Фільм «Тры плюс два» (СССР, 1963 г.).
**13.15** «Далёкія сваякі».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Нам і не снілася».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.35** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**18.15** СТБ прадстаўляе: вячэрні шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Міс Кангеніяльнасць-2: цудоўная і небяспечная» (ЗША - Аўстралія, 2005 г.).
**22.15** «Зорны рынг».
**23.30** «Дакументальны праект».
**00.20** Фільм «Тры плюс два» (СССР, 1963 г.).

### 2 БЕЛАРУСЬ

**06.55** Меладрама «ANглійская руская» (Расія).
**08.25** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**09.25** Навуковае шоу прафесара Адкрываш-кіна.
**09.50** Беларуская кухня.
**10.25** Тэлебарометр.
**10.30** Анімацыйны серыял «Пінгвіны з Мадагаскара» (ЗША).
**11.30** Капейка ў капейку.
**12.05** «Экстрасэнсы вядуць расследаванне». Містычнае рэаліці-шоў (Расія).
**13.15** Вось дык так!
**13.50** «Разбуральнікі міфаў». Пазнавальна-забаўляльная праграма (ЗША).
**14.55** Біятлон. Чэмпіянат свету. Спрынт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**16.35** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма Расія.
**17.40** Ікра.
**18.25** Біятлон. Чэмпіянат свету. Спрынт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**20.00** Ваша лато.
**20.30** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.40** Кіпень.
**21.00** Спортлато 6 з 49.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Тэлебарометр.
**21.15** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**21.50** Камедыйная меладрама «Д'ябал носіць» Prada «(ЗША).
**23.45** Навукова-фантастычны баявік «Чужы-3» (ЗША, Вялікабрытанія).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Млечны шлях». Сямейная драма (СССР, 1989 г.).
**09.15** «Выклікаем агонь на сябе». Ваенная драма. 1-я - 4-я серыі (СССР, 1964 г.).
**14.30** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**15.00** «Чараўнік Смарагдавага горада». Музычная казка (Расія, 1994 г.).
**16.05** «Навукаманія». Палімеры.
**16.35** Калейдаскоп.
**16.45** «Вакальны вечар». Васіль Герэла і Дзяржаўны рускі канцэртны аркестр С.-Пецярбурга.
**18.10** «Дыя@блог P.S.».
**18.35** «Саламяны капялюшык». Музычная камедыя. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1974 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Усмешка Моны Лізы». Драма (ЗША, 2003 г.).
**23.00** «Гарыкі і чалавекі». Жыццё і творчасць Ігара Губермана. Фільм першы. 5-я серыя. Фільм другі. 1-я і 2-я серыі, заключныя.
**00.20** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**06.35** Баскетбол. НБА. «Голдэн Стэйт» - «Далас». Прамая трансляцыя.
**08.45** PRO спорт. Навіны.
**09.15** Змешаныя адзінаборствы. Fight Nights.
**11.45** Піт-стоп.
**12.15** Вольная барацьба. Гран-пры на прызы А.Мядзведзя.
**14.15** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**14.40** Баскетбол. НБА. «Голдэн Стэйт» - «Далас».
**16.30** Авертайм. КХЛ.
**16.55** Хакей. КХЛ. Чвэрцьфінал Заходняй канферэнцыі. Шосты матч. Прамая трансляцыя.
**19.25** Спартыўная гімнастыка. Кубак свету. Далас. Прамая трансляцыя.
**22.25** Гандбол. SEHA-ліга. БГК ім. Мяшкова - «Татран».
**23.50** Вольная барацьба. Гран-пры на прызы А.Мядзведзя.
**01.55** Біятлон. Чэмпіянат свету. Спрынт. Жанчыны.
**03.35** Баскетбол. НБА. «Клііўленд» - «Фінікс». Прамая трансляцыя.
**05.45** Еўрапейскі покерны тур.

### БЕЛСАТ TV

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Павел Ян Сапега.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.55** Казкі для дзетак.
**11.40** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**12.35** Два на два (тэледыскусія).
**13.10** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**13.30** «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «Ветах».
**13.45** «Старыя Дарогі», рэпартаж.
**14.05** «Дом», серыял.
**15.25** «Галадамор. Жывыя», дак. фільм.
**16.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Павел Ян Сапега.
**16.55** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**17.20** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**17.40** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма). Погляд на падзеі тыдня вачыма журналістаў радыё «Свабода».
**18.15** «Час гонару», тэлесерыял.
**19.05** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**19.50** Мова нанова: «Кавярня».
**20.10** «Палігон», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**21.00** Студыя «Белсат».
**21.10** Форум (ток-шоў): Стабільнасць па-беларуску.
**21.50** «Мілаш Форман: Тое, што цябе не забівае...», дак. фільм.
**23.35** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**00.00** Зоры не спяць (культурніцкая праграма).
**00.25** Студыя «Белсат».
**00.45** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).

TV

## 8 САКАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 Беларусь

**07.35** Рамантычная камедыя «Жаночы дзень» (Расія).
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**10.15** Камедыйны серыял «Трохі не ў сабе» (Расія).
**11.20** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**14.45** Нашы.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.15** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**16.45** Выхад ёсць.
**17.20** Прэм'ера! Лірычная камедыя «Тата напракат» (Расія). 1-я - 4-я серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Камедыя «Утаймаванне свавольных» (Расія).
**00.05** Камедыйны серыял «Трохі не ў сабе» (Расія).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Вясна на Зарэчнай вуліцы». Мастацкі фільм.
**11.20** «Брэйн-рынг».
**12.40** «Чаго хочуць жанчыны».
**13.40** «Голас. Дзеці».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Першая сусветная».
**17.10** «Масква слязам не верыць». Мастацкі фільм.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Танцуй!».
**23.25** «Легенды» Рэтра FM».

### СТВ

**06.00** «Студэнты International». Серыял. Заключныя серыі.
**07.25** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.45** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.10** Фільм «Міс Кангеніяльнасць-2: цудоўная і небяспечная» (ЗША - Аўстралія, 2005 г.).
**10.15** «Чыстая праца».
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** «На 10 гадоў маладзейшы».
**12.10** Фільм «Трое ў лодцы, не лічачы сабакі» (СССР, 1979). 1-я серыя.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Добры дзень, доктар».
**14.15** Фільм «Трое ў лодцы, не лічачы сабакі» (СССР, 1979). 2-я серыя.
**15.35** «Далёкія сваякі».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**17.30** Фільм «Паненка-сялянка» (Расія, 1995).
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Анжаліка, маркіза анёлаў» (Францыя, 2013).
**22.40** «Дакументальны праект».
**00.25** Фільм «Трое ў лодцы, не лічачы сабакі» (СССР, 1979).

### 2 Беларусь

**06.55** Камедыя «Шукайце жанчыну» (СССР). 1-я і 2-я серыя.
**09.25** Вышэй за дах.
**10.00** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**10.40** «Зразумець і абясшкодзіць». Аўтарскі праект.
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Анімацыйны серыял «Пінгвіны з Мадагаскара» (ЗША).
**12.15** Я хачу гэта ўбачыць.
**12.55** Камедыйны серыял «Ландыш серабрысты» (Расія).
**14.35** Камедыйная меладрама «Д'ябал носіць» Prada «(ЗША).
**16.35** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма (Расія).
**17.55** Біятлон. Чэмпіянат свету. Гонка пераследу. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Кіпень.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.30** Рамантычная камедыя «Вяселле лепшага сябра» (ЗША).
**23.20** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**00.05** Меладрама «ANглійская руская» (Расія).

### 3 Беларусь

**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Саламяны капялюшык». Музычная камедыя. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1974 г.).
**10.20** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Артур Шуляк.
**11.00** «Размаўляем па-беларуску».
**11.05** «Наперад у мінулае».
**11.35** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.30** Калейдаскоп.
**12.40** «Тутсі». Камедыйная меладрама (ЗША, 1982 г.).
**14.35** «Дзеля жанчын, дзеля жанчын..». Міжнародны гала-канцэрт зорак аперэты.
**16.20** «Размаўляем па-беларуску».
**16.25** Калейдаскоп.
**16.35** «Трое ў лодцы, калі не лічыць сабаку». Музычная камедыя. 1-я серыя (СССР, 1979 г.).
**17.40** «Культпрасвет».
**18.15** «Трое ў лодцы, калі не лічыць сабаку». Музычная камедыя. 2-я серыя (СССР, 1979 г.).
**19.20** «Мы з джаза». Музычная камедыя (СССР, 1983 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** Да Дня жанчын. Святочны канцэрт. Выканаўцы: Маладзечанскі сімфанічны аркестр музычнага каледжа ім. М.Агінскага. Дырыжор - Р.Сарока.
**22.30** «Цёмны бок страсці». Драма (Аўстралія, ЗША, Вялікабрытанія, 2003 г.).
**00.20** Калейдаскоп.

### 5 Беларусь

**06.40** PRO спорт. Навіны.
**07.10** Гандбол. SEHA-ліга. БГК ім. Мяшкова - «Татран».
**08.35** Біятлон. Чэмпіянат свету. Спрынт. Мужчыны.
**10.00** Біятлон. Чэмпіянат свету. Спрынт. Жанчыны.
**11.35** Баскетбол. НБА. «Кліўленд» - «Фінікс».
**13.20** Хакей. КХЛ. Чвэрцьфінал Заходняй канферэнцыі. Шосты матч.
**15.10** Біятлон. Чэмпіянат свету. Гонка пераследу. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**16.05** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**16.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**16.55** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Паўфінал. Другі матч. Прамая трансляцыя.
**19.05** Баскетбол. НБА. «Кліўленд» - «Фінікс».
**20.55** Біятлон. Чэмпіянат свету. Гонка пераследу. Жанчыны.
**21.50** Біятлон. Чэмпіянат свету. Гонка пераследу. Мужчыны.
**22.35** Баскетбол. НБА. «Голдэн Стэйт» - «Кліпэрз». Прамая трансляцыя.
**00.45** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** Казкі для дзетак.
**08.30** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**09.05** «Палігон», дак. фільм.
**09.55** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**10.10** Два на два (тэледыскусія).
**10.40** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**11.10** Казкі для дзетак.
**11.50** «Тры шалёныя нулі», тэлесерыял.
**12.20** Мова нанова: «Кавярня».
**12.35** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**13.00** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**13.50** «Мілаш Форман: Тое, што цябе не забівае..», дак. фільм.
**15.30** «Анна Карэніна», драма.
**17.15** «Ранча», серыял.
**18.00** Форум (ток-шоу): Стабільнасць па-беларуску.
**18.40** «Час гонару», тэлесерыял.
**19.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма):Эмілія Плятэр.
**20.05** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** «Забароненыя галасы», дак. фільм.
**21.25** Кінаклуб: «Вайна ў акрузе Гарлан».
**21.35** «Вайна ў акрузе Гарлан», драма, 2000 г., ЗША.
**23.20** «Сукенка», дак. фільм.
**00.05** «Палігон», дак. фільм.
**00.50** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

# Ёгаізацыя знешняй палітыкі



Алег НОВІКАЎ

**Мала хто ведае, што не так даўно ў Ганконгу быў пабіты сусветны рэкорд па колькасці прыняцця асанаў (так называюць позы ёгі). Адзін 29-гадовы індус змог за фіксаваны час пасядзець у 1500 позах. Як адзначыў прысутны пры гэтым прадстаўнік рэдакцыі кнігі рэкордаў Гінэса, ніводны чалавек у гісторыі раней нічога падобнага ў такой колькасці разоў не рабіў.**

Паведамленні пра рэкорд у Ганконгу выклікалі рэзананс у нетрах індыйскай вертыкалі. З дапамогай Twitter індыйскія міністры віншавалі адзін аднаго, а таксама і ўсю нацыю з гістарычным прарывам.

Справа ў тым, што ёзе ў праграме новага індыйскага кабінета, які, як вядома, фармуюць нацыяналісты з партыі «Бхаратыя джаната парты» (BJP), адводзіцца асобнае месца. Ёга і народная медыцына, на думку кіраўніка ўраду Нарэндры Модзі (Narendra Modi), павінны стаць soft power (мяккая сіла) па прасоўванні моды на Індыю па ўсёй планеце.

Модзі хоча палітызаваць дасюль нейтральную ёгу. Як вядома, ёга — гэта частка больш комплекснай школы ў індуізме, на прынцыпах якога заснавана праграма «Бхаратыя джаната парты». Іншымі словамі — назваўся аматарам ёгі, калі ласка, падтрымай індыйскі ўрад.

Калі задачу рэалізаваць хоць у мінімальных памерах, карысць можа быць каласальнай. Па-першае, ёга — сапраўды вельмі папулярная практыка ў свеце. Напрыклад, у ЗША заняткі па ёзе наведваюць каля 20 мільёнаў чалавек. Акрамя таго, ёга — гэта, як правіла, занятак для сярэдняга класа, які фармуе павестку дня ў заходнім грамадстве і ўплывае на рашэнні нацыянальных урадаў. Не кажучы пра тое, што цэнтры, якія займаюцца папулярызацыяй Індыі ў замежжы, могуць атрымаць фінансавы допінг. Паводле падлікаў індыйскіх чыноўнікаў, на рынку заняткаў ёгай у тых жа ЗША верціцца каля 2 мільярдаў долараў штогод.

**Нацыяналісты носяцца з ідэяй, што традыцыйныя індыйскія формы медыцыны былі ахвярамі вестэрнізацыі Індыі ў каланіяльныя часы**

Для рэалізацыі мегазадачы адразу пасля перамогі на парламенцкіх выбарах Модзі стварыў адпаведны дэпартамент — Міністэрства ёгі (дарэчы, гэтае міністэрства створанае на базе былога Міністэрства здароўя). Міністэрства ўзначаліў Шрыпад Ёсо Наік (Shripad Yesso Naik), які да таго, як стаў міністрам, быў дэпутатам ад Гоа. Падчас працэдуры прызначэння прэм'ер натхніў новага чыноўніка наступнымі словамі: «Ёга — гэта наша спадчына, якой мы не надавалі патрэбнай увагі. Трэба несці яе ў масы».

Чым непасрэдна займаецца новая структура, і ці ёсць у яе практычныя вынікі, акрамя апошняга рэкорду ў Ганконгу? Ёсць. Па-першае, створаны праобраз сусветнага цэнтру падрыхтоўкі трэнераў ёгі. Па-другое, Індыя дабілася таго, каб 21 чэрвеня стаў адзначацца ў свеце як Сусветны дзень ёгі. У верасні мінулага года Модзі агучыў адпаведную ідэю з трыбуны ААН. Дарэчы, у той прамове індыйскі прэм'ер заявіў, што папулярызацыя ёгі ў свеце нейкім чынам дапаможа барацьбе супраць кліматычных зменаў. Заклік Індыі адразу падтрымалі ЗША, Непал, Бутан і Канада. У снежні да пулу згаданых краін далучыліся іншыя краіны — сябры ААН, і рэзалюцыя пра Сусветны дзень ёгі была прынятая практычна аднагалосна.

Аднак за гэты час з'явіліся ў кампаніі прапаганды ёгі і свае крытыкі. Гэта армія медыкаў, якіх падтрымлівае апазіцыя з партыі «Індыйскі нацыянальны кангрэс». На іх думку, галоўная задача нацыяналістаў — не ёга, а рэакцыйная рэформа рынку фармацэўтычных паслуг. Адной з задачаў ведамства AYUSH — абрэвіятура новага міністэрства, якая расшыфроўваецца як «Міністэрства аюверды, ёгі, унані, сідха і гамеапатыі», сапраўды ёсць стандартызацыя лекаў.

Рэформа, якую задумаў Модзі, як лічаць яго апаненты, нясе кепскія наступствы для індыйскай публічнай медычнай сістэмы. Нацыяналісты носяцца з ідэяй, што традыцыйныя індыйскія формы медыцыны былі ахвярамі вестэрнізацыі Індыі ў каланіяльныя часы. Пры гэтым, аднак, апускаецца той факт, што ўжыванне прэпаратаў гэтай медыцыны можа мець адмоўны ўплыў на арганізм. Так, некаторыя медыкі кажуць, што ў леках можна знайсці таксічныя элементы, такія, як ртуць або мыш'як. Каб знішчыць таксічнасць у леках, патрэбны гады эксперыментаў і даследаванняў, а не адміністратыўны прымус.

Звяртаецца ўвага, што суседні Кітай праводзіць палітыку мадэрнізацыі народнай медыцыны з 1949 года, і дасюль яна інтэграваная ў мадэль санітарна-медычнай дапамогі толькі фрагментарна. Яшчэ сёння даследуецца эфект уплыву на арганізм, псіхіку чалавека шматлікіх траваў. Іншымі словамі, валюнтарыстычныя і непрафесійныя падыходы нацыяналістаў нясуць вялікія рызыкі.

Амерыканскі часопіс «Nature» цытуе аднаго са знаўцаў індыйскай традыцыйнай медыцыны, які кажа: «Традыцыйныя сістэмы і да перамогі нацыяналістаў актыўна вывучаліся і вывучаюцца ў Індыі, і некаторыя з іх заслугоўваюць увагі. Даследаванні сведчаць пра тое, што некаторыя раслінныя лекі, зробленыя паводле традыцыйных рэцэптаў, могуць быць эфектыўнымі пры некаторых хваробах. Мае карысць для здароўя і ёга. Аднак гэтым даследаванням яшчэ трэба прайсці доўгі шлях, каб дасягнуць прызнання ў якасці навуковых дысцыплін з правераным паслужным спісам. На цяперашні дзень якасных аналізаў традыцыйных індыйскіх лекаў і практык яшчэ не дастаткова».

Сапраўды, індыйскі ўрад толькі ўвосень выдзеліў 100 мільёнаў еўра на даследаванне ў гэтай сферы. Нават супрацоўнікі AYUSH не каментуюць іх вынікі. Ад іх, хутчэй за ўсё, і будзе залежаць у тым ліку цяперашні незвычайны эксперымент па «ёгаізацыі» знешняй палітыкі Індыі.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Чаму спрактыкаваныя заходнія палітыкі трымцяць перад, на іх думку, магутным і бесцырымонным Пуціным, а Лукашэнка, былы дырэктар саўгаса, яго перайграе? Цяперашні прэзідэнт Расіі ў адным са сваіх першых інтэрв'ю, якое ён даў шмат гадоў таму, распавёў, што быў у юнацтве «дваровым хуліганам». Па яго сённяшніх паводзінах відаць, што гэта праўда. А Лукашэнка шмат гадоў кіраваў не калгасам, як кажуць у Польшчы, а саўгасам. Розніца тут ёсць: калгас — гэта калектыўная гаспадарка, у якой кіраўнік вымушаны ў нейкай ступені лічыцца з меркаваннем яго чальцоў. А саўгасам звычайна жорстка і аднаасобна кіраваў дырэктар. Яму прыходзілася самастойна спраўляцца з п'янымі трактарыстамі. Лукашэнка здаралася нават намяць бакі падначаленым. Ён ведае, што хуліган моцны і дзёрзкі, пакуль не сустрэнецца з кімсьці, хто яго не баіцца і хто не стане з ім цырымоніцца. Дараваць і апраўдваць «апошняга дыктатара Еўропы» нельга, аднак варта ў яго таму-сяму павучыцца.

**«Gazeta Wyborcza» (Польшча)**

У гэты ўдалы момант на сцэне зноў з'явіўся беларускі Бацька, выступіўшы нават некалькі раней, чым была агучана ініцыятыва з нагоды ўвядзення міратворцаў у Данбас. І тут жа, як водзіцца, зрабіў рэверанс у бок Масквы. Паводле яго слоў, «калі кагосьці напружвае зброя, якой валодаюць вайскоўцы Украіны, акружаныя ў Дэбальцава, то мы гатовыя прыняць на тэрыторыі Беларусі гэтую зброю». Гэта значыць, Аляксандр Рыгоравіч не толькі актыўна выкарыстоўвае ўкраінскі крызіс для сваёй легітымацыі на Захадзе, але і гатовы пры выпадку з яго дапамогай дадаткова ўзброіцца. Ну, а цяпер, калі беларусаў запросяць паўдзельнічаць і ў «інтэрнацыянальных сілах» на Украіне, Лукашэнка атрымае яшчэ пару балаў.

**«Росбалт» (Расія)**

Традыцыйная праблема Расіі палягае ў няздольнасці працаваць на апярэджанне, і ў тым ліку рыхтаваць прарасійскую эліту. Гэта выразна дэманструе сітуацыя з Украінай і Беларуссю. З апошняй гэта нават больш прыкметна. Лукашэнка «кідаў» і «кідае» свайго расійскага саюзніка. Так было ў 2008 годзе падчас вайны з Грузіяй, так і ў час цяперашняга ўкраінскага крызісу.

**«Вести» (Азербайджан)**

Лукашэнка лепш за нас з вамі падкаваны і дасведчаны ў пытанні — ці могуць наступнымі пасля Украіны пад ударам «рускай вясны» апынуцца іншыя бліжэйшыя да Расіі краіны былога Савецкага Саюза? Ці можа наступнай краінай стаць Беларусь? Ён заявіў, што ўрокі Украіны заключаюцца ў тым, што трэба ўмацоўваць свае войска. А ўчора ён сказаў, што гатовы да супрацоўніцтва з NATO на раўнапраўнай аснове. Я ўяўляю, як Лукашэнка ненавідзяць у Крамлі. Яго 20 гадоў спрабуюць зацягнуць у Расійскую Федэрацыю ў якасці 5–6-ці рэгіёнаў, а ён адчайна супраціўляецца. Бачыце, які расклад. Казахстан абаронены Кітаем. Прыбалтыйскія краіны хоць неяк — NATO. Толькі Бацька і застаецца нікім не абаронены. Сцэнар кшталту «рускай вясны» ў Беларусі рэальны. Асабліва, улічваючы, што гэта год выбараў, трэба зладзіць там якую-небудзь правакацыю аж да ліквідацыі.

**«Новое время» (Украіна)**

Неабходна прызнаць, што ў існуючых сёння ўмовах у беларускага кіраўніцтва, калі яно сапраўды разлічвае выкарыстоўваць знешнепалітычныя абставіны для захавання стабільнасці ўнутры краіны, выбар паводзін невялікі: альбо паспрабаваць згуляць на расійска-еўрапейскіх супярэчнасцях і ўкраінскім крызісе, атрымаўшы ад гэтага неабходныя выгады, альбо раскансерваваць свае старыя міжнародныя сувязі і засярodзіцца на выцягванні з іх максімальнага эканамічнага эфекту. Аднак у любым выпадку, хочацца гэта беларусам ці не, знешняя палітыка дзяржавы зараз будзе мець дастаткова сур'ёзны ўплыў на ўнутраную, а не наадварот, як гэта было ў ранейшыя гады.

**«REGNUM» (Расія)**

Адносна Беларусі — ёсць пункт гледжання, што падзеі апошняга года зрабілі афіцыйны Мінск прыкметна бліжэй да Захаду... Не трэба занадта захапляцца! Лукашэнка далёка не дурны, у адрозненне ад масы людзей, якія пра яго пішуць. А значыць, ён выдатна разумее, што калі ён апынецца адзін на адзін з Захадам, то будзе ў вялікай залежнасці ад яго. І, значыць, доўга ён не працягне. Таму гэта ўсё гульні, якімі ён можа палохаць Пуціна, выгандлёўваць сабе нейкія дадатковыя перавагі. Але тое, што ён не мае будучыні як еўрапейскі палітык, гэта зразумела ўсім. І яму ў тым ліку.

**«Власть» (Казахстан)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЧЫЛІ. Альендэ быў гатовы аддаць частку краіны

Урад Балівіі сцвярджае, што чылійскі прэзідэнт Сальвадор Альендэ — ахвяра перавароту 1973 года, быў не супраць вярнуць балівійцам частку зямлі, што чылійцы захапілі ў выніку Ціхаакіянскай вайны (1879–1883). Міністэрства інфармацыі Балівіі апублікавала некалькі фрагментаў не вядомага раней інтэрв'ю Альендэ чылійскаму часопісу «El Mercurio», у якім прэзідэнт кажа, што «Балівія павінна аднавіць суверэнітэт над ціхаакіянскім узбярэжжам». Акрамя таго ў тым жа інтэрв'ю кіраўнік ураду народнага адзінства кажа: «Чылі мае векавую запазычанасць перад Балівіяй, і цяпер мы вядзем перамовы пра пошук гістарычнага рашэння». У Чылі вельмі рэзка адрэагавалі на згаданыя вышэй публікацыі. Чылійцы баяцца, што падобныя заявы ў СМІ могуць паўплываць на вынікі разгляду міжнародным судом у Гаазе іску Балівіі, якая патрабуе вяртання страчаных земляў. Частка чылійскіх гісторыкаў у адказ на публікацыі ў Балівіі кажа, што Альендэ, пры ўсім яго адмоўным стаўленні да палітыкі папярэдніх лідараў Чылі, ніколі не дапускаў перадачы чылійскіх зямель. Максімум — гаворка магла ісці пра тое, каб надаць Балівіі вольны выхад да Ціхага акіяну.

**Паводле кубінскай прэсы**

### АЗЕРБАЙДЖАН. Баку хоча быць горадам-героем

На пасяджэнні азербайджанскага парламенту 24 лютага прапанавалі надаць Баку статус горада-героя. Горад-герой — званне, якое атрымалі дванаццаць гарадоў СССР, што праславіліся сваёй геранічнай абаронай падчас Вялікай Айчыннай вайны. Увогуле, сталіца АзССР падчас вайны знаходзілася дастаткова далёка ад фронту, аднак, на думку парламентарыяў, гэта не галоўнае. Адмаўляць ролю бакінскай нафты для фронту немагчыма. Па словах аднаго з дэпутатаў, Баку мусіў атрымаць ганаровы статус напрыканцы 1980-х гадоў, аднак Гарбачоў, быццам, асабіста выступіў супраць, паколькі сімпатызаваў армянам у Карабахскім канфлікце. Адзіная праблема ў тым, што, паколькі пераемнікам СССР з'яўляецца Расія, то выключна расійскае кіраўніцтва можа прыняць рашэнне адносна прысваення звання «горад-герой». Спікер парламенту заявіў, што ўжо размаўляў на гэты конт з Сяргеем Наршкіным, калегай з Дзяржаўнай Думы, і той, быццам, абяцае ўзняць гэта пытанне перад Пуціным.

**Паводле азербайджанскай прэсы**

### ТУРЦЫЯ. Скандал вакол магілы заснавальніка дынастыі Асманаў

22 лютага турэцкія ваенныя ў складзе 700 вайскоўцаў і 40 танкаў правялі незвычайную аперацыю — перавезлі парэшткі Сулеймана — пачынальніка дынастыі Асманаў. Сулейман патануў пры пераправе праз раку Еўфрат і быў пахаваны на тэрыторыі цяперашняй Сірыі. Пасля краху Асманскай імперыі і стварэння Турэцкай Рэспублікі туркі дабіліся таго, каб магіла была абвешчаная турэцкай тэрыторыяй і над ёй быў узняты турэцкі сцяг. Пасля гэтага амаль сто гадоў ніхто тую магілу не турбаваў. Пакуль не так даўно ў рэгіён не прыйшлі жаўнеры «Ісламскай дзяржавы». Перажываючы за парэшткі Сулеймана, Анкара і правяла незвычайную аперацыю па эвакуацыі магілы. Цяпер магіла будзе знаходзіцца ў памежнай зоне. Між тым, і апазіцыйная прэса, і апазіцыянеры рэзка раскрытыкавалі аперацыю ўлады. Так, дэпутат ад галоўнай апазіцыйнай Народна-рэспубліканскай партыі Турцыі заявіў, што з часоў стварэння Турэцкай рэспублікі краіна ўпершыню страціла тэрыторыю. Апазіцыя таксама заклікала цяперашні кабінет пайсці ў адстаўку з гэтай прычыны.

**Паводле азербайджанскай прэсы**

### УКРАІНА. Януковіч планаваў перанос сталіцы ў Запарожжа

У лютым мінулага года Віктар Януковіч, калі збег з Кіева, павінен быў узначаліць супраціў у Харкаве, а сталіцу Украіны маглі перанесці ў Запарожжа. Пра гэта згадаў былы прэм'ер-міністр Украіны Мікалай Азараў. «Нам трэба было падумаць і прыняць рашэнне аб пераводзе сталіцы з Кіева ў Запарожжа. Гэта не выпадковая ідэя. Прыехаўшы ў Харкаў, я спадзяваўся, што Януковіч, як легітымны прэзідэнт, узначаліць тут рух супраціву той хунце, якая ўзяла ўладу ў Кіеве. Яму трэба было проста пазначыць сябе як легітымнага прэзідэнта», — сказаў Азараў. Нагадаем, што сам Януковіч заяўляў, што прычынай адмовы ад удзелу ў барацьбе была пагроза смерці. Так ці інакш, у Запарожжа сталіцу так і не перанеслі. Цікава, што на запарожскіх форумах інфармацыя пра праект пераносу сталіцы не выклікала вялікага расчаравання. Запарожцы лічаць, што ў такім выпадку горад мог трапіць цэнтр у вайсковых дзеяннях.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

# Пікейныя камізэлькі вяртаюцца ў моду

**У Адэсе ідзе збор подпісаў за наданне гораду статусу порта-франка (вольны порт), у Вярхоўную Раду пададзены адпаведны законапраект, праводзяцца экспертныя сустрэчы. Пра перспектыву ператварэння Адэсы ў вольны горад Алегу Новікаву распавядае Вячаслаў Азараў, старшыня партыі «Саюз анархістаў Украіны», экс-кандыдат у мэры Адэсы.**



***— Порта-франка — гэта свабодная эканамічная зона (СЭЗ), але, мяркуючы па публікацыях у прэсе, відавочна, што адэсіты ўкладаюць у гэты праект нешта большае. Ці можна лічыць, што праз заклікі да стварэння порта-франка адэсіты маюць на ўвазе лозунгі за культурную і адміністрацыйную аўтаномію Адэсы?***

— Зразумела, для карэннага адэсіта, чалавека, прасякнутага адэскім духам, порта-франка — гэта не проста свабодная эканамічная зона — гэта паняцце даўно трансфармавалася ў ідэю «вольнага горада». Як вядома, у 1819–1879 гадах Адэса ўжо валодала статусам порта-франка. Менавіта дзякуючы такому статусу адбылося імклівае развіццё нашага краю, а сама Адэса стала галоўным гандлёва-прамысловым цэнтрам Поўдня і трэцім па велічыні горадам імперыі пасля Пецярбурга і Масквы. У той перыяд і склаліся інтэрнацыянальны культурны асяродак і адмысловы адэскі менталітэт, адбыўся рост самасвядомасці гараджан, з-за чаго той час дасюль лічыцца «залатым стагоддзем» нашай гісторыі. І гарадская абшчына нязменна вяртаецца да гэтай ідэі ў перыяды эканамічнага і палітычнага крызісу як да лепшага, апрабаванага спосабу адраджэння горада і краю.

***— А можа, гэта проста даніна памяці землякам — Ільфу і Пятрову, якія зрабілі тэму порта-франка часткай адэскага брэнда?***

— Што тычыцца Ільфа і Пятрова з іх «пікейнымі камізэлькамі», якія разважаюць пра порта-франка ў Чарнаморску, то гумар у Адэсе нясе не толькі сатырычную нагрузку. Ён таксама дазваляе ў жартаўлівай форме адлюстраваць рэальныя надзеі гараджан. Для адэсітаў эпохі правядзення НЭПа, які быў заклікані аднавіць эканоміку пасля грамадзянскай вайны, гэтыя ідэі былі цалкам актуальныя.

Той жа праект усплыў у гарадскім дыскурсе на пачатку прыходу палітычных свабодаў перыяду Перабудовы. Але ні пры манаполіі кампартыі канца СССР, ні пры наступным існаванні постсавецкага аскепка — Рэспублікі Украіна — гэтай ідэі не дадзена было рэалізавацца па прычыне цэнтралізаванасці дзяржавы. Калі ў СССР краінай

**Напрыканцы 1917 года ўрад Украінскай Народнай Рэспублікі ініцыяваў вяртанне Адэсе статусу порта-франка, каб выключыць наш горад з канфлікту з РСФСР. Так што пасля мінскіх пагадненняў, я магу дапускаць поспех у рэалізацыі ідэі порта-франка**

кіравалі дзясятак вярхоўных бюракратаў, то ва Украіне іх змяніла кіраванне дзясятку алігархаў, якім у абодвух выпадках патрэбна жорстка унітарная сістэма эксплуатацыі рэгіёнаў.

***— Наколькі тэхнічна мадэль порта-франка можа быць рэалізаваная, тым больш у межах вобласці, як тое прапаноўваюць аўтары законапраекту, пададзенага на разгляд у Вярхоўную Раду?***

— Рэалізацыя порта-франка ў межах вобласці выглядае малаверагоднай. Спецыялісты ўжо выказалі заўвагі, што СЭЗ працуе толькі пры строгім мытным кантролі. Інакш, гэта проста дзірка ў мяжы. А ў маштабах вобласці ажыццявіць падобны кантроль сёння нельга. Іншае пытанне — горад. Вопыт Адэсы, Батумі і Уладзівастока XIX стагоддзя кажа, што такая мадэль у рамках горада з'яўляецца працоўнай. Галоўнае — адаптаваць яе да сучасных рэалій. Вялікую ролю тут адыгрывае і палітычная сітуацыя ў краіне. Напрыклад, у канцы 1917 года ўрад Украінскай Народнай Рэспублікі ініцыяваў вяртанне Адэсе статусу порта-франка, каб выключыць наш горад з канфлікту з РСФСР. Так што пасля мінскіх пагадненняў з іх адміністрацыйнай рэформай Украіны, я магу дапускаць поспех у рэалізацыі ідэі порта-франка. Але для гэтага патрэбен будзе іншы законапраект.

***— Асноўнымі лабістамі ідэі порта-франка з'яўляюцца палітыкі з былых рэгіяналаў, блізкія да партыі «Апазіцыйны блок» (АБ). Няма ўражання, што гэта фрагмент падрыхтоўкі да мясцовых выбараў, пасля чаго Рабіновіч, Скорык (лідары АБ) забудуць пра порта-франка?***

— Прадстаўнікі АБ, сапраўды, зараз раскруцілі гэтую тэму, валодаючы палітычным і медыйным рэсурсам. Аднак ідэя порта-франка пастаянна ўсплывала і раней. Вядома, ва ўзняцці тэмы порта-франка дэпутатамі са старых рэгіянальных элітаў, якія знаходзяцца зараз у апазіцыі, можна падазраваць спробу лакальнага рэваншу. І вы маеце рацыю, у Адэсе гэта вельмі добры піяр напярэдадні выбараў. Але ў нас у краіне так павялося, што пытанні самакіравання падымаюць менавіта прадстаўнікі апазіцыі, бо ўладу цалкам задавальняе цэнтралізаваны дыктат.

***— Як ставяцца да праекту порта-франка ўкраінскія нацыяналісты?***

— Наколькі мне вядома, украінскія нацыяналісты негатыўна ставяцца да любых ідэяў рэальнага самакіравання ва ўнітарнай дзяржаве. Нягледзячы на тое, што наш унітарызм — гэта рудымент савецкай таталітарнай дзяржаўнасці. І нярэдкія выпадкі, што ў нацыяналізме знайшлі прытулак перафарбаваныя камуністы — пенсіянеры і былыя камсамольцы. Альбо гэта малады прадукт унітарнай сістэмы адукацыі, якая фактычна вярнулася да савецкіх установак уніфікацыі, нівелявання мясцовых асаблівасцяў. Супраць порта-франка таксама выступаюць прышлыя элементы нашага горада, абыякавыя да адэскай самабытнасці.

***— У мінскіх пагадненнях прысутнічае пункт аб дэцэнтралізацыі. Як адэскі палітыкум бачыць новы дзяржаўны лад краіны? На ваш погляд — ці пойдзе Кіеў на такую рэформу?***

— Меркаванні адэскага палітыкуму наконт гэтага пытання падзяліліся. Асабіста для мяне не важна, як назваць працэс перадачы паўнамоцтваў на месцы — «дэцэнтралізацыяй», «федэралізацыяй» ці яшчэ як-небудзь. Важны рэальны ўзровень самакіравання, які гэтая рэформа нясе рэгіёнам і грамадам. Чым гэты ўзровень вышэй, чым рэформа лепшая, незалежна ад яе назвы. І ў такім кантэксце, праект «порта-франка» ў Адэсе можа стаць адным з яркіх практычных рашэнняў адміністрацыйнай рэформы.

# Не хочам мы гэтага «Оскара»

Алег НОВІКАЎ

**Кансерватары і правыя радыкалы Польшчы незадаволеныя тым, што польскі фільм стаў лаўрэатам амерыканскай кінаакадэміі.**



Не тое, што «Оскар», а нават намінацыя стужкі на кінапрэмію часта становяцца прадметам гонару ўсіх жыхароў краіны, дзе той фільм быў зроблены. А вось Польшча тут — выключэнне. Навіна пра тое, што польскі рэжысёр Павал Палікоўскі атрымаў залатую статуэтку ў Галівудзе ў намінацыі «Лепшы неангламоўны фільм», частцы грамадства вельмі не спадабалася. Гутарка пра прыхільнікаў мясцовых правых і кансерватыўных партый, якія называюць прадукт Палікоўскага не інакш як «антыпольскі», «супярэчлівы» і г.д.

«Хаця факт атрымання «Оскара» для «Іды» выклікаў захапленне сярод элітаў Трэцяй Рэчы Паспалітай — мы павінны заявіць гучна: мы не хочам гэтага «Оскара». Калі мы пагодзімся з гэтым фільмам, то нам давядзецца заплаціць вельмі высокую цану», — піша кансерватыўны партал «Polonia Christiana».

У чым прычына такой рэакцыі? Падзеі на экране адбываюцца ў Польшчы 1960-х гадоў. Ганна, маладая паслушніца каталіцкага манастыра, перад тым, як прыняць зарок, па парадзе ігуменні едзе ў госці да сваёй цёткі Ванды, якая працуе пракурорам. Ванда паведамляе, што сапраўднае імя Ганны — Іда Лебенштэйн, і што яе габрэйскія бацькі былі забіты падчас вайны, прычым палякамі. Іда вырашае знайсці магілы бацькоў. Падарожжа на магілкі ператвараецца для Іды і Ванды ў пошук адказаў на шэраг экзістэнцыяльных пытанняў.

Цікава, што фільм мае выразна антыкамуністычны падтэкст. Сацыялістычная Польшча малюецца як край, дзе насельніцтва цалкам адчужана ад адміністрацыі. Аднак антыкамуністычны прысмак не рэабілітаваў стужку ў вачах правых. Перш за ўсё таму, што Ванда — у фільме дастаткова супярэчлівая і часам нават атрактыўная асоба, паколькі нестандартна думае. У дадатак Ванда мае рэальнага прататыпа — Хелену Валіньскую (Helena Wolińska), якая ў свой час працавала ў пракуратуры і была звязаная з расправамі над байцамі антысталінскага падполля. У 1998 годзе Варшава нават дамагалася яе выдачы з Вялікабрытаніі, куды яна з'ехала ў 1968-м падчас антысеміцкай кампаніі ў сацыялістычнай Польшчы.

Падобная неадназначная інтэрпрэтацыя вобразу сталіністкі — не адзіны папрок карціне. Кансерватары лічаць што аўтары «Іды» нанеслі ўдар па рэпутацыі палякаў у свеце, паколькі замацавалі негатыўныя антыпольскія забабоны. Падставай для такых заяваў стаў выступ рэжысёра «Іды» на галівудскай сцэне пасля ўручэння ўзнагароды. Выказваючы падзяку, Палікоўскі прызнаўся, што яго каманда на гэты час «ужо цалкам п'яная». «Мы прывыклі абурацца, калі немцы кажуць: «У цябе скралі аўтамабіль — едзь да Польшчы, тваё аўто ўжо там». Нам не падабаюцца анекдоты пра лянівых палякаў. Аднак Палікоўскі дапамог яшчэ больш кансалідаваць антыпольскія забабоны», — піша выданне «Prawa».

Больш таго, на старонках правых СМІ раскрытая глабальная змова з удзелам Палікоўскага, і нават не адна. Практычна ўсе канспіролагі пачынаюць свае расследаванні з канстатацыі факта пра тое, што «Іда» была дастаткова абыякава ўспрынятая польскай аўдыторыяй (за ўвесь час пракату ў Польшчы карціну паглядзелі каля ста тысяч чалавек). Касавы правал, аднак, чамусьці не паўплываў на оскараўскія шансы фільма. Гэтая акалічнасць падаецца правым вельмі падазронай і дае нагоду казаць, што ніякай мастацкай каштоўнасці фільм не мае, а нехта наўмысна лабіраваў стужку ў калідорах кінаакадэміі.

Хто і нашто? Тут шмат версій. Натуральна, хапае вар'ятаў, якія зноў шукаюць адказы на ўсе выклікі на старонках «Пратаколаў сіёнскіх мудрацоў».

На думку некаторых, сцэнар і бюджэт «Іды» быў зацверджаны ў Берліне. Галоўная задача тэўтонаў-спонсараў Паўлікоўскага была ў тым, каб перакласці адказнасць за Халакост з немцаў на палякаў. Як піша «Prawa»: «Польшча ў «Ідзе» не выглядае краінай, якая стала ахвярай вайны, дзе немцы забілі мільёны людзей, там, дзе пабудаваная на руінах дзяржава намагаецца неяк адрадзіцца. Гэта нейкі штучны свет, які жыве ад аднаго яўрэйскага пагрому да наступнага».

Іншыя лічаць, што палякі — не галоўная мішэнь тых, хто замаўляў гэты «пасквіль». Быццам, на самай справе задума аўтараў «Іды» ў тым, каб праз палякаў — адну з самых каталіцкіх нацый у свеце — дыскрэдытаваць Ватыкан. «Polonia Christiana» заяўляе: «Іда пазбаўляе палякаў першаснага іміджу абаронцаў хрысціянскай цывілізацыі, замест гэтага выстаўляючы іх у ролі падпольных забойцаў».

Яшчэ адна версія — трыумф «Іды» праз свае каналы забяспечыў Пуцін. Як вядома, сярод намінантаў у катэгорыі «Лепшы замежны фільм» быў «Левіяфан» Звягінцава, які, на думку шмат каго, цудоўна дэманструе карумпаваную і антыгуманістычную прыроду пуцінізму. Атрымай Андрэй Звягінцаў залатую статуэтку за «Левіяфана», інтарэс да Расіі і, як следства, да яе ролі ва ўкраінскім крызісе на Захадзе дакладна б вырас. Маўляў, такі ход падзей супярэчыць намерам Масквы.

Натуральна, кансерватыўны лагер не абмяжоўваецца сеансамі канспіралогіі і таксама патрабуе нейкіх мераў супраць «Іды». «Reduta Dobrego Imienia» — адна з каталіцкіх арганізацый, запусціла ў інтэрнэт петыцыю на адрас Польскага інстытута мастацтва кінематаграфіі (PISF) (установа, што адказвае таксама і за кінапракат). Ініцыятары кампаніі прапануюць дырэкцыі PISF уставіць у стужку на пачатку або напрыканцы дадатковы блок, у якім гледачам прапануюць растлумачыць з патрыятычнай кропкі гледжання гістарычны кантэкст карціны. Найбольш радыкальныя сайты ўвогуле заклікаюць судзіць рэжысёра «народным судом» і байкатаваць карціну ў кінатэатрах.

Нягледзячы на маштаб кампаніі супраць «Іды», не думаецца, што польскае грамадства стане ахвярай ксенафобіі і канспіралогіі. Па-першае, трактаваць змест «Іды» можна па-рознаму. Так, левая прэса піша, што фільм можна разглядаць у тым ліку як перамогу каталіцызму — яўрэйка сыходзіць у касцёл. Той факт, што перакананая сталіністка Ванда перажывае ўнутраны крызіс, хутчэй сведчыць пра тое, што сталінізм пацярпеў гістарычную паразу ў Польшчы.

У гэтым плане большасць каментатараў згодная, што медыйны псіхоз вакол «Іды» — частка прэзідэнцкай кампаніі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Віктар Орбан



Падаецца, 22 лютага эра прэм'ера Орбана ў венгерскай гісторыі скончылася. У краіне адбыўся сапраўдны палітычны землятрус пасля таго, як сталі вядомыя вынікі пазачарговых выбараў дэпутата парламенту ў горадзе Веспрэм (Veszprém). Выбары давялося праводзіць датэрмінова з-за таго, што мясцовы дэпутат стаў працаваць у апараце Еўракамісіі. Так ці інакш, у горадзе, які раней 20 год запар быў электаральным бастыёнам ліберал-кансерватыўнай партыі «Fidesz», нечакана перамог кандыдат ад сацыялістаў, якія знаходзяцца ў апазіцыі. Нягледзячы на падтрымку СМІ, якія, як правіла, належаць праўладнаму бізнесу, сацыяліст атрымаў 43 працэнты, а яго праціўнік з «Fidesz» — толькі 33. Прычым «Fidesz» прайграў не толькі ў адной акрузе. На думку палітолагаў, вынікі апошніх выбараў маюць гістарычны характар, паколькі гэта першая перамога апазіцыі ў падобных дуэлях з «Fidesz» з 2006 года. Наколькі можна сапраўды казаць пра трэнд, даведаемся ў красавіку, калі на адной з акругаў пройдуць яшчэ адны датэрміновыя выбары. Застаецца сказаць, што пакуль 21 працэнт венграў падтрымліваюць «Fidesz». Гэта менш, чым увосень (28 працэнтаў), аднак усё роўна вельмі шмат у параўнанні з іншымі партыямі.

### Дарыга Назарбаева



Дэпутат казахскага парламента, дачка прэзідэнта, апынулася ў цэнтры грамадскай увагі пасля таго, як 24 лютага стала вядома пра смерць яе былога мужа Рахата Аліева, бацькі траіх яе дзяцей. Рахат Аліеў — былы бізнесмен, зяць Назарбаева, у свой час падаўся ў апазіцыю. Гэта каштавала яму эміграцыі ў Аўстрыю, завочнага прысуду на радзіме тэрмінам у 40 гадоў, аднабаковага разрыву шлюбу і патрабавання Астаны на адрас Вены выдаць яго як падазраванага ў забойстве нейкага камерсанта. Аўстрыйскія ўлады, баючыся, што ў Казахстане Аліева засудзяць, вырашылі правесці суд на месцы. Такі падыход прымусіў іх трымаць Аліева ў аднамеснай камеры, дзе яго і знайшлі павешаным. Хаця Дарыга доўгі час не падтрымлівала адносін з былым мужам (у Аліева ў Аўстрыі з'явілася новая сям'я, і нават былі дзеці) пайшлі чуткі, што Назарбаева патрабуе прывезці цела Рахата на радзіму, дзе і пахаваць яго. Праўда, шмат хто не верыць у шляхетнасць Дарыгі. Пішуць, што вяртанне цела Аліева ў Казахстан можа быць часткай аперацыі спецслужбаў з мэтай схаваць сляды забойства галоўнага апанента Нурсултана. Скепсіс наконт версіі пра суіцыд Аліева вельмі вялікі. Вядома, што нябожчык скардзіўся на тое, што яго жадаюць забіць у камеры. Нядаўна ён напісаў адкрыты ліст бацьку, у якім сцвярджаў, што мае шмат планаў. Таксама стала вядома, што вакол будынку суда ў Вене ўвесь час круціліся агенты казахстанскага Камітэту Нацбяспекі (КНБ).

### Рауль Кастра



Старшыня Дзяржсавету Кубы і лідар мясцовай Камуністычнай партыі (адзіная легальна дзеючая палітычная сіла ў краіне) прыняў рашэнне аб скліканні ў красавіку 2016 года VII з'езду партыі. Сярод іншага дэлегатам з'езду будзе прапанавана разгледзець ідэю прыняцця новага закона аб выбарах. На базе новага закону плануецца правесці парламенцкія выбары ў 2017 годзе, па выніках якіх сфармаваць новы ўрад. Заходнія СМІ адзначаюць, што пакуль не зразумела, чым новы закон аб выбарах будзе адрозніваць ад дзеючага цяпер, які гарантуе камуністам стопрацэнтны кантроль над парламентам. Выканаўчую ўладу на Кубе, як вядома, ажыццяўляе старшыня Дзяржаўнага Савета (кіраўнік дзяржавы), які на практыцы аднachасова з'яўляецца і генеральным сакратаром Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Кубы. Тое, што ўрад, які будзе сфармаваны па выніках выбараў 2017 года, пачне працаваць толькі ў 2018 годзе, на думку шмат каго кажа, што Гавана проста цягне час, каб адтэрмінаваць сапраўдныя перамены.

# Дзядзька Рыгор

## ДЗЁННІК ВЫБРАНЫХ СУСТРЭЧ



Лошыцкі парк, 2005 г.

**Працяг. Пачатак у № 7**

Сяргей ШАПРАН

### 2003

**22 чэрвеня.** У дзесяць хвілін а дзясятай вечара патэлефанаваў Барадулін. Па голасе было зразумела, што адбылося нешта кепскае. «Рыгор Іванавіч, што здарылася?» — «Васіль памёр». Павісла доўгая паўза... Быкаў памёр гадзіну таму. Барадуліну паведаміў пра тое Сяргей Законнкаў...

**25 чэрвеня.** Хавалі Васіля Уладзіміравіча... Падчас развітання ў Доме літаратара Барадулін ледзь не зарыдаў — твар яго сказіўся ад гора, ён неаднойчы ставаў на калені перад труной. Глядзець на гэта было немагчыма. І хоць гэта было не зусім так, але здавалася, што ніхто не быў настолькі несуцяшальны, як Барадулін...

Падчас жа кароткага выступлення гаварыў крыху блытана. Казаў, у прыватнасці, што для яго тры найдаражэйшыя імёны: Бог, мама і Васіль. Выказваў шкадаванне, што не пачуе больш быкаўскага «Рыгорка»... Пасля ён сядзеў у асобным пакойчыку і нешта пісаў, каля яго ляжаў невялічкі пакуначак з вушацкай зямлёй, якую прывезла з Бычкоў Наталля Крывец з «Камсамолкі»... Ужо на могілках Барадулін, абвясціўшы, што гэта вушацкая зямля, кінуў яе на труну.

### 2004

**14 лютага.** Быў у Барадуліна ў бальніцы, дзе ён прабудзе, відаць, не менш трох тыдняў. Тут жа былі Валянціна Міхайлаўна і Дамініка. Дзядзька Рыгор першым чынам распавёў, што ўчора пасля службы ў мячэці ўзарвалі машыну Яндарбіева. Самому Яндарбіеву адарвала ногі, а яго пятнаццацігадовы сын з апёкамі патрапіў у шпіталь. Часам раней забілі і двух сваякоў Яндарбіева. «Гэта ўсё ФСБ, — са скрухай казаў Барадулін. — Род Яндарбіева вынішчаюць».

**15 лютага.** Дзядзька Рыгор тройчы тэлефанаваў з бальніцы — чытаў новыя эпіграмы:

*Як ні сьвярбела ў срачцы паклёпам,*
*А голае ісьціны не зацёрлі.*
*Усім часовым уладахопам*
*Генадзь Бураўкін,*
*Як костка ў горле...*

***

*Я ў адпадзе ад Вовы Някляева*
*І ад ягонага акаляева,*
*Пафасна-найкрытычнага,*
*Бахусна-эратычнага.*

Між іншым, я ўчора запытаўся, а ці ёсць у яго эпіграмы на самога сябе? Барадулін: «Былі-былі. Я прыгадаю». Валянціна Міхайлаўна: «Рыгор, калі няма, дык трэба напісаць». І сапраўды, сёння дзядзька Рыгор напісаў:

*За славай пёр, як на ражне,*
*Аж адусюль сьвістала полымя.*
*А слава паказала мне*
*Свае дзьве палавінкі голыя.*

**26 лютага.** Быў у Барадуліна разам з маім сябрам Андрэем Палудам. (Паходжаннем з мястэчка Бялынічы, Андрэй выхоўвае двух сыноў і раней працаваў у міліцыі, але не здолеў больш трываць ментаўскія парадкі і звольніўся, цяпер быў у складзе нефармальнай арганізацыі «Зубр». Андрэй адразу спадабаўся Барадуліну, ён пасля казаў, што не думаў, што ёсць яшчэ ў правінцыі такія чыстыя людзі.) Тады ж дзядзька Рыгор сказаў пад дыктафонны запіс — у знак удзячнасці за той артыкул, які па маёй просьбе Уладзімір Някляеў напісаў для «БДГ» да дня яго нараджэння: «Дарагі, залаты мой Валодзенька, Вовачка мой! Я да сораму радасны за твае цёплыя словы, я нават і не чакаў. Я ведаў, што ты самы далікатны, самы чулы, самы ўдзячны, удзячна-помлівы, але што такі... Відаць, з усяго, што пра мяне калі-небудзь пісалася, гэта самае лепшае. Баюся сказаць, але гэта як развітальнае слова са мной, — настолькі яно шчыра напісана. Але думаю, што яшчэ дажыву да твайго круглага юбілею і пастараюся таксама нешта напісаць, хоць бледна, але падобна, як ты... У мяне многа было ў гады працы ў выдавецтве так званых сяброў — засталіся ж пералічаныя адзінкі. І сярод гэтых некалькіх сяброў нумар адзін — ты, зорка нашай літаратуры, душэўны, таленавіты, шалёна-малады і шалёна-філасофскі мудры. Такія нараджаюцца раз у стагоддзе. Ты і для таго стагоддзя быў самы яркі — думаю, і для гэтага застанешся самы яркі. Не тое, што застанешся — ты застаешся самым яркім нашым паэтам гэтага стагоддзя. Ну, ужо наступнага стагоддзя, відаць, не дачакаешся, але, па-мойму, і двух стагоддзяў для аднаго чалавека хопіць. Так што, будзь здароў, чакаю цябе, люблю цябе, шаную цябе. Заўсёды помню твой голас, тваю ўсмешку, твае вочы. І хай, Валодзенька, у цябе ўсё стаіць!» (Калі даслаў гэтае слова Някляеву, ён адказаў: «А Барадулін сказаў мне па тэлефоне, што ён больш прыдурваецца, чым хварэе. Наўрад ці?..» Дзядзька Рыгор, калі пераказаў яму тое, нічога не запярэчыў, толькі ўсміхнуўся. Увогуле, ён дужа любіў свайго сябра, што, зрэшты, не замінала часам іранізаваць над ім — так, калі Някляеў неяк прыехаў ці то з Польшчы, ці то з Фінляндыі, Барадулін усклікнуў: «Сонца нашай паэзіі з'явілася!»)

**30 сакавіка.** Быў у Барадуліна — ён зноў у бальніцы.

**І ў 70 гадоў Барадулін быў па-ранейшаму на кані**

Выглядае кепска і гаворыць ледзь чутно, і калі ходзіць, дык робіць зусім ужо маленечкія крокі. Я пытаюся: «Як вы пачуваецеся?» — «Лепей-лепей». — «Як жа «лепей»?! Што, было яшчэ горай?» — «Было некалькі дзён таму. Але дактары вылечылі...» Пытаюся, хто да яго прыходзіць? — былі Генадзь Бураўкін, Алесь Камоцкі... Потым доўга гаварылі пра маю быкаўскую кнігу. Калі скончу яе, казаў я, хацеў бы пасля падрыхтаваць першыя варыянты аповесцей Васіля Уладзіміравіча — без цэнзуры і ўмяшальніцтва рэдактуры. Барадуліна гэтая задума дужа зацікавіла. Праўда, ён прапанаваў зрабіць кнігу не з аповесцей, а толькі з тых купюр, што нарабіла цэнзура.

Ужо на развітанне дзядзька Рыгор зноў надыктаваў ліст Някляеву: «Дарагі Валодзенька, дарагі, залаты мой сябра! Я настолькі рад, што ты ёсць, настолькі ўдзячны табе за памяць, за тваю ласку, за тваю ўвагу... Разумееш, Валодзя, многа было знаёмых, многа было так званых сяброў, але цяпер нікога практычна не засталося — застаўся ты адзін, мой самы дарагі, мой самы блізкі, самы верны. І я жадаю табе самага светлага, каб ты доўга быў, доўга радаваў і Беларусь, і людства, і самога сябе. Хай у цябе будзе ў душы спакой і раскутасць. Хай у тваёй душы будзе Бог».

**17 чэрвеня.** Разам з Барадуліным, Валянцінай Міхайлаўнай і Міхасём Скоблам сабраліся ў Бычкі паглядзець наноў адбудаваны Музей Васіля Быкава. Яшчэ пры выездзе з Мінска машына ў Міхася раптоўна заглохла. З цяжкасцю выклікалі аўтаслесара, бо адзіная магчымая паслуга па ўсіх тэлефонах — эвакуатар. Пакуль чакалі слесара, пакуль ён рамантаваў, прайшло каля трох гадзін. Але мяне ўразіў Барадулін, які знешне абсалютна спакойна паставіўся да гэтай гісторыі і ніяк не выказваў незадавальнення, хоць у яго балела галава. Я яшчэ выказаў засцярогу, што мо гэта Васіль Уладзіміравіч хоча сказаць: маўляў, не дурэйце і вяртайцеся? Дзядзька Рыгор нічога на гэта не сказаў, але, як падалося, яго адольвалі тыя ж самыя сумненні. (Ужо калі з'ездзілі ў Бычкі і вярнуліся дамоў, Міхась, патэлефанаваўшы, распавёў, што быў уражаны, калі прачытаў ва ўспамінах Валянціна Болтача, што калі Быкаў ехаў у бок Вушачаў, практычна заўсёды нешта здаралася з яго машынай, прычым недзе там, дзе зламалася і наша машына, — у раёне Бараўлянаў.)

Далей ужо да Бычкоў дабраліся без перашкодаў. Быкаўскі музей уразіў яркім колерам і навізной. Невыпадкова сястра Быкава Валянціна Уладзіміраўна пасля сказала: «Хата мая як цэркаўка стала, нават не пазнала яе». (Ужо вярнуўшыся ў Мінск, сказаў Бураўкіну, што абсалютна забыўся ў Бычках пра Быкава — так музей не падобны на старую хату. Генадзь Мікалаевіч адказаў, што цяпер наша задача заключаецца ў тым, каб там з'явіўся дух Васіля.)

**8 лістапада.** У рэдакцыю прыходзілі Барадулін і Ганад Чарказян. Дзядзька Рыгор некалькі разоў радасна прачытаў такі верш:

*Разрубил берёзу на поленья*
*Он одним движением руки.*
*Мужики спросили: «Кто ты?!»*
*— «Ленин». И оп...нели мужики!*

Да таго ж расказаў такі анекдот. Сямічасны (ці хто тады быў старшынёй КДБ СССР?) кажа Герэку, першаму сакратару польскай камуністычнай партыі: «У вас ёсць пісьменнік Міцкевіч. Ён вельмі дрэнна гаворыць пра рускіх і Расію». — «Дык ён жа памёр!» — «Вы правільна зразумелі маю думку».

**7 снежня.** У Доме літаратара адбылася прэзентацыя альбома Зміцера Вайцюшкевіча і «WZ-Orkiestra» «Паравоз кахання» на вершы Барадуліна (Зміцер жартуе, што на рускую мову назву альбома можна перакласці як «Дрезина чувств»). Супрацоўнічаць яны пачалі год таму, калі Барадулін адмыслова для Вайцюшкевіча напісаў песні «Мілавіца» і «Як сустракаеш Новы год». Астатнія адзінаццаць песень для альбома Зміцер падабраў сам. У «абавязкі» ж дзядзькі Рыгора ўваходзіла напісаць прыпевы там, дзе трэба, і, апроч таго, сачыніць да кожнай песні нешта кшталту эпіграфа. Адзін, да прыкладу, быў такі:

*Пан не пытае ў пані пра гады,*
*Бо пані маладая заўсягды.*

Аднак, як заўважыў Вайцюшкевіч падчас канцэрта, паколькі публіка сабралася дарослая, таму можна прачытаць і першапачатковы варыянт:

*Пан не пытае ў пані пра гады,*
*Калі ў яго як певень малады.*

Ужо ўвечары, калі пазваніў Барадуліну, каб распытаць пра супрацоўніцтва з Вайцюшкевічам (бо рыхтаваў матэрыял для «Камсамолкі»), дзядзька Рыгор агучыў трэці варыянт:

*Пан не пытае ў пані пра гады,*
*Бо ў пані маладая заўсягды.*

«Трохі такая хуліганская», — усміхнуўся ён. Дарэчы, Змітру дзядзька Рыгор прысвяціў такія радкі:

*Агонь у паглядзе*
*— І лэдзі ў адпадзе!*

(Першапачаткова быў іншы варыянт: «...І б-дзі ў адпадзе!»)

### 2005

**20 лютага.** Разам з Барадуліным і Кухарскім ездзілі ў Лошыцкі парк фатаграфавацца на кані. Наогул кажучы, калі першапачаткова Барадулін паставіўся да гэтай ідэі цалкам станоўча (я ўжо ўяўляў гэтыя будучыя фотаздымкі пад двухсэнсоўным загалоўкам «Рыгор Барадулін і ў 70 гадоў па-ранейшаму на кані»), дык пасля ніякай радасці чамусьці не выказваў. І я прапанаваў паехаць разам з намі Пётры Кухарскаму, бо быў перакананы: калі паедзе Пётра, згоду дасць і дзядзька Рыгор.

Покуль ішлі па парку, на Барадуліне, што называецца, не было твару (ужо пасля ён прызнаўся, што дужа хваляваўся — баяўся, што конь не вытрымае яго). Адмыслова для яго прывялі са стайні самую спакойную кабылку, а пасля дапамаглі ўзлезці на яе (дапамагаў найперш Пётра). Аднак на яго твары па-ранейшаму не было нават ценю радасці... Зрэшты, трохі засвоіўшыся, дзядзька Рыгор не толькі пачаў вясёла ўсміхацца, але нават пераможна падняў сціснутую ў кулак руку, і ў стайню потым не пайшоў, а паехаў. Апынуцца ж на зямлі яму дапамог Пётра, які, згробшы дзядзьку Рыгора ў ахапку, зняў яго як мех са збожжам. З парка Барадулін выходзіў з іншым, процілеглым першапачатковаму настроем.

**22 лютага.** Патэлефанаваўшы, не пазнаў голас Барадуліна — ён захварэў на грып. У выніку юбілейныя вечарыны ў Доме літаратара і ў Чырвоным касцёле адмяніліся самі сабой.

**Працяг будзе**

# Польскія каланісты ў Заходняй Беларусі



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Яны павінны былі стаць правай рукой уладаў Другой Рэчы Паспалітай ва ўсходніх ваяводствах. Аднак пасля 17 верасня 1939 года менавіта гэта катэгорыя жыхароў Заходняй Беларусі больш за ўсё пацярпела.**

## Зямля за службу ў войску

Яшчэ ў снежні 1920 года заканадаўчы Сейм прыняў закон аб надзяленні зямлёй жаўнераў Войска Польскага, якія ўдзельнічалі ў баявых дзеяннях супраць бальшавікоў. Планавалася, што надзелы будуць выдавацца ва ўсходніх ваяводствах. У выніку ў 1939 годзе на ўсходзе Рэчы Паспалітай пражывала каля 9 тысяч вайсковых асаднікаў з сем'ямі.

Сярэдні памер асадніцкай гаспадаркі складаў 18 гектараў. Улады спрабавалі сяліць ветэранаў польска-бальшавіцкай вайны 1920 года побач, каб ствараць своеасаблівыя польскія анклавы ў няпольскіх Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне. Значная частка каланістаў ніколі не займалася сельскагаспадарчай працай, але мела сярэднюю і нават вышэйшую адукацыю. Для развіцця вайсковага асадніцтва ў польскіх банках адкрываліся крэдытныя лініі. Самі былыя вайскоўцы таксама стваралі крэдытныя касы ўзаемнай дапамогі, сельскагаспадарчыя гурткі і народныя дамы.

Асаблівую ролю вайсковыя асаднікі адыгрывалі ў развіцці тэрытарыяльнага самакіравання. Па дадзеных польскіх даследчыкаў, у 1933 годзе ў такой дзейнасці ўдзельнічала больш за 700 ветэранаў польска-бальшавіцкай вайны 1920 года, якія атрымалі зямлю ва ўсходніх ваяводствах. 58 чалавек былі войтамі, а 11 сталі бургамістрамі. Пасля выбараў 1934 года ў органы мясцовага кіравання 561 асаднік стаў саветнікам кіраўніцтва гміны, 115 — войтамі, 26 — падвойтамі, 193 — членамі саветаў паветаў.

## База садзейнічання КАП

Адным з важных роляў, якія адводзілі асаднікам, былі супрацоўніцтва і дапамога Корпусу аховы памежжа. Па сваёй сутнасці вайсковыя асаднікі, якія жылі на «рыжскай мяжы» ў Заходняй Беларусі, выконвалі тую ж функцыю, што і памежны актыў і базы садзейнічання на тэрыторыі БССР для савецкіх памежнікаў. У выпадку небяспечнай сітуацыі, каланісты павінны былі прыйсці на дапамогу бліжэйшай да іх стражніцы КАП. Таксама асаднікі павінны былі сачыць і за памежнай дыстанцыяй. Такая сітуацыя была, напрыклад, у Рубяжэвічах, дзе амаль 15 былых жаўнераў 1-й брыгады Юзафа Пілсудскага атрымалі зямлю амаль на самай мяжы з савецкай Беларуссю. Пры гэтым, людзей, якія жылі ля кардона, польскі ўрад узбройваў. Асаднікі атрымлівалі вінтоўку і запас патронаў. У пачатку 1920-х гадоў, калі на тэрыторыі Заходняй Беларусі па лініі «актыўнай выведкі» дзейнічалі савецкія дыверсанты, асаднікам выдавалі нават гранаты, каб тыя, у выпадку нападу на іх маёнтак, маглі пратрымацца да падыходу польскіх памежнікаў.

У 1930-х гадах з ветэранаў вайны 1920 года стварылі неафіцыйныя атрады, з якімі праводзіліся інструктажы і вайсковыя заняткі. У абавязкі такіх фарміраванняў уваходзіла назіранне за памежнай мясцовасцю, а таксама патруляванне дарог у начны час. Калі асаднікамі затрымлівалася падазроная асоба, то прадпісвалася перадаваць яе ў аддзяленне Дзяржаўнай паліцыі ці на стражніцу КАП. Гэтыя паліцэйскія функцыі асаднікаў негатыўна ўплывалі на фарміраванне адносінаў паміж каланістамі і мясцовым беларускім насельніцтвам, якое небеспадстаўна лічыла суседзяў чужымі на гэтай зямлі.



Асаднікі, Стоўбцы, 1934 год

Дарэчы, асадніцтва крытыкавалася не толькі з боку беларусаў, але і з боку польскіх палітычных партый, якія называлі яго — «кепска падрыхтаваным эксперыментам». Польская ўлада, асабліва ў канцы 1930-х гадоў, пачала разумець, што жорсткая паланізацыйная і каланізацыйная палітыка на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны не толькі не супакоіць насельніцтва гэтых рэгіёнаў, але паўплывае на пашырэнне прасавецкіх настрояў сярод палешукоў. Таму рабіліся спробы інтэграцыі аўтахтоннага насельніцтва і польскіх каланістаў. Акцэнт рабіўся на развіццё асадніцкіх гаспадарак і пашырэнне выкарыстання наёмнай працы ў іх. Аднак да пачатку Другой сусветнай вайны сітуацыю ў адносінах паміж мясцовым насельніцтвам і асаднікамі ў лепшы бок змяніць так і не ўдалося.

## Масакра верасня 1939-га

Яшчэ да пачатку «вызвольнага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь» дзеячы камуністычнага падполля пачалі рыхтаваць спісы прадстаўнікоў польскай адміністрацыі, вайсковых уладаў, паліцэйскіх і асаднікаў, якія падлягалі знішчэнню. А 17 верасня 1939 года менавіта асаднікі сталі галоўным аб'ектам агрэсіі з боку мясцовых падпольшчыкаў і актывістаў. У першыя дні вызвалення забойствы адбыліся ў 13 асадах Палескага ваяводства, 11-ці — Навагрудскага, 4-х — Беластоцкага і 1-го — Віленскага. Цікава, што ў верасні 1939 года найменш злачынстваў супраць асаднікаў адзначана на Валыні. Больш таго, вельмі часта там мясцовыя сяляне-украінцы ратавалі каланістаў ад рэпрэсій савецкіх уладаў. Цяжка ўявіць, што праз чатыры гады на той жа Валыні адбудзецца масакра польскага насельніцтва.

У верасні 1939 года найбольш жорсткія забойствы былых удзельнікаў польска-бальшавіцкай вайны 1920 года і іх сямей адбыліся ў Беластоцкім ваяводстве. Пасля пераходу Чырвонай Арміі «рыжскай мяжы» ў вёсцы Обухава быў створаны сялянскі камітэт, кіраўніком якога стаў член КПЗБ Уладзімір Янучэня. 20 верасня рашэннем гэтага органа ў асадзе Будоўля ўзброеныя сяляне схапілі семярых жыхароў асады і аднаго паліцэйскага. Праз дзень схапілі яшчэ парučніка польскага войска і солтыса вёскі Мар'янаўка. У польскага афіцэра рэквізавалі 7 тысяч злотых (відавочна, рэшткі палкавой касы). Апошніх двух вывелі на праваслаўныя могілкі, прымусілі распранучца і расстралялі.

Асаднікаў, арыштаваных у Будоўлі, катавалі і прымушалі пакаяцца за іх удзел у вайне з бальшавікамі ў 1920 годзе, а 23 верасня павялі затрыманых у бок Жыдомлі і па дарозе ўсіх расстралялі. Пазней, калі мясцовыя жыхары знайшлі трупы ахвяр, аказалася, што перад смерцю з іх моцна здзекаваліся. Падобная трагедыя адбылася і ў вайсковай асадзе Лерыполь. 22 верасня 1939 года ў населены пункт увайшла група ўзброеных сялян. Яны забралі мужчын-асаднікаў і павялі іх у вёску Курпікі. Па дарозе людзі з чырвонымі апаскамі забілі сем чалавек, а пазней пакаралі смерцю яшчэ трох асаднікаў. Апошняй ахвярай забойцаў стаў асаднік па прозвішчу Галінскі, які спрабаваў уратавацца ў доме сваёй жонкі-беларускі. Аднак яго знайшлі і падчас пагоні забілі.

Забойствы асаднікаў у верасні 1939 года адбываліся па ўсёй Заходняй Беларусі. У Стаўбцоўскім павеце людзі з чырвонымі апаскамі забілі солтыса асады Пазіневічы і вайсковага асадніка Малейчыка. Людзей пазбавілі жыцця за тое, што ў свой час яны дапамагалі КАП. 5 асаднікаў былі забітыя ў асадзе Марцінаўка ў Пінскім павеце.

У 1993 і 1998 гадах сын аднаго з забітых жыхароў Лерыполя, грамадзянін Польшчы, звяртаўся ў беларускую пракуратуру з заявай аб правядзенні фармальнага следства па дадзенай справе, аднак беларускі бок адмовіўся ад следчых дзеянняў, матывуючы рашэнне «адсутнасцю ў справе складу злачынства».

## Жахі дэпартацыі

Падзеі верасня 1939 года былі толькі першым актам у трагедыі польскіх каланістаў у Заходняй Беларусі. Паводле дакументаў НКУС, за першы год савецкай улады ў Заходняй Беларусі ў рукі савецкіх спецслужбаў трапіла каля 1000 асаднікаў. Большасць з іх трымалі ў турмах заходніх абласцей БССР, а пазней накіроўвалі ў распараджэнне мінскага НКУС.

5 снежня 1939 года Саўнаркам СССР прыняў рашэнне аб дэпартацыі асаднікаў і іх сямей з далучаных да Савецкага Саюза тэрыторый. Вывазу ў Архангельскую, Валагоцкую вобласці, Аўтаномную Рэспубліку Комі, за Урал, Краснаярскі, Алтайскі край і Казахстан падлягалі не толькі ветэраны польска-бальшавіцкай вайны 1920 года і іх сем'і, але і цывільныя асаднікі.

Першая хваля дэпартацыі адбывалася 10 лютага 1940 года, падчас якой з Заходняй Беларусі было вывезена больш за 40 тысяч чалавек. Пазней, у выніку другой (13 красавіка 1940 года), трэцяй (чэрвень 1940 года) і чацвёртай (май-чэрвень 1940 года) хваляў дэпартацый, савецкія ўлады паспрабавалі канчаткова знішчыць нават успамін пра польскіх каланістаў. Адзінкі з тых, хто перажыў «першыя Саветы» і нацысцкую акупацыю Беларусі 1941–1944 гг., пазней выехалі ў сацыялістычную Польшчу. Пасля Другой сусветнай вайны атрымалі магчымасць вярнуцца на радзіму і тыя, хто быў дэпартаваны перад вайной і выжыў у савецкай глыбіні.



Дзеці беларускіх сялян. Палессе, сярэдзіна 1930-х г.

***25 лютага Ігар Мельнікаў быў узнагароджаны прэміяй Вацлава Ластоўскага за значны ўнёсак у даследаванне і папулярызацыю беларускай гісторыі і культуры. Віншуем!***

# Свята роднай мовы: пацыент хутчэй жывы

Ганна МЫЗЕНКА

**«Кажы па-руску!» — не вытрымлівае на трэцяй хвіліне размовы даўняя сяброўка, з якой мы не бачыліся шмат гадоў. Марыя вырасла, атрымала адукацыю і зрабіла неблагую кар'еру ў Беларусі. Але размова па-беларуску для яе — справа нязвыклая.**







Яна нічога не мае супраць мовы. Але пра гэтак званую «новую хвалю беларусізацыі» ў краіне яна, падобна, і не падазрае. Як і мільёны іншых беларусаў, хай сабе і маладых, адукаваных ды прагрэсіўных. Што ўжо казаць пра старэйшае пакаленне, сярод якога шмат тых, хто саромеецца свайго вясковага мінулага, у якім яны некалі размаўлялі па-беларуску.

Першыя не падазраюць, што па-беларуску можна размаўляць і ў паўсядзённым жыцці, другія працягваюць падманваць сябе, што руская мова для іх — родная. А ёсць яшчэ і тыя, хто наўпрост варожа ставіцца да беларускай нацыянальнай ідэі. У спалучэнні з новай дзяржаўнай палітыкай у дачыненні да роднай мовы, карціна атрымліваецца мудрагелістая.

### Адліга па-беларуску

Не прайшло яшчэ і года, як Аляксандр Лукашэнка пачаў час ад часу казаць прамовы па-беларуску і адзначаць, што роднай мове ў краіне ўдзяляецца недастаткова ўвагі. Следам пацягнуліся іншыя чыноўнікі. Нарэшце эстафету падхапілі і дзяржаўныя журналісты. Адначасова з гэтым фактычна спыніўся пераслед грамадскіх актывістаў, якія займаліся культурніцкімі праектамі і прасоўвалі нацыянальную ідэю ў масы.

Найлепшы прыклад — «Арт Сядзіба», вядомая бясконцымі вандроўкамі з памяшкання ў памяшканне менавіта праз сваю дзейнасць. Але за апошнія паўгода грамадскія актывісты без асаблівых перашкодаў зладзілі шэраг буйных і безліч дробных акцый. Найбольш вядомыя «Дзень вышыванкі» ды акцыя па раздачы мінакам стужачак з нацыянальным арнаментам.

Кіраўнік «Арт Сядзібы» Павел Белавус сцвярджае, што цяпер да супрацоўніцтва іх запрашаюць нават праўладныя структуры. «У Баранавічах гарвыканкам падтрымліваў свята «Снежань», — распавядае Павел, — вось учора Масленіцу каля «Чыжоўка-арэна» сумесна з Завадскім раёнам Мінска праводзілі. У асноўным прыйшлі людзі простыя, шмат хто сталага ўзросту, нехта, можа, і чарку ў гонар свята выпіў. Але з іх боку была вельмі пазітыўная рэакцыя. Усе нам плёскалі ў далоні, на ўсе нашы пытанні адказвалі, ва ўсіх конкурсах удзельнічалі. Раней казалі: «Беларуская мова — апазіцыя!» Цяпер Лукашэнка выказаўся пазітыўна пра мову, і чыноўнікі адразу: ага, значыць трэба варушыцца!».

### Знаёмыя ўсё твары

«Свята роднай мовы» 22 лютага актывісты «Арт Сядзібы» зладзілі з асаблівым размахам. Нават платны ўваход не перашкодзіў наведнікам цалкам запоўніць два паверхі бізнэс-клубу «Імагуру». Тут вам і магчымасць патанчыць народныя танцы, і паспяваць па-беларуску, і пагуляць у гульні, і пафатаграфавацца, і паслухаць выканаўцаў розных накірункаў, і абраць курсы беларускай мовы на ўласны густ і нават напісаць беларускую дыктоўку. А яшчэ безліч кніжак на роднай мове, значкі, упрыгожванні, посуд, бел-чырвона-белыя капкейкі, вышымайкі, вышымайткі...

Кантынгент наведнікаў традыцыйны для мерапрыемстваў гэткага кшталту: апазіцыйныя палітыкі, пісьменнікі, журналісты, праваабаронцы, грамадскія актывісты, удзельнікі шматлікіх культурніцкіх ініцыятываў. Фактычна, гэта ўсё тыя ж самыя насельнікі віртуальнай беларускамоўнай рэзервацыі, якая існуе на працягу апошніх дзесяцігоддзяў.

«Людзі розныя, — кажа Павел Белавус, — і класна, што больш шасць тут тых, хто гаворыць паміж сабой па-беларуску. У нас была задача стварыць такое жывое мерапрыемства, дзе людзі могуць пагаварыць, хто даўно адзін аднаго не бачылі, сустрэцца, абмеркаваць нешта. Наогул, гэта свята! Хто лічыць гэта святам, тых мы і запрашалі, а каму гэта не трэба, мы іх не прымусім гаварыць па-беларуску і хадзіць на такія мерапрыемствы».

Спыненне рэпрэсій у дачыненні да нацыянальна свядомых беларусаў з боку ўладаў ды поспех некалькіх грамадскіх ініцыятываў — ці дастаткова гэтага, каб казаць пра рост цікавасці да беларускай мовы ў грамадстве? Ці не падманваем мы сябе, калі верым, што па-за межамі суполкі ў фэйбуку людзі таксама жадаюць лепшай долі для роднай мовы?

Стваральнік моўных курсаў «Мова веда» Аляксей Шэін лічыць, што надзея на нацыянальнае адраджэнне ўсё ж такі ёсць. «Мне падаецца, што сапраўды пашыраецца інтарэс да беларускай мовы, да беларушчыны ўвогуле. Сапраўды, раней было вузкае кола беларускамоўных людзей у буйных гарадах, якія ўсе ведалі адзін аднаго. Зараз ты можаш ісці, ехаць у тралейбусе, трамваі — моладзь гаворыць па-беларуску, а ты гэтых людзей нідзе не сустракаў, не бачыў, сярод двух тысяч тваіх фрэндаў у фэйсбуку іх няма, яны не актывісты, не пісьменнікі, гэта проста звычайныя людзі», — кажа ён.

— На першы занятак курсаў «Мова веда» прыйшлі 80 чалавек, зараз засталося каля трыццаці. Гэта звычайны працэс. Застаюцца самыя трывалыя. 30 чалавек, каторыя пастаянна ходзяць, ці там у Глеба Лабадзенкі — больш за сто чалавек, а яшчэ ёсць тутбаеўскія курсы, а яшчэ курсы на ТБМ... Калі я курсы праводзіў у 2008-м годзе, асноўная лічба была каля 20 чалавек, бывала і па 40–50 чалавек збіралася. Але гэта былі адзіныя курсы на Мінск! Зараз розныя курсы наведваюць сотні людзей. Трэба прапанаваць якасны прадукт. Калі беларуская культура, беларуская літаратура, беларуская мова знойдуць падыход да сучаснага чалавека, тады мова зможа апанаваць беларусамі, калі не — мова застанецца на маргінальным узроўні.

Любая ідэя апаноўвае спачатку людзьмі творчымі, філасофскага складу мыслення, людзьмі інтэлігентнымі, а потым яна праз нейкі час даходзіць да астатняга грамадства. Гэта заканамернасць распаўсюду любой ідэі. Можа, зараз не дагрукацца да людзей, якія не цікавяцца культурай. А мы можам зараз прапанаваць праз культуру беларускую мову, яна нясе такую эстэтычную цікавасць, але не фінансавую і якую-небудзь. Але калі мы зможам у бліжэйшыя некалькі гадоў зацікавіць інтэлігенцыю, то яны потым — праз тое, што будуць журналістамі, эканамістамі, настаўнікамі, — змогуць транслíраваць гэта на ўсё астатняе грамадства.

### Пацыент хутчэй жывы

Сапраўды, культурніцкія ініцыятывы — найлепшы спосаб уліць свежую кроў у нацыянальны рух. Студэнтка Ганна на «Свяце роднай мовы» дапамагала гасцям на ўваходзе. Працаваць валанцёркай яна пачала ў снежні — раздавала стужкі з нацыянальным арнаментам. А дагэтуль толькі хадзіла на курсы беларускай мовы.

З гэтых жа самых курсаў і адзін з наведвальнікаў мерапрыемства — Юры.

«Мне даўно хацелася пачаць размаўляць па-беларуску, — распавядае ён. — Я пабачыў інтэрв'ю шведскага амбасадара, які размаўляў па-беларуску, а наш беларускі журналіст задаваў пытанні па-руску. Пасля гэтага я зразумеў, што мне трэба некуды пайсці вывучаць беларускую мову. У паўсядзённым жыцці ў мяне не заўсёды атрымліваецца размаўляць па-беларуску, але ж на працы я з сябрам размаўляю, лісты пісаць па-беларуску стала лягчэй. Так, у мяне ёсць мэта цалкам перайсці на беларускую мову, але застаецца сацыяльны бар'ер: калі суразмоўца нават не імкнецца размаўляць, то для мяне гэта няўтульна, каб я размаўляў па-беларуску, а ён па-руску, пры гэтым я не ведаю, як ён да гэтага ставіцца. Некаторыя ставяцца пазітыўна, некаторыя нейтральна, а некаторыя адмоўна».

«Не так у нас шмат месцаў, дзе такое асяроддзе прыемнае для беларусаў, — падтрымлівае Юрыя іншая госця свята, Галіна. — Можна і мову пачуць, і тыя ж кніжкі набыць. «Пана Тадэвуша», напрыклад, я шукаю ўжо даўно, але ні ў адной беларускай краме, дзе ні пыталася, няма... а вось тут я знайшла. Па-беларуску я размаўляю ў хаце і з незнаёмымі людзьмі, а на працы размаўляць — складаней».

Моцных духам людзей, якія, не маючы беларускамоўнага асяроддзя, мужна пераходзяць на мову, адзінкі. Чаго ім гэта каштавала, ведаюць толькі яны самі. Большасць жа гэтак і застаецца ў сваёй унутранай рэзервацыі. Праўда, і надзея ў іх пакуль яшчэ ёсць.

## Тэрмінова патрэбна дапамога!



Гэта Стрэлка. Яе знайшлі ля кафэ «Аазіс» у Раўбічах. Сабака наўпрост ляжаў на снезе і паміраў. Скура ды косці, некалькі ранаў... Яна ледзь падымала галаву і глядзела ў вочы. Аднак амаль усе праходзілі міма. Толькі адна маладая жанчына падышла да жывёліны, пакарміла, размясціла просьбу пра дапамогу ў сацыяльных сетках.

Зараз Стрэлка на перадтрымцы ў валанцёраў «Заашансу».

У яе сур'ёзны недахоп вагі (11 кілаграмаў замест 20), дзве застарэлыя раны, што патрабуюць лячэння, застуджаныя ныркі.

Ёй вельмі патрэбная дапамога! Калі вы не маеце магчымасці і жадання падарыць гэтай гаротніцы дом і догляд, дапамажыце хаця б грашыма.

Кантактныя тэлефоны: +375296561770; +375297755753, +375291911095

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Ліц. ЛП №02330/19 от 30.04.2004 №93. Замова № 263

Падпісана да друку 27.02.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.